


## Обращение Шверин фон Крозика к германскому народу по поводу капитуляции

ЛОНДОН, 7. (ТАСС). Как передает агентство Рейтер, германское радио передало 7 мая из Фленсбурга, что Дениц отдал приказ о безоговорочной капитуляции всех сражающихся германских войск. В радиопередаче было сказано:

«Говорит германское радио. Передаем обращение рейхс-министра графа Шверин фон Крозика к германскому народу:

«Германские мужчины и женщины! Верховное командование вооруженных сил по приказу гросс-адмирала Деница об'явило сегодня, 7 мая, о безоговорочной капитуляции всех сражающихся германских войск. В качестве ведущего министра имперского правительства, которому адмирал флота поручил ведать военными делами, я обращаюсь в этот трагический момент нашей истории к германской нации.

После героической борьбы с непревзойденной стойкостью в течение почти шести лет Германия уступила превосходящей силе своих врагов. Продолжение войны будет означать лишь бессмысленное кровопролитие и бесполезное разрушение. Правительство, чувствуя ответственность за будущее своей нации, было вынуждено действовать, учитывая крах всех физических и материальных сил, и просить противника о прекращении военных действий.

Это было благороднейшей задачей адмирала флота и правительства, поддержавшего его после страшных жертв, которые потребовались для того, чтобы спасти на последнем этапе войны жизнь максимального числа соотечественников. То, что война не была закончена немедленно и одновременно, на западе и востоке, должно об'ясняться единственно этой причиной. Завершается этот серьезнейший час для германской нации и ее империи.

В этот серьезнейший час для германской нации и ее империи мы сейчас исполнены чувства глубокого благоговения по отношению к погибшим в этой войне. Эти жертвы возлагают на нас высочайшие обязательства. Наше сочувствие, в первую очередь, принадлежит раненым, осиротевшим и всем, пострадавшим в этой борьбе. Никто не должен питать иллюзий по поводу суровости условий, которые будут поставлены германскому народу нашими врагами. Сейчас мы должны посмотреть в глаза нашей судьбе прямо и безоговорочно.

Никто не может усомниться в том, что будущее будет трудным для каждого из нас и что оно потребует жертв от каждого из нас во всех областях жизни. Мы должны принять это бремя и верно выполнять обязательства, которые мы на себя берем».



## ДАТСКАЯ ПЕЧАТЬ О СОВЕТСКИХ БОЙЦАХ

КОПЕНГАГЕН, 1 июня. (ТАСС). Датские газеты помещают подробные сообщения с острова Борнхольм. Корреспонденции полны восторженных отзывов о частях Красной Армии, освободивших от немецких оккупантов этот датский остров в Балтийском море. Все корреспонденты отмечают прекрасные взаимоотношения, установившиеся между населением Борнхольма и бойцами Красной Армии. Газеты помещают также десятки фотоснимков, изображающих жизнь советских бойцов. Корреспонденты отмечают культурность и высокую дисциплинированность красноармейцев.

В беседе с представителем одной из копенгагенских газет губернатор острова Борнхольм Стеманн заявил: «Иметь дело с русскими — это одно удовольствие. Русские солдаты и офицеры ведут себя образцово. Они желают только хорошего и добиваются спокойствия и порядка. Поведение русских очень импонирует датчанам».

Корреспондент газеты «Политикен» восторгается музыкальностью и артистическими способностями русских солдат. «Наши друзья из великой русской страны, — пишет он, — умеют захватывающе выражать свои чувства».

В настоящее время в Копенгагене среди бойцов движения сопротивления с большим энтузиазмом обсуждается вопрос о приглашении 200 красноармейцев с острова Борнхольм в гости в столицу Дании.

9 мая ў 1945-м прыпадала на сераду. Газета «Праўда» надрукавала тэкст Акту аб безагаворачнай капітуляцыі германскіх узброеных сіл з 6-і пунктаў за подпісамі Кейтэля, Фрыдабурга, Штумпфа — ад імя Германскага вярхоўнага Камандавання. Пад Актам — Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Аб абвяшчэнні 9 мая СВЯТАМ ПЕРАМОГІ за подпісамі Калініна і Горкіна — Старшыні і Сакратара. Апошняя старонка тым часам друкуе зварот графа Шверына фон Крозіка, рэйхс-міністра, да германскага народа, з прычыны капітуляцыі. *«Пасля гераічнай барацьбы з непераўзыдзенай стойкасцю на працягу амаль шасці гадоў Германія саступіла пераўзыходзячай сіле ворагаў. Працяг вайны будзе азначаць толькі бессэнсоўнае праліцце крыві і непатрэбнае разбурэнне. Урад, адчуваючы адказнасць за будучыню сваёй нацыі, быў вымушаны дзейнічаць, улічваючы крах усіх фізічных і матэрыяльных сіл, і прасіць праціўніка аб спыненні ваенных дзеянняў… Мы павінны прыняць гэты цяжар і правільна выконваць абавязкі, якія мы на сябе бяром».*

У другі дзень лета 1945 года, у суботу, ТАСС паведамляла з Капенгагена, што карэспандэнт газеты «Палітэкен» у захапленні ад музычнасці і артыстычных здольнасцей рускіх салдат. *«Мець справу з рускімі — гэта адно задавальненне. Рускія салдаты і афіцэры паводзяць сябе ўзорна. Яны жадаюць толькі дабра і дабіваюцца спакою і парадку. Паводзіны рускіх вельмі імпануюць датчанам».*

А ў некаторых дамах застаюцца малюсенькія — 7 на 11 см — кніжачкі для партызан, якія вучаць: «*Вораг хоча нашай зямлі, нашага хлеба, нашых даброт. Дай яму тры аршыны зямлі — магілу!..»*

# ІГАР ПАЛЫНСКІ: «Я НЕ АСАБЛІВА АБМЯЖОЎВАЮ СЯБЕ Ў ТЫМ, ШТО СЛУХАЦЬ»

*Уласны стыль — вось што вылучаюць прыхільнікі творчасці полацкага гурта Sumarok у альбоме «Мінор», які музыкі прэзентавалі ў сакавіку. Пра гэты адмысловы стыль, «Мінор» і загадкавае слова, якое стала назвай гурта, нам распавёў Ігар Палынскі, яго лідар.*




— Гурт утварыўся ў 2009 годзе як супольнасць прадстаўнікоў, якія жылі на мяжы бесклапотнага школьнага і няпростага дарослага жыцця. Мы любілі музыку і вырашылі, што анічога нам не дапаможа перайсці гэты рубеж і асіміляваціца ў новых статусах — студэнтаў і гэтак далей — лепш, чым яна. Мы не ўмелі граць, аднак паставілі мэту навучыцца разам. 2 чэрвеня у нас адбылася першая рэпетыцыя (дзе мы, па шчырасці, толькі білі па струнах і радаваліся, як гучна мы можам граць!), а ўжо 15 жніўня зладзілі першы канцэрт, памяці Віктара Цоя. Гэта быў класічны першы блін. Але прышпільна, што на ім быў наш бас-гітарыст, якога мы зараз чакаем з войска. Мы пазнаёміліся і пачалі граць разам толькі ў 2013-м.

Наогул, я не люблю ўзгадваць той час, бо гэта было вельмі смешна і па-дзіцячы. Аднак ужо ў канцы 2009 — сярэдзіне 2010 года — зваліся мы тады «Горад N» — пачалі з'яўляцца першыя адносна прыстойныя песні, некаторыя з якіх, кшталту «Тени» альбо «У сініх ветрах», мы выконваем зараз, нават уключылі іх у дэбютны альбом.

Назваліся Sumarok мы ў першыя дні 2014-га. Асабіста ў мяне старая назва моцна асацыявалася з усімі хібамі і няўдачамі, якія часта пераследвалі нас раней. Хацелася чуць штосьці нетрывіяльнае. Узгадаўся акустычны альбом лідаркі гурта «Ночные Снайперы» Дзіяны Арбенінай 2013 года. Там была песня Sumarok, напісаная ёю на прыдуманай мове. Спыталі дазволу, дазвол атрымалі (таму я кажу, што Дзіяна Арбеніна — наша хросная маці) і абвясцілі пра новую назву. Адыгралі 2 студзеня 2014 года вялікі кватэрнік, на пару гадзін, адспявалі вельмі шмат старых песень, каб канчаткова паставіць кропку ў іх існаванні, і абвясцілі пра змену назвы. Калі пытаюцца, што яна абазначае (а варыянты розныя — і словы «сумны рок», і слова «сумерки»), адказваю: нічога падобнага, не шукайце асацыяцыі, а проста слухайце нашы песні, і тое, што вы адчуеце ў сабе (калі адчуеце, вядома), і ёсць Sumarok.

**— Наколькі папулярная ваша музыка ў горадзе?**

— Прынамсі, нас ведаюць. Вось літаральна сёння цыгарэтку на вакзале стральнуў хлопец гадоў 22—23-х, і кажа: «А вы не з гурта Sumarok?» Аказваецца, ён быў на нашым канцэрце ў чэрвені 2014-га, тады і запомніў. Прыемна, калі людзі падпяваюць, ведаюць словы.

**— Вы пазіцыянуеце сябе як гарадскі гурт ці збіраецеся захапіць музычны свет?**

Я кажу, што мы граем беларускі рок. Няважна, на якой нават мове (у нас ёсць песні і рускамоўныя, хоць і меней, чым беларускамоўных; плануем паэксперыментаваць з украінскай і польскай мовамі) — важны настрой.

Лакальным гуртам наш калектыў я б не называў — якраз у Полацку мы выступаем не так часта, магчыма, з-за таго, што ў нас і «двіжу» асаблівага няма. Наогул стараемся выкарыстаць любую магчымасць, каб пайграць для людзей, не істотна дзе. Выступілі аднойчы ў Пскове з акустыкай — завуць цяпер з электрычнасцю, паедзем туды. Вельмі хочам пракаціць альбом па Беларусі, аднак не так і проста гэта, не маючы кантактаў з арганізатарамі канцэртаў. Усё ж ў сталіцы і абласных цэнтрах больш магчымасцей, прасцей наладзіць сувязі… Аднак стараемся прабівацца, як можам!

**— З якімі складанасцямі вы сутыкнуліся ў развіцці сваёй творчасці?**

— У эпоху інтэрнэту наракаць на нізкую папулярнасць праз адсутнасць піяру было б няшчыра. Галоўнае — граматна ўсё зладзіць. Вось выпусцілі альбом — пасыпаліся рэпосты як цалкам, так і асобных песень, вырасла колькасць падпісантаў суполкі, праглядаў. Ды і мы імкнёмся распаўсюджваць звесткі пра сябе паўсюль, дзе толькі можна. Аднак, як ужо казаў, прамыя сувязі з арганізатарамі куды карысней — запісы запісамі, а пра папулярнасць сведчыць у першую чаргу тое, колькі людзей прыйдзе на канцэрт. Бо сёння слухач галасуе сваімі часам і рублём, гэта куды больш важка, чым рэпост у сацсетцы. Яшчэ адна складанасць — матэрыяльная: у нас няма сваёй рэпетыцыйнай базы і, на жаль, сродкаў для яе стварэння: на перыферыі цяжка зарабляць дастаткова. То бок, альбо ты працуеш з ранку да ночы і ў цябе ёсць крыху вольных грошай, але тады часу на музыку не застаецца, альбо ты зарабляеш, каб выжываць, затое ў цябе ёсць гітара і хоць крыху часу, каб ёй займацца. Мы ўсе ідзём па другім шляху; некаторыя ўдзельнікі гурта — студэнты, якія жывуць практычна на голую стыпендыю. Бубнач, напрыклад, жыве і працуе ў Віцебску, але кожныя выхадныя ганяе да нас на рэпетыцыі — пры заробку ў два з паловай мільёны рызыкнуў узяць крэдыт, каб набыць рабочы камплект… Карацей, шмат грошай сыходзіць на гэтую справу, і часам адмаўляеш сабе нават у нармальнай ежы, каб набыць камплект струн ці што яшчэ.

Альбо ты працуеш з ранку да ночы і ў цябе ёсць крыху вольных грошай, але тады часу на музыку не застаецца, альбо ты зарабляеш, каб выжываць, затое ў цябе ёсць гітара і хоць крыху часу, каб ёй займацца

**— Апішыце свайго слухача.**

— Я бачу нашага слухача чалавекам любога полу і ўзросту, які ўмее думаць, слухаць, чуць і адчуваць.

**— Як знайсці мяжу паміж жаданнямі — быць папулярнымі і быць арыгінальнымі?**

— Каб быць папулярным, трэба граць модную музыку. Нашу музыку моднай назваць цяжка, затое яна шчырая. Мне здаецца, гэта важней. Калі граеш дзеля таго, каб прыцягнуць увагу прыхільнікаў, трэба зусім у іншым стылі працаваць. Аднак асабіста я так рабіць не магу: як можна граць музыку, якой ты не дыхаеш, з якой не жывеш 24 гадзіны на суткі?.. І тут у творцы, які грае «нямодную» музыку, дылема: альбо ты гнеш сваю лінію і робіш

тое, што табе па сэрцы, напорыста шукаючы той ручай, які вынясе цябе ў раку тых, хто гатовы цябе слухаць і любіць, альбо ты пачынаеш граць нешта больш камерцыйнае, і гэта найчасцей выкідвае з цябе жаданне ствараць. Вынік звычайна сумны. Куды прасцей тым, каму на сэрца кладзецца тое, што завецца мэйнстрымам. Ён і шчаслівы, і папулярны. Калі з талентам бяды няма, канешне.

**— Што вы падрыхтавалі для тых, хто прыйшоў на прэзентацыю вашага альбома? Ці спраўдзіліся вашы чаканні?**

— Мы паклікалі выступіць сяброў — прадстаўнікоў полацкай сцэны. Гэта наш добры сябра рок-бард Стась Сілка; лідар гурта «Версия» Павел Сляпцоў, на песнях якога я, можна сказаць, вырас; гурт Indra, класныя дзяўчаты і хлопцы, якія давалі мне першыя ўрокі таго, як стаць музыкам у Полацку, гурт IAm — на іх базе мы рэпетуем, за што ім вялікі дзякуй! — і гурт «Александр Плечевой», вельмі нетыповы для нашай сцэны, але тут словамі не патлумачыш, трэба слухаць. Самі ж мы адыгралі ўсе песні, якія ўвайшлі ў альбом, і зайгралі беларускамоўны кавер на песню «Мяч» новага гурта Сяргея Міхалка Brutto.

Чаго чакалі, тое і адбылося — прыйшлі людзі, неабыякавыя да нашай творчасці. Былі і людзі зусім новыя, якія пасля падыходзілі і дзякавалі. Абалдзенна прыемна.

**— Ці складана ўвогуле арганізаваць такое мерапрыемства?**

— Калі ёсць такія сябры, як Полацкі рок-клуб LIVEinROCK на чале з Марынай Шэф, гітарысткай гурта Indra, — няма нічога немагчымага! Клуб працуе пры Полацкім гарадскім палацы культуры, дзе мы і ладзілі канцэрт; з апаратурай, на якой працавалі супрацоўнікі палаца культуры, праблем не ўзнікла. Хіба цягаць яе з сутарэнняў у залу не вельмі проста фізічна. Але, здаецца, някепска ўсё прайшло.

**— А якія ў вас уражанні ад уласнага альбома?**

— Я чакаў, што ўсё будзе куды больш сумна: мы перапісвалі ўвесь матэрыял чатыры разы, апрацавалі ў хатніх умовах — гэткі DIY-альбом. Дазводзілі і запісвалі на CD у апошні вечар перад канцэртам… Але зараз я слухаю, і мне падабаецца. Думаю, гэта лепшае, чаго мы маглі дасягнуць, маючы гітары, не самы магутны комп і адносна бюджэтную дыскрэтную гукавую картку. Вучыліся ўсяму ў працэсе — гукаінжынірынгу, звядзенню, майстарынгу… Ёсць хібы. Але я ўсё адно люблю гэты альбом. І водгукі, якія прылятаюць, сведчаць: усё недарма!

**— З якімі думкамі і пачуццямі ён ствараўся?**

— З рознымі зусім. Песні розных гадоў, некаторыя пісаліся ад шчасця, як «Год» — напісаў яе ад замілавання, бачачы, як мая жонка Даша вельмі міла спіць; некаторыя, наадварот, як «Ідзі» — рэквіем ахвярам тэракту ў мінскім метро. Запісвалі ў рабочай атмасферы, а на стадыі звядзення былі ледзь не войны — я адстойваў максімальную чытабельнасць усіх інструментаў і гармонію з вакалам, а некаторым хацелася больш драйву і яны пры гэтым былі гатовыя ахвяраваць голасам. Аднак, здаецца, кампраміс знайшлі.

**— Ці ёсць у вас куміры ў музычнай сферы, людзі ці гурты, у якіх вы нечаму навучыліся?**

— Асабіста я вельмі люблю гурт «Ночные Снайперы», творчасць Дзіяны Арбенінай і Святланы Сурганавай. Думаю, гэта моцна адбіваецца і на манеры выканання, і на інтанацыі тэкстаў — я вучыўся музыцы ў іх. З беларускай музыкі, апроч тых, каго я магу ўзяць і пазваць выступіць разам, як на мінулай прэзентацыі, — гурт BosaeSonca, гэта космас, па-мойму. Падабаецца «БульварЪ». Захапляюся «Мясцовым часам», колішняй наваполацкай легендай. З замежнай — MUSE люблю, SoAD (нечакана нават для сябе)… і вельмі люблю стары Nightwish, з Тар'яй на чале. А наогул, я імкнуся вучыцца ўвесь час ад усяго, што гучыць у дынаміках. І мне можа спадабацца вельмі шмат чаго, і з рок-н-ролу, і з металу, і з бардаўскай песні. Карацей, я не асабліва абмяжоўваю сябе ў тым, што слухаць. 

***Гутарыла Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***

Кірыл МЯЦЕЛІЦА

# УНІЗ ПА ВУЛІЦЫ



***Кірыл Мяцеліца нарадзіўся 28 чэрвеня 1990 года ў Віцебску. Скончыў гістарычны факультэт Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працуе журналістам. Любіць, калі вакол мала людзей і многа кніг.***

* * *

Я не ведаю,
якога чорта са мной зрадніўся
прыгарад, дзе з аднаго ў другое
пакаленне перадаваўся, як па ланцужку,
твой генны код. Дзе, узнімаючы галіны,
старая грушына ціха губляла долу
цяжкія кроплі пладоў.
Але, на жаль, чым далей
ты ад мяне, тым бліжэй мне гэта мясцовасць.
Кажу з упэўненасцю, не гледзячы,
што жыццё нашмат даўжэйшае,
чым можа дазволіць памяць.

І цяпер, згробшы ў бярэмя сухую рэштку —
абрыўкі дзён, эпісталярную макулатуру,
рэдкія фотаздымкі, твой голас — буду
цягацца з гэтай паклажай
ад хаты да хаты, як пагарэлец,
і наўздагон мне будзе несціся, пэўна,
адно толькі ёмістае
«Будзь ты пракляты!»

* * *

Подых ветру
і ледзь заўважны ў цемры
рух галінкі, што драпнула
цёплае паветра.

Шпацыруючы ўздоўж дома
ля клумбы,
дзе (сёння нябожчыца) суседка
гадавала жоўтыя вяргіні,
я ўглядаўся ў выцвелы аксаміт
гэтай травеньскай ночы
і чакаў цябе,
супакойваючыся толькі тым,
што адводзіў назад
гадзіннікавую стрэлку.

Дакурыўшы апошнюю цыгарэту,
я сплюнуў на брудны асфальт
і ляпнуў пад’езднымі дзвярыма.
Ты жывеш
На другім канцы горада.

Чаго я, уласна,
чакаў?

* * *

Я іду ўніз па вуліцы,
названай у гонар таго,
хто ніколі не бываў
у гэтым горадзе. Калі зрэзаць —
будзе пад*а*ць рукой
да месца сярэднявечных
пакаранняў і п’яных бунтаў.
Крыху лявей,
на прыступках касцёла святога В.,
як рыбы, выкінутыя
на камяністы бераг,
згрудзіліся жабракі.
Я адварочваюся. Удалечыні,
скрозь рэбры ясеневай алеі,
бачыцца
будынак у стылі барока. Яго фасад
упрыгожваюць антычныя багі
з моцнай мускулатурай.
Далей я праходжу кафэ
з дэкаратыўнай шыльдай
з векавога дубу,
на якой гатычным шрыфтам
сотню гадоў таму
напісана імя прадзеда
цяперашняга ўладальніка —
спадара О. У ранейшыя часы
я любіў бавіць тут час,
гартаючы ранішнюю газету і
абмяркоўваючы з заўсёднікамі дэфіцыт
унутранага бюджэту пад
лёгкую музыку. Noblesse oblige.
Цяпер не да гэтага,
і, звярнуўшы ў тупік,
я ўпіраюся тварам
у адсырэлы наждак сцяны,
ля якой нудны канваір
мяне праз дзесяць секунд
прыстрэліць.

**МАГІЛА ПАЎНДА**

У год, калі нейкі савецкі пісьменнік
атрымаў Нобелеўскую прэмію
за вытанчанасць і прыгажосць
братазабойства,
Эзра прыбыў у Вестмінстэрскае
абацтва,
каб развітацца з вялікім
англамоўным паэтам.
Захоўвалі маўчанне
адсырэлае жалобнае паветра
і пажоўклы мармур.
Твар старога,
грубы, як мясцовая архітэктура,
павольна камянеў. І катаракта
перашкаджала бачыць канец мадэрну.

Пройдзе сем гадоў,
і ўжо пра самога Паўнда скажуць,
што гэта ўсяго толькі смерць,
у Венецыі, як у Томаса Мана.
Да гэтага часу ў яго лістах
займеннікаў стане значна больш,
чым прыметнікаў,
і горла будзе цягнуцца да нажа
пераважна па звычцы.
У дзень пахавання
чацвёра гандальераў
у чорных плашчах і масках
сушылі вочы і вёслы,
даставіўшы нябожчыка на Сан-Мікеле.
У эпоху няправільнай геаметрыі
багі памерлі, таму за Харона
выконвалі працу людзі,
якія не пазбаўлены сантыментаў,
але вольныя ад лёгкасці
і дасканаласці формы.

Сціплы надмагільны камень
і яшчэ больш сціплыя эпітафіі.
Невядома, як ставіўся да такога
суседства
заснуўшы побач Стравінскі;
кажуць, што і пасля смерці
жаночаму асяродку
ён аддаваў перавагу
больш, чым мужчынскаму.
Зрэшты, і Паўнд таксама…

*Яніна ПІНЧУК*

# АПАВЯДАННІ



***Яніна Пінчук нарадзілася 31 ліпеня 1991 года ў Бабруйску. Скончыла факультэт міжнародных адносін БДУ. Любімы літаратурны напрамак — магічны рэалізм, бо любіць таямніцы і бачыць незвычайнае нават у штодзённым, з чаго і стварае новую рэальнасць. Захапляецца гісторыяй, палітыкай, замежнымі мовамі, жывапісам.***

## СПАТКАННЕ

Аблокі адчайна намагаліся трымаць структуру, але ўсё роўна ператвараліся ў шэрую масу з трывожнай рабізной, якая зеўрала празрыстымі прарэхамі. Ці пойдзе дождж? З-за тварожыстых аблокаў прарывалася прывіднае святло, што сустракаецца на карцінах старых майстроў: па колеры нейкае латуннае і змрочнае. Яно таксама навявала трывогу.

Экспазіцыя выдатная, і настрой — тое, што трэба. Дзіўнае зліццё: эфірны прысмак чакання, рамантычнай тугі — і ўраўнаважаная мэтанакіраванасць. Чаго ж мне хочацца: чытаць, пісаць, маляваць, а калі ісці — то куды? Аднак зараз, насуперак звычаю, я не раздзіралася сумненнямі, як бурыданаў асёл, мне хацелася проста жыць. А імкнулася я, у першую чаргу, на прыпынак тралейбуса.

Усё пачалося з кафэ. Дакладней, з яго згадкі на старонцы ў інтэрнэце, разгорнутага водгука і стыльных фотаздымкаў.

— Слухай, я тут набрыла на адну кавярню, ты як наконт гэтага? Ну, не ведаю, была ты там ці не... Карацей, акцэнт на каву — а ты ж вялікая аматарка, вось я і падумала, што табе будзе цікава.

Гэты званок прагучаў днём, калі неба яшчэ не афарбавалася містычнымі тонамі і цадзіла скрозь бялёсую смугу ветлівае сонечнае святло. Здаецца, свяціць не надта ахвота, але, даражэнькае, гэта ж лета, адмовіць у сваёй прысутнасці не камільфо. Цікава, якія ж думкі сёння займалі сонца...

Я дарэмна задрала галаву: ледзь не ўляцела ў багемнага выгляду дзяўчыну з велізарнай папкай пад пахай. Яна з сумессю спалоху і абурэння адскочыла налева, учапіўшыся ў руку спадарожніка, юнага хіпстэра ў акулярах а-ля Сальвадор Альендэ. Такі ўжо кантынгент на гэтым прыпынку. Акадэмія мастацтваў, панове, што ж вы хочаце. Вінавата ўздыхнуўшы, я адняла ад вуха нагрэты тэлефон.

Я ехала на тым самым тралейбусе, які чакала некалькі гадзін таму. Спачатку — ён. Потым метро — хтанічны від транспарту. У мяне ёсць сябры, у якіх падземка выклі-

кае фізічную агіду, а мяне... так, прыцягвае. Дый падумаеш, мяне прыцягвае шмат таго, што для сярэднестатыстычных грамадзян — проста дзіка.

* * *

Божа, калі я буду палаць у чысцы, то ў першую чаргу — за спазненні. Выйсці з хаты загадзя проста нерэальна.

Але сёння — дзень асаблівы. Вынырнуць з-пад зямлі пасярод праспекта, адразу сутыкнуцца поглядам з прыкментнай сіняй шыльдай рэдакцыі... Там ходзіць трамвай, які так любіць мая Арына. Менавіта так, не парушаючы завядзёнкі, рытуальнага шляху ад цэнтра да дому — ад трамвайных рэек па звілістай траекторыі, што праз пару гадзін павінна прывесці да філармоніі, але сёння, у парадку выключэння — да кавярні.

— Якое шпіёнскае месца, праўда?

Зусім ля аркі, па прынцыпе засады (хто заўважыць забойцу, які ўціснуўся ў сцяну? — калі праходзяць у дзверы, то глядзяць перад сабою). А сама арка — партал у іншае вымярэнне; гулка пройдзеш пад высокім цёмным скляпеннем — і апынешся ў зарослым івамі, мальвамі, бэзам і чаромхамі сталінскім двары.

— Але ж, — адгукнулася Арына, усміхаючыся, нібы сфінкс. — А яно ж у цэнтры — бліжэй не бывае, але ў мяне дзіўнае прадчуванне: тут заўсёды будуць вольныя месцы.

— Для нас — дакладна!

— Таму што не ўсялякі знойдзе гэтае месца, і не ўсялякаму сюды ўваход дазволены, — з задаволенай усмешкаю падсумавала Арына.

Цудоўна! Вось хто выдатна адчувае правілы гульні. Цікава, ці здагадаецца яна, што я фактычна яе сюды заманіла. Не з вераломнымі намерамі — з самымі што ні на ёсць нявіннымі, нават сентыментальнымі.

Ціха мармытала прыемная фонавая музыка. Мяккае белае святло і таксама белыя сцены з шакаладнай драўнінай сталоў і крэслаў (груваcткія на выгляд, яны аказаліся лёгкімі). Навокал лунаў водар кававых зерняў, назаўжды ўплецены ў тканіну тутэйшага паветра так, што парог рабіўся дэмаркацыйнай лініяй.

— Прачытай з новага што-небудзь, га? — я не знайшлася, што адказаць. У той момант мне сапраўды хацелася пачуць новыя вершы — сапраўдныя. Пажадана, падобныя да тых, што так уразілі мяне калісьці і былі зусім не падобны да маіх — чаканна-звонкіх, узвышаных і сацрэалістычных, дзе спрэс — арлы, сцягі, барацьба, самалёты ды валькірыі.

Мне не адказалі. Зразумела, чалавек у творчым пошуку.

— Глядзі, гэта часам не твой нагваль?[1]

— Дзе?

— Вунь пад тым сталом!

— О Божа, ды што яна тут робіць?

З напаўпразрыстай цемры паміж фатэлем і столікам свяціліся крыштальныя каціныя вочы. Дзе-небудзь у піцэрыі пад адкрытым небам жывёла глядзелася б натуральна. Але толькі не ў кавярні, дзе нават пажывіцца няма чым.

---

[1] Нагваль — у міфалогіі індзейцаў Цэнтральнай Амерыкі дух-ахоўнік, двайнік у іпастасі жывёлы (гэта мог быць ягуар, каёт, арол, квезаль і г. д.). Таксама нагвалем мог звацца чалавек, які практыкуе магію (вядзьмак-шаман) і здольны пераўвасабляцца ў татэмную жывёлу. У перакладзе слова «нагуаль» азначае «быць схаваным, утоеным».

— Чаму, ёсць жа вяршкі, — не пагадзілася Арына.

Я нахілілася і пачала адчайна «кіскаць», намагаючыся прыцягнуць увагу жывёлінкі, і, пажадана, незаўважна для астатніх. Але яна, як цягнік-падманка на станцыі Інстытут Культуры, уцягнулася назад у свой тунэль. І, натуральна, знікла.

— Ну Франкіта, каб на яе халера! Яна толькі ў цемры да мяне прыходзіць, а каб на вуліцы ці недзе ў горадзе — робіць выгляд, быццам мы незнаёмыя!

Я абурана пацiснула плячыма, чым зноў выклікала Арыніну ўсмешку.

Наогул, маю абаронцу звалі Савітры Шакці, і была яна вугальна-чорная з вялізнымі зіхатлівымі вачыма, далікатнымі вусамі і па-змяінаму доўгім гнуткім целам. Я лічыла за лепшае клікаць яе іспанскім імем, якое гучала не менш вычварна, але больш звыкла для еўрапейскага вуха: Франсіска Дамінга дэль Соль. Франкітай яна стала цалкам натуральна і непрыкметна, хоць і гэтае імя было... скажам так, своеасаблівым.

Але ж яе ўпершыню заўважыла Арына. Яна прыйшла да мяне ў госці і сказала: «Такое адчуванне, што ў цябе жыве котка. Рэальна. Здаецца, што яна тут недзе лазіць, а я зараз наступлю на аскепак сухога корму...» Тады я і здагадалася, хто хадзіў па маім ложку на мяжы паміж сном і явай — і потым уздыхнула з палёгкай, зразумеўшы, што гэты «хтосьці» не вораг.

Не, яна была мілая і чароўная — мая Франкіта. Калі ж ты ўвасобішся, калі я нарэшце буду жыць ва ўласнай кватэры? Так, бо толькі тады я змагу правесці рукою па ўсёй тваёй шаўковай спінцы, ласкава пацiснуць тваю зграбную лапку... Я ўпэўнена, што ты такая і будзеш: маўклівая і чорная як смоль.

Вершаў мне так і не прачыталі. З-за далікатнасці (трохі баязлівай) я вырашыла не настойваць або паўтарыць просьбу крыху пазней. Затое мне падсунулі плэер. На экране высвяцілася: «Партугальская».

Нет неба, нет солнца без тебя.
Как поле зимой без снега, душа моя.
И где-то бродит вещий сон, мой сон.
Так тревожен он, беспокоен он.

— Песня проста цудоўная...

— Угу, — кіўнула Арына, слізгануўшы пільным поглядам па маім задумлівым твары.

— Я хачу не ў Партугалію, я хачу ў Монтсэрат і Даліну Палеглых! — зноў заныла і залямантавала я. Яна не адрэагавала: занадта прывыкла.

— Так, я з глузду з’ехала, — голас хутчэй летуценны, а не засмучаны. — Я спрабую перайменаваць станцыі метро, хаджу тут, як чужынец, над río[1] красуецца Arrabal de Trinidad[2]... Habla usted sueco?[3] Тата ўжо гаворыць на мяне, што я «чалавек чужой культуры», з-за таго, што я не чытаю нашых, постсавецкіх кніг... А ўсё ён, мярзотнік, гэта ўсё ён вінаваты!

«...Рашуча заявіла яна», — прамовіла Арына ў думках.

Нам прынеслі каву і дэсерты. Ірландская з чарнічным тварожнікам — мне, капучына з яблычным штрудзелем — ёй. Яшчэ тры хвіліны мы маўчалі: святадзейнічалі маленькімі срэбнымі відэльчыкамі і атрымлівалі асалоду ад духмянага, да ачмурэння смачнага напоя.

[1] Рака (*ісп.*).

[2] Траецкае прадмесце (*ісп.*).

[3] Ці размаўляеце вы па-шведску? (*шв.*).

— Як там маецца генерал?

— Нармалёва.

Арына з заспакоенасцю кіўнула. Калі з ім ўсё ў парадку, то і са мной — адпаведна. Задаволена варкачу, сціскаючы ў руках чарговую кніжку, здабытую ў «замежных калег» самым што ні на ёсць астапа-бэндэраўскім шляхам, загадкава і шчаслiва ўсміхаюся, штосьці задумваю — не нясуся дзяжурыць у яго ложка ў шпіталі, не адчуваю, як з сэрца майго кроў сочыцца па кроплі...

— Сёння ён быў сумны, пра штосьці трывожыўся, — уздыхаю.

— Можа, засумаваў па табе. Ці часта ты пра яго думала апошнім часам?

З сорамам прызнаюся:

— Не.

Я была занятая праблемамі творчасці і самакапання. Колеры на маіх карцінах былі не тыя. Лініі, радкі, праца, характар — усё было не тое. Бадай, гэтае лета зойме першае месца па колькасці пралітых слёз і віна, па колькасці засмучэння, сораму, самазневажання, разладу, хрыплых істэрычных рыданняў у адзіноце, але потым я нязменна буду ўспамінаць гэта лета як вельмі «творчае» і «рамантычнае». Вось ідыёцтва.

— Дык ты не думала пра генерала?

У яе голасе дакор.

— Сёння мы бачыліся на Вайсковых. Ну, ты ведаеш. Шкада, што яны такія маленькія, там нават зацішнай адзіноты амаль не адчуваецца. Хоць там так хораша, прыгожа.

Мілы мой генерал! Я ішла сёння да цябе. Спачатку перайсці на іншы бок праз трамвайныя пуці, потым нырнуць у двор, а там — зачараваны касцёл. Белы, гожы, ён стаіць на ўзвышэнні, як на пастаменце, каменныя сцены якога аплёў дываном дзікі вінаград. І гэта заслужана, таму што ён быццам адважны фрэгат, што выдужаў сярод навальніц і дагэтуль ганарліва ўздымаецца над бруднымі хвалямі савецкага смецця. Беласнежны, як сам папскі строй, пасярод плебейскіх вяровак, задрыпаных пад’ездаў і ўбогіх гаражоў.

Я буду з табой, генерал, не адной крыві — дык аднаго духу, я дамагуся, я выпраўлю гэта дурное непаразуменне і далучуся да цябе і тваёй Царквы на векі вечныя... Ды ў канцы канцоў, я ўжо — з табою, de facto — зараз толькі набыць статус de jure! «Ангельскую ты ўжо ведаеш, не турбуйся!» «Але ж мне яшчэ трэба здаць экзамен. Кожны, хто едзе вучыцца за мяжу, абавязаны здаць TOEFL. Мне патрэбны сертыфікат». «Захочаш, так будзе». Так, будзе ў мяне «сертыфікат». І «экзамен» здам. І буду як усе нармальныя лацінасы. Амэн.

У двары касцёла растуць ніцыя вербы. Шатры з вострага лісця мудрагеліста прапускаюць святло, малюючы на цёплых дарожках дзіўныя ўзоры. Цяжкія, каньячнага колеру форткі дзвярэй расчынены, у змроку храма мільгочуць свечкі — тут таксама адмысловая тэрыторыя, адлучаная ад усяго, што знадворку. Тут і так чароўнае месца, а ўнутры касцёла — як быццам бы яшчэ адзін узровень, яшчэ большая глыбіня таямніцы. Тут цудоўна. Чаму ж я ніколі не заходзіла туды, што мяне трымае? Ды нічога асаблівага. Аднак цяпер я сыходжу адсюль. Касцёл так і застаецца для мяне загадкай, неразгаданай, але той, што вабіць, як святло далёкага маяка.

Адна вуліца завецца Чырваназорная, другая — Смалячкова; я ведаю, што гэта быў снайпер — наш, беларускі, у гады Другой сусветнай. Я так люблю гэтыя пяціпавярховікі, і ў мяне ёсць афармленая мара — мне б хацелася тут жыць. Мне ўжо

здаралася выслухваць ад людзей, што мае жаданні — дробнабуржуазныя, мяшчанскія, што няможна мераць мару грашыма, але... У чым мая загана — у тым, што я дакладна ведаю, чаго хачу? Тым больш ніхто, апроч мяне і некалькіх пасвячоных, не ведае, якім таемным сэнсам я напаўняю самыя банальныя дзеянні, наколькі метафізіка для мяне важнейшая за фізіку.

Утульныя, ціхія вулачкі пасярод самага цэнтра, бружмель у агародчыку, зноў бялізнавыя вяроўкі, а вунь наперадзе — хаты пяцідзясятых гадоў на пару сем'яў (і як толькі не абваліцца гэты пакрыўлены балкон?), вунь прабегла котка (не мая, іншая), трыпутнік у расколінцы пад нагамі, вадасцёкавыя трубы, бэзавае лісце, прывіднае святло з-за аблокаў. А вось мой любімы кандыцыянер! Так, Наста мае рацыю: ён выглядае, як выдраны кавалак самалёта. Велізарны, ён зачароўвае сваім злавесным гудам, які ўздымаецца раптам, нарастаючы, і ад гэтага бягуць мурашкі па спіне, як у дзяцінстве, пабачыўшы індустрыяльныя збудаванні на фоне крывавага заходу сонца. Італія... Вось ужо ніколі б не падумала, што Залатая Горка нагадае мне Італію. Проста там мяне таксама інтрыгавала тое, што я цяпер спецыяльна вучылася бачыць наноў: незвычайная форма вадасцёкавай трубы, чорныя лапіны сажы на жаўтлявай хаце — сляды пажару, плюшч на сцяне, жук-насарог на асфальце, васковыя тычынкі ў белых духмяных кветках, смаўжы, што выпаўзаюць ноччу на жвір стаянкі, грозныя вялікія кандыцыянеры.

Шпіталь МУС — прыстойны будынак, аточаны пышнай зелянінай і прыстойнай, з пікамі, агароджай. Тут ён таксама з'яўляецца мне: глядзіць з-за жалезных прутоў, як арыштант, да аднаго прута дакранаючыся рукой — нерашуча, нібы нават узяцца асцерагаецца. Ён не ў бальнічнай адзежы, у поўнай форме, у шэрым кіцелі. Але вочы такія сумныя, нібыта жыць яму засталося два дні, і ён хацеў мяне ўбачыць — а я ў гэты час, вядома, недзе швэндалася, піла, танцавала і рагатала ў голас абы з кім.

Сэрца зашчамляе, і па ўсім целе прабягае разрадам хваля салодка-пакутнага болю, які выбівае слязу. Я пачынаю лаяцца, слаць генерала куды далей, і паскараю крок, адскокваючы ад агароджы — а прыступ пакуты закіпае ўжо ў мяне ў горле — бегам, бегам...

Заходжу на могілкі нясмела, з чорнага хода, з той вулачкі, дзе жаданыя двухпавярховыя хаты (так, з Настай сышліся на тым, што было б выдатна купіць такую хату і жыць там). Я ўжо ўвайшла, гляджу на вулачку з-пад махроў галін і ўсміхаюся: за Вайсковымі могілкамі амбасада Кубы — вось чорт, гэта гумар такой ці што? Не, не да смеху.

Тут зямля напамінае мармур: яна такая ж цвёрдая на сцяжынках і ўся ў яркіх разводах зялёнага моху. Вакол стаяць абеліскі пад шатамі цемнаватых сакавітых крон, праз якія прабіваецца пяшчотнае, свежае сонечнае святло, а цяпер — тое самае цьмянае латуневае ззянне. Ён чакае мяне ля аднаго з помнікаў, аддзяляецца ад яго, быццам доўга так стаяў, абапёршыся.

— Мой генерал...

Ён абдымае мяне, не можа стрымаць уздыху. Па маёй шчацэ паўзе сляза — гэта ўсё, што засталося ад успышкі болю пару хвілін таму. Ён сумаваў. Божа, якое пяшчотнае сэрца ў гэтага старога ваякі... Ад цяпла яго шчакі вострая, гарачая пяшчота запаўняе ўсярэдзіне ўсё, не пакідаючы вольнага месца. Мы стаім так некалькі хвілін. А маглі б стаяць вечна. Хоць ён разумее плынь часу нашага свету, таму не злоўжывае, сам жа часам выводзіць мяне з трансу. Вось і цяпер: «Ты спознішся».

Я не распавядала, проста сказала, што з ім бачылася.

— А помніш той вечар, калі мы разам там ішлі?

— І бачылі майго нагваля?

— Ага!

Котка тады прабегла проста перад намі, а потым сіганула ў кусты. Калі падняліся далей на горачку, то зірнулі туды з цікаўнасці, і ў зарасніках яе не аказалася. Ёсць у нагваляў такая манера — растварацца ў прасторы ды імгненна знікаць.

— І мы ніколькі не стаміліся гэтак бадзяцца...

— ...і ў нашых жылах усё яшчэ лілася музыка — такая ж святочна-ліловая, ультрамарынавая, салатавая і фіялетавая, як святло на сцэне! Для мяне ў той дзень усе песні былі такога колеру.

— Так, дакладна, здорава! І падсвятленне на хатах таксама было як знарок, дзеля вылучнага выпадку, — і зноў мы абмяркоўвалі нашу савецкую архітэктуру...

— ...яна такая прыгожая! І вось мы дайшлі да гэтай дзіўнай трохкутнай плошчы, а кафэ было ўжо зачынена, і нам не наканавана было паспытаць знакамітых пірагоў пад вельмі нямецкай назвай.

— А яшчэ там крама была спартыўная: гэй, дзе тут красоўкі, а дзе прысмакі?!..

— Потым мы перайшлі праз трамвайныя пуці, і я ўбачыла могілкі... Трава так ахайна падстрыжана. Яна была заліта халодным чыстым ззяннем, і пражэктары асвятлялі надмагіллі, і гэта здалося мне вельмі прыгожым, вабным і таксама святочным, — я захапілася.

— Я сказала, што гэта Насціна ўлюбёнае месца, — задуменна працягвала Арына.

— І я зразумела, што для мяне яно таксама стане такім. Калі мы ішлі міма, я была загіпнатызавана, мяне так і цягнула глядзець за агароджу...

— ...і ты абмацала поглядам чорную траву і спытала мяне: «Гэта што, стакроткі?»

— ...так, гэта былі стакроткі. І потым я ўбачыла, што там стаіць мой Аўгуста. Ён усміхаўся, радасна і па-змоўніцку.

— Ты зразумела, што ён кліча цябе ў госці.

— Так. Таму што тут яму лягчэй усяго ўвасабляцца. Могілкі. Вайсковыя. Хараство.

Я прыцмокнула, узняўшы брыво. Арына заўсміхалася. Не, прыцмокнула я ад тварожніка, проста так супала.

А потым мы ішлі разам праз гэтыя ціхія, ветлыя цёмныя вуліцы, з пахам начных агародчыкаў, з памаранцавым святлом вокнаў, з шурпатай шэрай цэглай пяціпавярховікаў. І выйшлі на праспект якраз да гэтага кафэ.

— Цяпер мне ўсё зразумела! — Арына расплылася ва ўсмешцы. Я не ўтрымалася і таксама пачала хмыліцца, хіхікаючы, як хуліганісты школьнік. І яна прамовіла сваю сакраментальную фразу:

— Я цябе абажаю...

У той вечар мы чакана не селі на метро, як усе нармальныя людзі, а зладзілі марш-кідок па праспекце. І размаўлялі яшчэ пра розныя цікавыя рэчы, якія тут пералічваць залішне. І мне прыйшло да галавы, што мы нагадваем персанажаў картасараўскага рамана «Экзамен» — маладыя, няпростыя, мы шукаем, штосьці там ствараем, вечна ў стане прадчування. І — так, нас яшчэ чакаюць свае экзамены. Аднак мы, у нашы юныя, але ўжо па-свойму сталыя гады, навучыліся іх не баяцца.

**ДУЭЛЬ**

За кавай давялося спускацца ў апраметную.

Даўжэзная крутая лесвіца сыходзіла ў цемру. Толькі справа ў глыбіні віднелася квадратная пляма святла. Я акуратна ступіла на першую са ступеняў-клавіш, цьмяна-белых з цёмнымі сеткавымі кілімкамі, левай рукой узялася за масіўны шэры поручань: спускацца можна было толькі так — павольна, асцярожна, амаль з піетэтам.

Нейкае падобнае пачуццё я і зведвала: сумесь хвалявання і зачаравання, якія паступова нарасталі. Ступіўшы ў апошні раз, я падняла галаву і з захапленнем кінула позірк на той шлях, што пераадолела ў цёмна-сінім змроку тунэля. Гэта было дзіцячае пачуццё — усведамленне незвычайнасці.

Чарговая ўстанова ў маім гусце: не банальнае і зацёртае месца на праспекце, дзе ўсё выстаўлена напаказ — не, тут ёсць інтрыга.

Аднак апошнім часам…

Ах, цёплае паветра, водар шакаладу, выпечкі, — у мінус дзесяць самае тое! Што мы сёння будзем дэгуставаць?

…Апошнім часам я не ўпэўнена, ці раздражняе мяне гэтая «інтрыга», ці, наадварот, падабаецца. Так-так. Насіцца па ўсім горадзе, грошы на пыл пераводзіць, трывожна прыслухоўвацца, прынюхвацца, як паляўнічы сабака, скакаць з аўтобуса ў аўтобус, з вагона ў вагон, забыўшыся пра падрыхтоўку да экзамену — пайдзі туды, не ведаю куды, знайдзі тое, не ведаю, што!

Я замовіла карамельную каву-макіята, аднесла яе да стойкі, залезла на высокае крэсла, кінуўшы торбу і куртку на суседняе. Краі саломінкі мякка прабілі пласт пены з салодкім узорам. Хоць штосьці добрае ў гэтай дзіўнай гульні — магчымасць пабыць гурманам: я песціла наіўную надзею, што мае паводзіны — гэта ігра па Станіслаўскім, якая дапамагае мне выглядаць пераканаўча.

* * *

У той вечар мяне асяніла. І я спасцігла метафізічную існасць трамвая.

Надвор'е стаяла незімовае — чаканне не выклікала знерваванасці. Больш таго: я прагнула падставіць разгарачаны твар прахалодзе. Здароўем пачынаеш цешыцца, толькі перахварэўшы, падвышаную стыпендыю і бліскучую рэпутацыю пачынаеш цаніць толькі пад пагрозай іх страты. Але я — здала. Перамагла, справілася, адстралялася!

Гэтая пераздача была неверагоднай. Я перажыла нешта накшталт ініцыятычнай смерці. Верагодна, такі вопыт павінен быў яшчэ і прасунуць мяне ў духоўным развіцці — як бы там ні было, адчуванні адмысловыя. Тыдзень быў нібы сціснуты — курчамі кашмару, трывогі і няспыннага вучэння, а цяпер — час спыніўся.

Калі не зусім заціх, то вельмі замарудзіўся: так няспешна падпаўзаў да нас бірузова-зялёны паважны вусень. Я ўстала і плюхнулася на асобнае месца ля акна. Трамвай рушыў з лёгкім рыўком, як кабінка атракцыёна ў парку забаў.

Прыйшла нірвана. Я не проста самавольнічаю з моднымі слоўцамі, а добра ведаю этымалогію, гэта — «адсутнасць жаданняў»: і сапраўды ўсе жаданні зніклі, з мяне было даволі і радасці збавення. Наплылі філасофскія думкі: пра тое, як важна дакладна вылічваць свой патэнцыял, пра тое, што немагчыма бясконца жангліраць працай, навукай, вечаровымі курсамі і патугамі самавыяўлення — абавязкова штосьці ўпусціш. Падступіла жаданне разгарнуць кніжку — і вось ён тут, мініяцюрны бледна-ружовы томік Святога Францыска Сальскага. Праплывае міма «брама

горада» — дзве вежы прывакзальнага пляца, крэмава-бэжавыя, з зубцамі-рожкамі накшталт тых, што робяць дзеці на сваіх замках з кропельнай сумесі пяску і вады; і вось я прасякаюся «Уводзінамі ў набожнае жыццё», гэтак жа, як тыдзень назад вывучала біяграфію Марціна Лютара пяра Івана Габры.

Але потым я з уздыхам адкладаю нават гэтак вытанчана напісаную душакарысную кнігу. Мяне перапаўняе штосьці яшчэ. Штосьці больш аб'ёмнае, шматколернае, настойлівае — не ў крыўду Францыску Сальскаму, але як даніна цяперашняму моманту.

Ульянаўская, потым Першамайская — толькі цяпер разумееш, якія безаблічныя назвы і якія чароўныя вуліцы. Строгая і прывабная архітэктура савецкага часу, потым — сціплыя, але сімпатычныя дамкі пачатку XX стагоддзя. А стадыён «Дынама»? Ён лёгка пазнаецца і выглядае прыгожа, чымсьці нагадвае не тое, каб «урачысты», але смачны торт — маё ўлюбёнае рэтра. А вось справа горад пераходзіць у сваю індустрыйную частку. Потым — парк Горкага, што ўсюды носіць адну назву, але ўспаміны захоўвае зусім розныя (Арына, памятаеш?). Плошча Змітрака Бядулі і сакральнае месца — могілкі. Вуліца Чырвоная (ніяк не ўспрымаю яе рускую назву «Красная», заўжды ў галаве нейкае абурэнне: «Якая яшчэ “Красная”, вы з дуба ляснуліся?»). Потым — на вуліцу Якуба Коласа, гэта зямля запаветная, новая зямля...

Мяне ахапіла замілаванне. Я адназначна зраднілася са сталіцай. Больш за ўсё мне падабаўся менавіта гэты маршрут і тое, што праплывала за акном. Калі прыедуць замежныя госці, самым цудоўным будзе адправіцца з імі катацца на трамваі. Няспешна ўбіраць у сябе стыль горада, узіраючыся ў вокны; адчуваць, як вагон пасля кожнага прыпынку кранаецца з лёгкім, але прыкметным высілкам, падрыгвае на заваротках; чуваць бразджанне званка — старамоднае, нягледзячы на сучасны дызайн корпуса. А як перад самым паваротам на Коласа пераводзяць стрэлку, гэты рытуал? Не, ну праўда ж непаўторна!

Гэты від транспарту ніколі не быў «маім» — я аддавала перавагу шпаркаму і без-лішніх-цырымоній метро. Трамваі ж заставаліся Арынінай епархіяй; яна казала, што ёсць у іх сваё хараство, з імі звязана маса літаратурных твораў, нават мой любы Картасар. І толькі цяпер да мяне дайшло, толькі цяпер я прачула! Сапраўды, пасля ўзрушэнняў шмат што бачыцца ў іншым святле. І трамвайная экскурсія з замежнымі калегамі ўжо здаецца мне сапраўднай знаходкай.

А нядаўна ў мяне пачало з'яўляцца ўсё больш знаёмых з Лацінскай Амерыкі, у тым ліку хлопец, які хацеў вучыцца недзе ва Усходняй Еўропе і вывучаў рускую мову, ды яшчэ адзін з Чылі, нашчадак украінскіх казакоў (на якога я вельмі спадзявалася ў справе здабывання генеральскіх мемуараў). Дзіўныя справы Твае, Пане, і дзіўныя повязі... Усё гэта нездарма, як і перапіска з чылійцамі. Няўжо я буду, як мая цётка Наташа?

Яна ўжо трыццаць гадоў жыве ў Нямеччыне. Ніколі не забудуся на яе аповед: «Я заўсёды ў дзяцінстве любіла казкі братоў Грым. А яшчэ ж была кніжка з малюнкамі — мне так падабаліся гэтыя строі, гэтыя акуратненькія дамкі. І ў дзіцячым пакоі ў мяне над ложкам вісеў дыванок. Не, габелен. І там таксама была ілюстрацыя з казак — быццам бы Гензель і Грэтэль, але што дакладна помню — загадкавы, не наш, яловы лес. І мне тады думалася: а вось выдатна было б жыць там! Увесь час марыла і фантазіравала. Ну вось — намарыла!»

— Глядзі, нафантазіруеш сабе Латамерыку, — сказала Арына.

— А што? Я б і не супраць. Больш таго — мару. Здзейсніць паломніцтва, як у Святую Зямлю.

— Няўжо табе Вайсковых могілак недастаткова?

— Ды гэта зусім не тое! Ты не разумееш.

Мае словы — свядомая хлусня. Усё яна разумела. Але ў адказ магла толькі ўздыхнуць і прамаўчаць.

А зараз на мяне наплыло дзіўнае пачуццё: усведамленне таго, што ўсё гэта — рэальна. Пачынаючы з лета, з пары вечаровых шпацыраў, з позніх званкоў Насці, з адурэння ад перакладаў з іспанскай, з замірання сэрца на вуліцы Чырваназорнай — з кожным крокам «гэта» рабілася ўсё больш рэальным. Я галасіла і абуралася, біла капытом ці разыгрывала сцэну непрытомнасці ад упадку сіл, лаялася і стагнала на фінішнай прамой, але ведала, што нават крывавыя пакуты — лічы, не напраўду; мары ж мае згушчаюцца ў паветры, як чарадзейны туман, прымаюць форму, ушчыльняюцца і...

І тут я ўбачыла чылійскага экс-прэзідэнта. Што я ачмурэла — гэта слаба сказана. Спачатку мне падумалася, што справа ў хваравітай фантазіі, што я ўжо канчаткова з глузду з’ехала на глебе сваёй асабістай утрапёнасці.

Аднак стаяў ён амаль перада мною, бліжэй да дзвярэй, рыхтуючыся выходзіць, у кампаніі фарбаванай бландзінкі гадоў сарака ў бруснічным берэце і нейкага суровага дзядзькі ў наменклатурным паліто. Сам ён таксама выглядаў да немагчымасці наменклатурна — з партфелем, у куртцы з баранковым каўняром. Дый акуляры «а-ля Шурык» чамусьці не разбаўлялі вобраз, а нагняталі афіцыёз. Ён не ўсміхаўся. І мяне не заўважаў.

«Прыпынак “Вуліца Дарашэвіча”» — адчаканіў голас БССР-аўскага інтэлігента. Мякка раз’ехаліся створкі дзвярэй, кабета манерным рухам папpавіла берэт і выйшла — ён за ёю.

З таго вечара я і не ведала супакою.

* * *

Дзяўчынкі падышлі праз некалькі хвілін. Арына была трохі бледная і хмурная: яна знаходзілася зусім не ў захапленні ад такой інфернальнай лесвіцы. Наста ж захоўвала заўсёдны бесшабашна-незалежны выраз твару, які, мабыць, больш характэрны хлопцам. Хоць у нашай кампаніі было не прынята абмяркоўваць, што каму «характэрна», а што — не.

— Так а што за ідэя такая прышпільная? — перапытала Наста.

— Тэорыя распаўсюджання «кававых скрынак» у Мінску, — хіхікнула я.

Арына вытрымала паўзу і загаварыла:

— Вы заўважылі? Яны растуць, як грыбы, быццам спорамі плодзяцца — і гэта за нейкія паўтара года. З пункту гледжання эканомікі трохі рызыкоўна, згодныя?

— Хм, ну, пэўна што, — хмыкнула Наста.

— Сумняваюся, што яны прадаюць пэўны прадукт, — працягвала Арына. — Кава? Падумаеш, ёю, бадай, ужо гадоў трыста нікога не здзівіш, у кожнай установе яе пададуць. — Яна абвяла поглядам памяшканне. — Здаецца, яны прасоўваюць ідэю, імідж. Вядома, калі гэта пазіцыянуецца як аналаг Starbucks, то першы, хто прыходзіць да галавы — хіпстары, — усміхнулася Арына.

З цікавасці мы зірнулі сюды-туды, правяраючы сцверджанне. Дакладна, справа ад нас за стойкай асталяваліся багемныя франты — прадстаўнікі вышэйзгаданай субкультуры. Але мая цікаўнасць не была бяздзейнай: я цадзіла халодны кававы напой з адыёзнай назвай «трава», не спыняючы стральбу вачыма, — бязмэтнае, але дакучлівае высочванне. Вядомая рэч, усярэдзіне ў мяне ўсё абарвалася пры поглядзе на суседзяў: гэта быў ён.

Невысокі, але добра скроены малады чалавек у клятчастым пінжаку са скуранымі латкамі на локцях і доўгім белым шаліку. І, натуральна, у характэрных акулярыках. Ён штосьці нягучна, але з захапленнем расказваў усёй кампаніі — можа, пра нейкі фільм, можа, пра здымкі, што зрабіў securing новaнабытым «Зенітам» (фотаапарат стаяў на стойцы). О так, і яўна не проста выхваляўся, а рабіў экскурс у мастацтва арт-хаўснай фатаграфіі. Да чаго ж усё стэрэатыпна. Мабыць, выдавала менавіта наўмыснасць маскіроўкі. Тым больш, няможна было зблытаць гэты злёгку самазадаволены выраз, іскаркі хітрынкі ў поглядзе, і густыя, хораша зачэсаныя хвалістыя валасы ні з чыімі іншымі.

— Глядзіце, ды вось жа ён!

Так, я не стрымалася.

Напэўна, гэта бязглузда выглядала: ліхаманкава зашаптала, наштось нават прыхілілася і з драматычнай перабольшанасцю пачала касіць вочы ў бок суседняй кампаніі. Адказ: два скептычныя позіркі і ветлівае маўчанне. Праўда, на хлопца яны ўсё ж паглядзелі. Безумоўна, сяброўкі мае — святыя людзі: дагэтуль голасна не паслалі мяне ў балота з маімі дзівацтвамі.

— У цябе дакучлівая ідэя, — канстатавала Наста. Не, рана я ўзрадавалася: не скандал дык натацыі. — Лёгкае расстройства на фоне induction пeратамлення. Блін, прабач, вядома. Але інакш — ні ў якія вароты не лезе!

Ну так, пры знаёмстве мы ледзь не пасварыліся з-за псіхааналізу: мне аж цікаўна стала — цяпер палаемся альбо не? Яна прачытала мае думкі:

— Я разумею, ты на ўсякі погляд больш адэкватная за многіх. Але са сваімі асаблівасцямі.

— Гэта нават не мае асабістыя асаблівасці, а маёй рэальнасці, — упарта прашыпела я.

— Але рэальнасць фарміруецца ўспрыманнем і свядомасцю, — падхапіла Арына. Наста пстрыкнула пальцамі — дакладная заўвага.

Ну вось! Я ім пра абразы, а яны мне пра гарбузы. Доўга тлумачыць, але я мела на ўвазе зусім іншае, аб'ектыўныя рэчы: выпадкі і з'явы, а не проста фантазіі!

— Карацей, Скліфасоўскі, — махнула рукой Наста, разганяючы туман цягучых тэрмінаў. — Так жыць няможна. Да экзамену трэба рыхтавацца! А ты за зданню ганяешся. Прытым увесь час трэцірууеш сябе.

— Добра, я зацыклілася на адной тэме. Кожны, хто глядзіць, бачыць тое, пра што думае. Але хіба вам гэты хлопец хоць аддалена яго не нагадвае?

— Так, — пагадзілася Арына, — падобны. Але гэта — усяго толькі хлопец: сучасны, наш, мінская хіпстата! А не той, каго ты шукаеш.

«А вам не здавалася, што вонкавае аблічча зманлівае?» Гэту фразу я прамовіла толькі ўяўна, бо ў роце ў мяне перасохла: яны ўсе сыходзілі. Як бы саслізнуць з крэсла і дагнаць іх; нейкі хлопец наперадзе, ён следам, і дзве дзяўчулі; якія нязграбныя мае рухі; вось пляснулі дзверы; хутчэй!

На версе лесвіцы — таксама дзверы, яны мякка стукаюць... Угару, збіваючы дыханне...

Вуліца была пустой. Ну хто б сумняваўся. Я выскачыла з двара, ледзь не зачапіўшыся за край шлагбаума, і сарамлівым трушком прабегла да прыпынку. Нікога падобнага. Ды яшчэ трыццаць трэці тралейбус, ужо з зачыненымі дзвярыма, адчаліў ад тратуара. Заставалася паплесціся назад у кафэ, на хаду зашпільваючы абы-як накінутую куртку.

Я села і пачала дапіваць сваю «траву», хоць цяпер прыйшлося б лепей штосьці гарачае. Дзяўчынкі ўжо не спрабавалі пераканаць, што я псіх. Наста паглядзела задуменна і сказала:

— Адчапіся ты ад прэзідэнта.

Я не збіралася падпарадкоўвацца. Пра што і заявіла.

— Ну і нашто ён табе? Дапусцім, зловіш. І што з ім далей будзеш рабіць?

— Не ведаю, — бездапаможна прызналася я.

І праўда ж не ведала. Але ад намераў сваіх адмаўляцца не збіралася.

* * *

У мяне была ілюзія нармальнага жыцця і рацыянальныя прычыны, паводле якіх трэба было ездзіць у горад. А вось потым, адначасна з выкананнем пунктаў плана, пачыналася пагоня, і зноў усляпую, на адчуваннях, намёкамі і прадчуваннямі.

Прэзідэнт з'явіўся перада мной наўмысна, абодва разы. Але найболей дэманстратыўнымі былі яго паводзіны ў кафэ. Я адзначыла дзіўнасць уласнага стаўлення: здаецца, зараз мне хацелася спадабацца яму?! Даўно ўжо я так старанна не фарбавала вусны, не правярала фактуру і гладкасць скуры пры розным асвятленні, не падбірала ўбораў. Прытым, што звычайна апраналася па прынцыпе «насунула тое, што выпала з шафы». Але зноў жа, навошта? Ён зачараваў мяне. Я разглядала яго фатаграфіі, абрысы і даволі мяккія рысы твару, замілоўвалася тым, як арганічна ён глядзіцца ў нашым вінтажным савецкім горадзе.

— Гэта робіцца небяспечным, — пакруціла галавой Наста. — І не толькі з-за вучобы. Табе пара завязваць з пагонямі і гульнёй у коткі-мышкі.

— Ха, ды ты мяне здзіўляеш, — смяялася я. — Генерал, значыць, не небяспечны, а прэзідэнт раптам — злавесная асоба? Звычайна ўсё было па-іншаму. З дакладнасцю наадварот.

Яна толькі ўздыхнула. Вядомая рэч, да генерала яна прывыкла, і ўсё было нармальна.

— Цьфу на цябе! Я не магу сказаць, што тут не ў парадку. Проста... адчуваю, ці што.

— Толькі не пачынай казаць пра «выдуманы свет», — ціха гыркнула я, гледзячы спадылба.

Зараз мне здавалася, што падыгрываюць мне толькі з ветлівасці. Наста пацiснула плячыма і прамаўчала.

Я нічога не паўтарала, не вучыла. Забылася, што збіралася на кафедру высвятляць штосьці пра магістратуру. Увесь свет мой звузіўся да транспарту ў розных яго іпастасях, да «Кнігі пясчынак», якую я цягала з сабой, нягледзячы на вялікія памеры, музыку ў слухаўках і з'едзеных на бягу шакаладак.

І мне гэта падабалася! Здавалася нейкай вар'яцкай, але прыгожай авантурай, што разнастаіць шэрыя будні.

— Як даўно ты размаўляла з генералам?

— Ды не памятаю, тыдні два таму, а так ён зусім не з'яўляўся.

Я раздражнёна адмахвалася і бесклапотна канстатавала тое, з-за чаго раней накруціла б сябе да істэрыкі. А колькі разоў я абзывала генерала сволаччу, гнюсам і падонкам праз тое, што ён упарта не хацеў з'яўляцца мне ў сне.

Я шчыра спрабавала разважаць пра гэта і клікаць яго. Імкнулася прасякнуцца ганебнасцю сваіх паводзін, адчуць гаркоту страты, але не, нішто не адклікалася ўсярэдзіне. Мяне напаўняла адчуванне дзіўнай лёгкасці і пустэчы, а з гэтай прычыны — прыемнага спакою. Я перастала актыўна жадаць сустрэчы з імі абодвума, і ў адзін выдатны вечар села ў трамвай каля вакзала без задняй думкі.

Вось здорава, паставілі ёлку. Нарэшце нейкае падабенства святочнага настрою —

хоць снегу дагэтуль не было, проста заўсёды вільготныя тратуары і шэрае стомленае неба, і такі ва ўсім выраз, накшталт: «Зараз-зараз!» Хоць гэта дагодлівае «зараз» у выглядзе дзвюх самотных сняжынак і халаднаватага ветрыка было шчырым фальшам. Але нічога, на маім настроі гэта ніяк не адбівалася. Я ж толькі што здала ангельскую, ды атрымала найвышэйшы бал, чым яшчэ раз аспрэчыла гэту недарэчную заклапочанасць сябровак — ха! Было выдатна ўключыць свінг, заплюшчыць вочы і расставіць зручней ногі, таму што пакуль я нікому не замінала.

Ізноў — краявіды за акном, канцэртная зала, звязаная з вялікім мноствам захапляльных успамінаў, і зноў — хваля эйфарыі. Вострае, на дзіва выразна абмаляванае ўсведамленне рэальнасці ўсіх маіх летуценняў. І не проста як магчымасць, а як голас, што шэпча ў вуха, як рука, што працягвае ключ ад запаветных дзвярэй альбо пляскае па плячы...

У плячо мяне і праўда пхнулі. Праз хвалі заліхвацкай мелодыі давялося вынырнуць у вульгарную рэальнасць. І выявіць, што двое не зусім цвярозых маладых людзей вядуць ажыўленую гутарку ў мяне над галавой, ды прытым робяць дзіўныя рухі. Блізкі быў апрануты ў рудую, як прус, куртку і вывараныя джынсы, у руцэ трымаў празрысты зялёны пакет — іншых падрабязнасцей яго выгляду я не ведала, таму што вачэй не ўздымала. Ён раз-пораз навальваўся і пхаў мяне ў плячо сцягном, а яшчэ ўвесь час чапаў мае ногі (ужо акуратна падабраныя!) сваімі ластамі — яму, ці бачыце, мала было проста стаяць у трамваі, трэба было «элегантна» закідваць нагу за нагу. Прытым ногі ён змяняў кожныя паўхвіліны: пэўна што, яму і ў галаву не прыходзіла прычына няўстойлівасці («гэта не я п’яны, гэта падлога зыбаецца»). Я доўга дзівілася; па прыроднай сарамлівасці абурацца не хацела і рабіла выгляд, што не зважаю. Аднак да плошчы Якуба Коласа гэты юнак падшафэ мне канчаткова надакучыў. «Ды перастань ты грэбці каля мяне нагамі, алень!» — зласліва падумала я.

Не вытрымала, устала і пайшла, прадзіраючыся да месца, якое вызвалілася злева спераду. Там нейкі пенсіянер сядзеў ля акна і чытаў таўшчэзную кнігу.

І тут мая пераможная пасляэкзаменацыйная дабрадушнасць знікла — яе выцесніла сумесь жаху і захаплення. Чаго б там ні было, цяжка апісаць гэта пачуццё, — ногі ў мяне сталі ватовымі, сесці захацелася яшчэ больш. Каля кабіны кіроўцы, пільна гледзячы на мяне, стаяў экс-прэзідэнт. Вочы яго за тоўстымі шкельцамі акуляраў прыжмурыліся, вусны пад пухнатымі вусамі рызеншнаўцара крануў цень усмешкі. Як пакутліва было разгадваць выраз яго твару, мучыцца здагадкамі, што ж ён адчувае і чаму. Навошта цяпер так глядзіць на мяне. Потым на імгненне адбыўся прыліў глыбокай павагі і цягі — гарачай хваляй. І тут мая псіхіка канчаткова завісла, я была ў паніцы, але не магла закрычаць: горла як пятлёй сціснула.

Ногі самі падхіліліся, я села, толькі адчуўшы, як спружыніла сядушка. І ўвесь час — вочы ў вочы. Але тут ужо яўная, цёплая ўсмешка выпарылася з твару экс-прэзідэнта — ён выглядаў як паненка, якая заўважыла маньяка ў цёмнай падваротні. І глядзеў ужо кудысьці праз мяне. Ці побач?

Павольна, як у сне, я з высілкам павярнула галаву і сутыкнулася тварам да твару з маім генералам. Ён быў у цывільным. І кнігу зараз трымаў загорнутай, заклаўшы пальцам старонку. І нахабна, пераможна ўхмыляўся. Вось вам і спадарожнік-пенсіянер.

Што дзеелася, апісваць не бяруся, але ўсярэдзіне перавярнулася ўсё.

Трамвай замарудзіў ход. Аб’ява з дынаміка загучала нізка і глуха. Людзі нібы былі там і адсутнічалі: стаялі натоўпам і нічога не бачылі. Экс-прэзідэнт напружыўся, нібы бачыў, што ў яго страляюць. Апроч няшчаснага выразу, у вачах яго стаілася лютасць расчаравання: «Не выгарэла».

Але я не адрывала позірку ад яго твару — глядзела неадрыўна, адкрыта і бяздушна, цешачыся расцягнутым катаваннем («глядзіце і любуйцеся, якая я сцерва, сеньёр прэзідэнт»), а ў гэты час абдымала генерала, усё набліжаючыся і прысоўваючыся да яго.

Прэзідэнт стаяў і глядзеў. Напэўна, такі погляд бывае ў чалавека, які лезе ў пятлю. Я фіксавала яго смяротную бледнасць, разгубленасць, сумерную халаднаватаму спакою генерала... адварочваючыся толькі ў апошні момант... наштось старанна і прыстойна апускала павекі... ад хвалявання натыкалася на генеральскія вусы... (хоць я даўно навучылася гэтага не рабіць), краем вока бачыла, як паўзе за акном плот вайсковай часткі... адчувала тэмпературу і вільготнасць, але не смак і не настрой пацалунка...

Так, урэшце мне было няёмка. Калі я расплюшчыла вочы, экс-прэзідэнт знік, але ў паветры яшчэ лунала празрыстае аблічча яго здані.

«Вуліца Бялінскага», — абвясціў дынамік. Я рыўком устала і выскачыла, спатыкнулася: забылася, што на асфальце канаўкі, хвалістыя барозны. Біла дрыготка. Страшна, сорамна, радасна — адным словам, збянтэжанасць.

Я ішла не азіраючыся. Аднак генерал нагнаў мяне і пайшоў побач.

— Як вы абодва апынуліся ў адным трамваі?

Ён пацiснуў плячамі.

— Вы што, збіраліся ладзіць дуэль у канала Сляпянскай воднай сістэмы?

Але ён толькі ўхмыльнуўся, як задаволены барс.

Як бы там ні было, напруга мяне адпусціла, і навалілася стомленасць. У галаве раіліся дзясяткі думак, і не ўсе аднолькава прыемныя — прытым добрая палова іх датычылася генерала і ягоных паводзін. Але ён проста ішоў побач, і гэта само па сабе было дзівам. Такім неверагодным, што сіл для здзіўлення ўжо не засталося. А яшчэ ён узяў мяне за руку — ягоная рука была па-салдацку моцная, шырокая і — цёплая.

Шарэла. Ужо пачалі загарацца мандарынавым святлом вокны; дзе-нідзе мігацелі гірлянды, — чамусьці галоўным чынам сінія, халодных адценняў, — і мне падабалася іх лічыць, як у пяць гадоў: раз, два, тры... ух ты, унь яшчэ ў кватэры па дыяганалі! А Генерал насамрэч нібыта вёў мяне за ручку з дзіцячага садка. І пайшоў снег — нарэшце, сапраўдны, пухнаты, святочны. І бровы ў генерала таксама былі падобныя да снежных шматкоў. А можа, на іх адразу наліплі гэтыя тоўстыя касматыя сняжынкі.

І я неяк вельмі расчулілася — тое, што адбывалася, было выдатна.

Я замарудзіла крок і кранула яго за рукаў:

— Аўгуста... дзядулька... слухай, а пайшлі да мяне, гарбаты разам пап’ем, у мяне печыва смачнае. І цукеркі.

Але тут жа схамянулася, сэрца ў мяне ўпала.

— То бок... халера, ну я і глупствы кажу... Якая гарбата! Вам, пэўна, яна не патрэбна. Вы ж не ясце і не спіце, як мы, — так? — прагаварыла я канчаткова засмучаным голасам.

— Не абавязкова, — важна паправіў мяне генерал, — усё залежыць ад жадання.

— А ты хочаш выпіць са мной гарбаты? — з надзеяй перапытала я.

Мой ваяка не адказаў. Проста сціснуў маю руку яшчэ мацней і працягваў ісці, не запавольваючы кроку.

А я таксама нічога не перапытвала. Проста палезла ў кішэню праверыць ключы.

Ігар ПАЛЫНСКІ

# ІМКНЕННЕ ВЯСНЫ



***Ігар Палынскі нарадзіўся ў Полацку 20 чэрвеня 1993 года. Студэнт-завочнік Інстытута журналістыкі БДУ, карэспандэнт тэлекампаніі «Саммит+ТВ», лідар гурта «Sumarok». Марыў спець з Арбенінай; патрапіў у Снайперскі хор — мара здзейснілася, цяпер марыць пра дуэт.***

* * *

а я зноў пішу.
і не таму,
што хочацца ў здабычу новы матэрыял.
і не таму, што тут віруюць думкі
ў неразумнай гэтай галаве,
і не таму, што Круткін кожны ранак
прыходзіць з новымі радкамі
і зайздрасць мімаволі пачынае панаваць
накшталт «ён можа, а я не» —
не.
не таму я зараз бачу ў чорнай скрыні,
як выбіваюцца танюткія радкі —
калі павольна, а бывае, парушаючы
ўсе хуткасці, падораныя звыш,
калі вар'яцкі шрыфт мільгае перад вокам
(другое ўжо амаль не бачыць),
калі люстэркі думак незнянацку
кладуцца на нерыфмаваныя склады.
я не чакаў, што стане ранак
такім балючым. і бязглузда
не стану ехаць па дарозе
з кіроўцам, якога бачу
першы і апошні раз у жыцці.
бо нездалёк твой дом,
бо блізкай ты здаешся,
бо я бязлітасна да сваёй існасці
цябе кахаю —
здаецца, ужо не першае жыццё.
а ты маўчыш, і толькі дужкі,
бязмэтныя пародыі ўсмешак,
я бачу які раз у сваім прываце.
але вайна ў маім сумленні
перамагла саму сябе,
стану чакаць. і — станецца,
убачу твае вочы зноў,
і шчасце натхніць
на новыя спатканні.

* * *

не баюся стаць ценем
зямлі, што ты
сваёю радзімай завеш.
цяпер усё меней
крычаць каты
пад домам, дзе ты пяеш.
пальцы на чорных
і белых ключах
раскрыюць усе твае сны,
а сціплыя словы
і шчасце ў вачах
разбудзяць імкненне вясны
распальвацца сонцам у вокнах,
саграваць думкі і сэрцы.
калі радкі мае крохкія,
запісаныя на выпадковай паперцы,
хоць камусьці падораць імгненне
усмешкі на вуснах, лёгкасці кроку,
не стану знішчаць памкненне
нараджацца нясмеламу року.

...там пяюць званы,
праводзячы ў рай
Вялікае Сонца Паэта.
будзем бачыць сны,
як нясём на руках
беларускае слова для свету.
я не стану акрэсліваць
межы часоў,
але цвёрда ведаю — будзе
той святочны дзень,
калі моваю зноў
загамоняць мільёнамі людзі.

і распаліцца сонца ў вокнах,
сагрэюцца думкі і сэрцы...

* * *

не любі мяне.
шукай не мяне.
тампліеры на сэрцах танчаць сцюдзёнае танга.
не шкадуй мяне.
даруй не мне.
рызыкуй не паспець выкрыць тых,
хто ніжэй па рангу.

і калі тэлефон
скажа мне,
што чарговыя песні ў сне
разаб'юцца
ў лісце
і казкі душ чыстых —
затрымаецца плынь сакральнай ракі
і адчуецца дотык любімай рукі...

помні мяне.
не забудзь мяне,
калі нават сканаю і птушкай узарву нябёсы.
кахай мяне,
прабачай мне!
гэты квэст нам зададзена
поруч прайсці самім Лёсам.

* * *

як пара з кубка, ўецца час.
і бы мурашнік — вір жыцця,
нібыта ў матрыцы. хаця
тут сіні sky, зялёны grass.

глядзецца ў чорны манітор
не варта — адаб'ецца боль.
пачні свой блюз мажорным соль,
а я спяю
мінор.

ты напішы мне хоць радок,
каб крышку затрымаць зіму.
адрэсу ў клетачцы «каму»
зазнач каротка: sumarok.

і будуць бегчы рэкі дзён,
і будзе мроіцца далонь,
цяплейшая за той агонь,
што шле ільдам
праклён.

*Кацярына ЗАХАРЭВІЧ*

# ДАРУЙ МНЕ, ДВАРНЯГ



***Кацярына Захарэвіч нарадзілася 27 жніўня 1994 года ў Докшыцах. Студэнтка 4-га курса Інстытута журналістыкі БДУ. Рэдактар спецыяльных праектаў часопіса «Бярозка». Над напісаннем уласнай біяграфіі сядзела больш, чым над напісаннем гэтага апавядання.***

— Ідыёт! Проста неверагодна, які ты ідыёт! Тут жа ўсё так проста! Пішы хутчэй! — рот мужчыны, які выкрыквае ўсё гэта, пырскае слінай, вочы робяцца шырэйшымі, шалёна круцяцца ў вачніцах, скуру на ілбе праразаюць глыбокія злосныя зморшчыны. Хлопчыку было б, напэўна, смешна, калі б не было так сумна. Яму нават страшна амаль не было, калі толькі крыху зусім. Ён прызвычаіўся ўжо.

— Я запытаюся ў тваёй маці, з кім яна цябе нагуляла! Я ўпэўнены, што ты не мой сын! Мой сын не можа быць такім дурнем! Рашай, каму кажу! Ты мяне чуеш? Я ведаю, што ты мяне чуеш!

Крыўда і агіда ўсё ж такі перамаглі звычку трываць. Ну што ён такога зрабіў? Напэўна, бацька злуецца з-за таго, што больш за гадзіну пайшло на беспаспяховыя намаганні рашыць задачу па матэматыцы. Няўжо гэта так страшна — не рашыць задачу, тым больш, што тут дробы і сантыметры? Атрымліваецца, сапраўды страшна, бо твар у бацькі проста жудасны, брр!

Хлопчык прамыкаў штосьці незразумелае: праз слёзы немагчыма было разабраць, што ён хацеў вымавіць. Словы перамешваліся з усхліпваннямі. Гэта было штось падобнае да: «Я стаміўся, хачу паглядзець мульцікі».

— Мульцікі? Ты глядзеў іх гадзіну таму! Які сэнс табе ад іх, скажы? Ты толькі прыкідваешся глухім дурнем, я ведаю! Ты ўсё чуеш, інакш, які табе сэнс ад мульцікаў? І гаварыць ты можаш нармальна, я ведаю! Ну, скажы штонебудзь, дрэнь! Скажы!

У адказ мужчына зноў пачуў толькі незразумелае мыканне, якое толькі мацней яго раздражніла. Яшчэ больш злосны ён быў ад немагчымасці што-небудзь зрабіць, вытрасці як-небудзь з гэтай маленькай істоты хоць адно слова. Ён навісаў над хлопчыкам, вялізны, злосны, страшны. Сын усё ніяк не мог звыкнуцца, што вусны, якія заўсёды яму ўсміхаліся, хвалілі і падбадзёрвалі, зараз так жудасна крывяцца і вымаўляюць, напэўна, нешта дрэннае, страшнае. Вочы, якія ззялі пяшчотай, цяпер усё часцей блішчаць ад нейкай злосці, нянавісці нават. Нібы адно толькі існаванне хлопчыка робіць жыццё бацькі невыносным. За гэта яму было крыўдна і сорамна. Ён

нават радаваўся, што ў шалёных грымасаў яго бацькі амаль няма гукавога суправаджэння. Можна толькі па вуснах чытаць ці здагадвацца, за што яго так ненавідзяць. На той выпадак, калі здагадвацца не хочацца, хлопчык прыдумаў заплюшчваць вочы. Канешне, спачатку страшна, калі памятаеш, што над табой стаіць раз'юшаны бацька з дзягай, а ты нават не можаш абараніцца, калі ён вырашыць цябе ўдарыць, але і на гэта можна забыцца. І тады нібы нічога не адбываецца, нічога не існуе, акрамя цішыні і цемры, якія ставяць пад сумненне і тваё існаванне. Дарэчы, бацька яго ніколі не біў, нават апошнім часам. За гэта хлопчык быў шчыра ўдзячны яму.

* * *

Яна ляжала, выцягнуўшыся на ложку і думала, як не хапае ёй цішы і цемры, у якіх нічога не існуе і можна нават забыцца, што існуеш сама. Са сталасцю стомленага, расчараванага ва ўсім чалавека думала пра жыццё. У свае амаль 16 год яна адчувае сябе прыбізна на 40 і нават крыху ганарыцца гэтым. У адрозненне ад сваіх аднакласнікаў і іншых знаёмых, яна ледзь не фізічна адчувае ўсю рэалістычнасць, бескампраміснаць, бязлітаснасць жыцця. Астатнія, наіўныя і неразумныя, вераць у сваю абранасць, незвычайнасць, няўзрушнасць, у шчаслівы лёс, які чакае іх; а яна разумее, што верыць у гэта няма ніякай падставы. Амаль кожную ноч яна даводзіла гэта сабе так упэўнена і пераканаўча, нібы выступала перад вялікай аўдыторыяй наіўных дурняў, якія праглі, каб ім адкрылі вочы. Даказвалася ўсё сапраўды даволі проста: на планеце больш за 7 мільярдаў людзей. У кожнага ў галаве сядзіць сваё «Я». Уявіце, што такіх, як вы, больш за 7 мільярдаў. Падарыце ім часова свой унутраны свет, сваю свядомасць, сваё жыццё, каб ярчэй уявіць іх колькасць. І кожны такі «Я» ўпэўнены, што ён асаблівы, што яму наканавана самае лепшае, самае шчаслівае жыццё. Можа быць такое?

Усё навокал ілжывае. Усё, што кажа: «Адпусці, калі яно тваё, то вернецца». Усё, што абяцае прынца на белым кані ці пераўтварэнне гарбуза ў шыкоўны аўтамабіль. Калі штосьці тваё, дык трымай гэта штосьці, пакуль не будзеш упэўнены, што тваё табе і застанецца. Калі хочаш аўтамабіль, працуй і набудзь, альбо так і заставайся сядзець на гарбузах. Усе кнігі, усе кінафільмы, што даводзяць адваротнае — хлусня. І чым раней чалавек гэта зразумее, тым раней ён перастане чакаць нявядома чаго ад лёсу, нябёсаў, Бога, ці на каго там яшчэ ён ускладае адказнасць за сваё жыццё.

Прыблізна так уяўная прамова заканчвалася, уяўныя дурні ўскоквалі з месцаў, шчыра і гучна пляскалі ў далоні, шырока ўсміхаліся, упэўненыя ў тым, што зараз іх ужо не падмануць, што выходзяць яны з уяўнай залы новымі людзьмі, якія зараз жа пойдуць уласнымі рукамі будаваць новае жыццё. Яна ж, правёўшы натоўп поглядам, разумела, што сказала ім не ўсё, але большага ім ведаць не трэба. Напэўна, так адчувае сябе настаўнік матэматыкі, які, укладваючы ў галовы дзяцей веды пра лагарыфмы ці яшчэ якое ліха, не кажа галоўнае: большасці вучняў яны наўрадці калі-небудзь будуць карыснымі.

Ёй не хацелася ні аўтамабіль, ні прынца, ні каня. Яна проста хацела, каб тыя, што шумяць за сценкай, хутчэй змоўклі і далі ёй паспаць. І яшчэ каб ліхтар, які так жорстка і бескарысна свеціць у вочы праз фіранкі на акне, злітаваўся і згас. Вось так, расклаўшы па палічках жыццё ўсяго чалавецтва, вынайшаўшы яго бессэнсоўнасць, яна перавернулася тварам да сценкі, накінула коўдру на галаву і паспрабавала прыцягнуць да сябе хоць павярхоўны сон.

* * *

З дзяцінства Сяргей ведаў, што не будзе падобным да свайго бацькі. У яго, Сяргея, будзе самы лепшы сын і самая лепшая жонка, самая шчаслівая сям'я. У яго будзе ўсё, пра што марыў бацька, толькі дасягне ён гэтага іншым шляхам. Назло.



*Малюнак Алесі Галота.*

Крыўда гэтая з маленства была ціхай. Не знаходзіла сабе выйсце ніяк, толькі праз начныя слёзы, злосныя думкі і праклёны, якія танулі ў тых жа слязах.

Са школы яшчэ Сяргея пераследваў адзін успамін: ён сядзіць за сталом у агульным пакоі — «зале». За вокнамі — вясна, ветрык, футбол і бэз. Перад вачыма — сшытак з задачамі па матэматыцы. Калі вочы заплюшчыць — той жа самы сшытак, тыя ж самыя задачы. Вочы заплюшчваюцца самі — на насценным гадзінніку амаль адзінаццаць гадзін вечара. Калі падняць вочы ўверх, можна ўбачыць перавернуты бацькаў твар. Ён крыху смешны ад таго, што бачыш яго дагары, але нават маленькай ўсмешкі Сяргей сабе не дазваляў. Твар у бацькі ўсё ж сур'ёзны.

Нецярплівы, амаль паўгадзіны стаіць бацька вось так над ім, Сяргеем, назірае, як той рашае задачу. Задача ўпарта не хоча рашацца, адказ ніяк не сыходзіцца з лічбай у канцы падручніка.

Злосны, калі Сяргей памыляецца ці пакідае на старонцы кляксу. А стрыжань, як знарок чапляецца за няроўную паперу і толькі паспявае пакідаць гэтыя агідныя плямы. Злева ляжаць ужо тры сшыткі, сапсаваныя кляксамі і няправільнымі адказамі. Хутка да іх адправіцца і гэты, чацвёрты.

Часам незвычайна задаволены — тады ён шырэй адчыняў форткі, каб лепей было чуваць хлопцаў, якія гулялі ў футбол, каб мацней пахла бэзам, каб больш блытаўся вясновы ветрык у занавесках, каб больш блыталіся думкі ў пахах, гуках і жаданнях.

— Рашай хутчэй! Акуратней, зноў кляксаў наставіш, яшчэ адзін сшытак будзеш перапісваць! — сліна брызгае з перакошаных вуснаў.

— Я стаміўся. Я хачу спаць, — ціха вымавіў Сяргей. Не так, каб яго пачулі — проста, каб выказаць крыўду, якой недастаткова выходзіць ужо разам са слязьмі. Але бацька добра чуў усё тое, што яго не датычылася.

— Спаць? Добра, ідзі спаць! Ты не скончыш школу, будзеш збіраць бутэлькі па дварах, харчавацца тым, што знойдзеш у сметніцы, затое спаць будзеш колькі заўгодна! І не хныкай мне тут! Ты ж мужчына ў будучым! Спадзяюся.

Гэтыя словы ён запомніў асабліва дакладна за гады вучобы ў школе, начных слёз і страшных сноў. У тыя моманты ён думаў, што лепш і праўда збіраць бутэлькі і не мець даху над галавой, чым вучыць нікому не патрэбную матэматыку, намагацца скончыць школу з залатым медалём і ўвогуле трываць гэта ўсё. Школу ён скончыў. Скончыў і ВНУ. Тэхнічную. Зноў жа па загадзе бацькі, які, насуперак усім надзеям, не страціў свой кантроль над сынам ні пасля заканчэння школы, ні пасля паўналецця, ні пасля жаніцьбы. Але ўсё ж хлопец змог крыху вальней уздыхнуць, калі з'явіліся сапраўдныя падставы планаваць і ствараць сваё жыццё, ідэальнае, і, хоць у марах, незалежнае ад бацькі.

Нібы па ўдала напісаным сцэнарыі развіваліся падзеі: забяспечанае жыццё паважанага чалавека, жонка-прыгажуня, дзіця, абавязкова сын, прыгажосцю — у маці і розумам — у бацьку. І будаваць свой лёс ды гадаваць дзіця можна так, як хоча ён, Сяргей, а не яго бацька Іван Сяргеевіч. Ажываў гэты малюнак «мама-тата-я», які з дзяцінства ўяўна вісеў над ложкам Сяргея, толькі цяпер тата ўжо ён. І жонка знайшлася прыгожая. Магчыма, не такая разумная, як малявалася ў марах, але розуму хапіла, каб нарадзіць сына, падтрымліваць лад у хаце і своечасова змоўкнуць пры неабходнасці. Бацька, здаецца, стаў крыху менш умешвацца ў справы маладой сям'і. Сяргей нават падумаў, што той прызнаў магчымасць існавання чыіх-небудзь, акрамя ўласных, поглядаў і меркаванняў. Настойваў толькі на тым, каб і сына назвалі Іванам, «каб рос у дзеда», але з гэтым сяк-так можна мірыцца.

Была ў Івана Сяргеевіча адна якасць, якую Сяргей з задавальненнем пераняў бы. Бацьку, здавалася, ніколі не брала ніякая хвароба, ніякая бяда. Ён — высокі, шырокі ў плячах, дужы — заўсёды вылучаўся сярод іншых мужчын. Здавалася, адзін можа дрэва з каранямі вырваць і ў асфальт усадзіць, валун, бы мячык, зашпульнуць, шматпавярхоўку на плячах перанесці і нават ніякага знаку не даць, што станміўся. Сапраўдны волат. Нягледзячы на тое, што ад волатавай сілы Сяргей неаднойчы пакутаваў, нават калі быў даволі дарослы і мог сам даць адпор, гэта вельмі захапляла. Бацька быў мацнейшы за ўсіх. Што ў волата было слабое здароўе, праблемы з сэрцам, не ведаў ніхто, акрамя яго самога і жонкі, якой забаранялася каму-небудзь пра гэта казаць. Сяргей жа часам проста сумняваўся, што ў гэтага робата ўвогуле ёсць сэрца.

Аднойчы волат злёг.

Вельмі незвычайна было бачыць гэтага моцнага, жорсткага чалавека такім хворым, бездапаможным, такім маленькім у яго вялікім ложку пад тоўстай коўдрай і сярод падушак. Вельмі дзіўна было назіраць, як маленькая, нібы крыху ссохлая ад сваіх хвароб, маці дапамагае яму падымацца, хадзіць, есці, мыцца. Імкненне Сяргея дапамагчы яна ўспрымала насцярожана, нібы ведала, як хацеў сын з дзяцінства адпомсціць бацьку. Але, хоць і са страхам, Івана Сяргеевіча давялося перавезці да сына.

Калі гэта здарылася, Сяргей адчуў дзіўную радасць, палёгку, за якую спачатку было сорамна, але потым ён зразумеў, што сорам гэты — напускны. Быць уважлівым і клапатлівым сынам для бацькі, які нічога не можа зрабіць і нават сказаць, было даволі лёгка. Складана было паверыць, што чалавек, які псаваў жыццё табе, тваёй сям'і, твайму сыну, зараз цалкам пад тваёй уладай. Ад таго, наколькі своечасова ты прынясеш яму есці і піць, пачуеш, што ён цябе кліча, сапраўды залежыць яго жыццё. Пачуццё ўлады закружыла Сяргею галаву, але не магчымасцю адпомсціць і, крый Божа, давесці да смерці. Але магчымасцю помсціць сваёй увагай, клопатам, пашанай, сыноўскай любоўю, якіх ніхто не мог ад яго чакаць. Кожную гадзіну ён

заходзіў у пакой да бацькі, пытаўся, ці не трэба чаго, папраўляў падушкі і коўдры, прыносіў ежу і амаль што карміў бацьку з лыжачкі, пільнаваў, каб тэмпература паветра, вады, ежы была не большай і не меншай за норму, па вечарах чытаў яму газеты і кнігі.

Сяргей адчуваў нейкае незвычайнае задавальненне ад такіх турбот. Быць не такім, як бацька, было лепшай помстай. Забыцца на дзіцячую крыўду, быць ідэальным сынам. І справа не ў тым, каб падставіць левую шчаку, калі б'юць па правай, а ў тым, каб сваімі ахвярамі біць пад дых. Быць непрадказальна такім, якім яго хацелі бачыць. Сяргей з асалодай адчуваў хвалі страху, здзіўлення, сораму ад бацькі, жыў, карыстаючыся, падпітваючыся імі.

* * *

Што адбылося ў той вечар, калі хлопец перастаў чуць і размаўляць, не ведае дакладна ніхто, акрамя двух Іванаў.

Сяргей, шмат разоў папрасіўшы прабачэння за тое, што кідае бацьку на вечар пад наглядам Івана-малодшага, разам з жонкай пайшоў адзначаць дзень нараджэння свайго кіраўніка. Усведамляючы, што ісці не хочацца, што ён лепей з кнігай на канапе пасядзеў бы. Але ж гэта быў начальнік. Не пайсці было няветліва і, хто ведае, можа, небяспечна для кар'еры. Але няветліва, канешне, у першую чаргу. Ды і жонцы хацелася «выгуляць» новую сукенку. Застоллі з офіснай элітай мужа цікавілі яе значна больш, чым кнігі. Затое яна была прыгожай і ўмела маўчаць.

Увесь вечар шчаслівая сямейная пара весела бавіла час, не прадчуваючы нічога дрэннага. Наадварот, святочны настрой апанаваў іх так, што Сяргей забыўся на сваё жаданне правесці вечар з кнігай, яго жонка забылася, што сапсаваную віном новую сукенку ўжо, здаецца, не ўратаваць, і абодвум ім здавалася, што хворы бацька і малы сын існуюць недзе ў іншым свеце, у які зусім не абавязкова вяртацца. Як можна думаць пра яго, калі навокал столькі прыгожых і вясёлых людзей, гучыць добрая музыка, твой кіраўнік глядзіць на цябе п'яна-закаханымі вачыма, якія так і абяцаюць павышэнне, бацька болей не ўплывае на тваё жыццё, ты — сам сабе гаспадар… Вось яно, шчасце!

П'яныя, шчаслівыя, нібы нават зноў крыху адно ў аднаго закаханыя, яны вярнуліся дадому ледзь не пад раніцу. Святло не гарэла. «Напэўна, спяць», — падумаў Сяргей, але, як бы ні хацелася рушыць рэшткі святочнага настрою вяртаннем у рэчаіснасць, зазірнуў у пакой да бацькі.

Уключыўшы настольную лямпу і акінуўшы вокам ложак, ён адразу нават не зразумеў, што адбылося. Бацькі не было. Першыя некалькі імгненняў, пакуль вочы яшчэ змагаліся з рэшткамі цемры, ён не мог усвядоміць тое, што бачыць. Проста стаяў і глядзеў — ці не хвіліну — на скамечаную бялізну. Толькі праз некаторы час ён звязаў у свядомасці стогны, якія чуліся з-за ложка з тым, што ложак пусты. Пакуль гэты пазл у галаве склаўся, стогны сталі яшчэ грамчэйшымі. Бацька заўважыў Сяргея і не разумеў, чаму ён не бяжыць на дапамогу, а стаіць там. Ён не бачыў твару свайго сына, бачыў з-пад краю прасціны толькі яго ногі. Якія абыякава стаялі. Ні кроку да яго, ні памкнення да кроку. Стала страшна. Страшна, што ногі зараз развернуцца і пойдуць з пакоя. Няўжо гэта тая самая помста, якую ён чакаў, вырвалася вось так, вось цяпер, калі любому сыну, нягледзячы ні на якія крыўды, было б не да разліку за старыя грахі? Іван-старэйшы раззлаваўся. Хворы, зусім знямоглы ад фізічных пакут і доўгага ляжання ў ложку, ён крычаў. Не пакутліва, не жаласліва, а злосна! У гэтыя імгненні ён зноў стаў тым самым бацькам-волатам, якога баяўся

Сяргей, колькі сябе памятаў. Сын, спахапіўшыся, падскочыў да бацькі, лёгка падняў яго на рукі і паклаў на ложак. Той усё яшчэ бурчаў. Слоў было не разабраць, але тон іх даваў зразумець: бацька лаецца на сына за тое, што ён так доўга думаў, перш чым дапамагчы. Паводле яго меркавання, Сяргей заўсёды доўга думаў і быў «затармажаны» для прыняцця рашэнняў. Нічога не змянілася. Помста бацьку не навучыла. Ён усё гэтак жа лічыць сябе галоўным. А Сяргей па-ранейшаму — усяго толькі неразумная слабая істота… Потым, калі ён зразумеў гэта, калі адчуванне аформілася ў думкі, страшна злаваў на сябе. Можа, бацька мае рацыю, можа, так і ёсць? Сяргей зноў даў яму нагоду сумнявацца ў ім. І не сумнявацца ў сабе. Але ж якое нахабства! Ён, стары, знямоглы, нерухомы, усё яшчэ лічыць сябе галоўным! Усё яшчэ лічыць Сяргея слабым дурнем.

Няўжо яго, Сяргея, ідэі і меркаванні былі беспадстаўнымі? Няўжо даказаць сваю перавагу можна, толькі выкарыстаўшы сілу? Няўжо ён не дасягнуў узроўню бацькі сваім метадам — дабрынёй, дапамогай, клапатлівасцю, пашанай? Каб быць лепшым, трэба перамагчы лепшага сілком?

* * *

За ўсёй гэтай мітуснёй, калі старога Івана спачатку паднімалі і ўладкоўвалі на ложку, а потым доўга намагаліся супакоіць яго ўжо не злосна-моцны, а старэчы істэрычны лямант, ніхто не падумаў пра Івана маленькага. А ён сядзеў, скруціўшыся, у кутку, які настольная лямпа не здолела ахапіць святлом. Сядзеў і маўчаў. Некалькі гадзін пасля таго, як дзед упаў каля ложка і не паварушыўся, ён праседзеў тут, у дальнім кутку. Напэўна, лепей было б выбегчы з пакоя, але, каб дайсці да дзвярэй, трэба было прайсці каля ложка. І каля дзеда. Ці ўжо таго, што было ім. Да таго ж, пакідаць старога Івана ў пакоі было шкада. Ён усё ж бездапаможны і адзін, жывы ён ці мёртвы. Навакольле неяк пакрысе страціла свае гукі. Ён нават і не заўважыў. Так і праседзеў у цішы і цемры невядома колькі часу. Праседзеў у пакоі, дзе, можа, была ўжо смерць. Ён і вочы заплюшчыў, каб не ўбачыць яе постаці, нават выпадкова, нават на адно імгненне, каб яму і не падалося, што яна тут ёсць.

З'яўлення бацькі ён не бачыў і не чуў. Толькі адчуў яго па нейкім хваляванні паветра, калі бацька ўжо падхапіўся паднімаць дзеда. Іван убачыў дзедавы расплюшчаныя вочы. Убачыў, як ледзь-ледзь варушацца вусны, уздымаюцца ў прырывістым, злосным дыханні грудзі. Жывы. Значыць, тут не было… нікога трэцяга.

* * *

Сяргей раптам зразумеў, каго трэба вінаваціць у тым, што здарылася. Гэта ўсё яго сын. Слабы і труслівы. Не хлопец, не мужчына. Забіўся ў куток, як толькі ўбачыў перашкоду! Абхапіў калені, скруціўся ў клубочак і ганарыцца сваёй слабасцю і страхамі! Добра, што яшчэ не плача!

З-за яго цяпер для Івана-старэйшага слабы і бездапаможны ён, Сяргей! І ўсё праз тое, што на хвілінку разгубіўся! А хто б не разгубіўся? Хто б не спужаўся, убачыўшы хворага бацьку пад ложкам? Не ён жа сядзеў некалькі гадзін у кутку, замест таго, каб дапамагчы дзеду падняцца і як-небудзь ускараскацца на ложак! З-за яго, малога, труслівасці, дарэмнымі былі ўсе намаганні Сяргеевага жыцця. Што ён ні рабіў — змагаўся з матэматыкай бяссоннымі начамі, паступаў ва ўніверсітэт, зда-

бываў самастойнасць рознымі шляхамі, заваёўваў любоў і павагу бацькі — усё гэта парушыў яго сын адным дзеяннем. Адным НЕ-дзеяннем нават.

Усё дарэмна. Праз гэтага шчанюка ўсё жыццё Сяргея разбурана. Будаваць яго наноў — гэта столькі намагання, столькі пакут, якія ён перажываў ужо і не здолее перажыць яшчэ раз. Ён зноў слабы і маленькі ў вачах бацькі. Ён малы і па-старэчы слабы адначасова. І, здаецца, адзіная магчымасць як-небудзь гэта выправіць — цалкам стаць такім, як бацька. Вырашаць усё сілай. Зараз ён пакажа, хто тут мацнейшы за ўсіх!

Івана-малодшага ён знайшоў у пакоі дзеда. Ён, звярнуўшыся клубочкам і абхапіўшы рукамі каленкі, ляжаў побач са старым на яго ложку. Іван-стары з пяшчотным шкадаваннем паглядаў на малога. Крыху ўжо супакоены, убачыўшы гэту ідылічную карціну, Сяргей зноў раззлаваўся, нават яшчэ больш — яго тут сустрэлі нядобразычліва, халодным, нават варожым позіркам. Вочы бацькі казалі: ідзі адсюль, без цябе дрэнна. Але Сяргей не слухаўся гэтых нявыказаных загадаў. Ва ўсім павіннага малога яго бацька песціць ды лашчыць, а ўласнага сына, які выратаваў яго… Падышоўшы да ложка, шкуматнуў малога. Той, яшчэ не прачнуўшыся, здзіўлена глядзеў на бацьку. Перарваўшы суворым позіркам усе запытанні, Сяргей, не зважаючы на бацькава ледзь выразнае, але гучнае абурэнне, сілком сцягнуў малога з ложка і пацягнуў да дзвярэй. Добра, што даў хоць на ногі ўстаць.

Трымаючы хлопчыка за каўнер, Сяргей правёў яго каля кухні, дзе здзіўленая жонка адарвалася ад прыгатавання сняданка, але нічога не паспела або не адважылася сказаць, зацягнуў у дзіцячы пакой і шпурнуў на ложак. Сам навіс над ім. Вялікі, злосны, пагрозлівы. Ніколі не бачыў Іван-малодшы свайго бацьку такім. Ён любіў яго нават болей за маму, бо бачыў значна часцей. Бачыў заўсёды лагодным, клапатлівым, усмешлівым, а зараз ён быў раз'юшаным і страшным. Чаму? За што? Што змянілася за гэты час, пакуль ён спаў?

Дзед жывы, зноў у сваім ложку, нават на яго, Івана, не крыўдуе, і, напэўна, не распавёў тату, як усё было на самай справе: што Іван-старэйшы паклікаў унука і папрасіў дапамагчы падняцца з ложка. Хлопчык узрадаваўся: ужо даўно ён не бачыў дзеда на нагах, і так сумаваў па іх сумесных забаўках ды гульнях. Як мог, дапамагаў ён старому ўстаць на ногі, адчуваючы на сваіх плячах вагу старэчага схуднелага, але такога цяжкога цела… Дзед не паспеў нават выпрастацца, стоячы каля ложка, адразу паваліўся, як толькі перанёс цэнтр цяжару на ногі. Гук падзення, здавалася, быў гучнейшым за ўсе магчымыя гукі. Гучнейшым, чым можа вытрымаць слых чалавека. Стала страшна. Жудасна. І ціха, толькі ўласнае сэрца біла ці то ў вушы, ці то ў скроні. Калі з-за яго дзед памёр…

Бацька тым часам, пакуль Іван вяртаў да жыцця гэтыя нядаўнія падзеі, нешта, напэўна, крычаў. Што? Чаму так злуецца бацька, калі нават дзед даравў яму? Як хацеў бы даведацца пра гэта Іван-малодшы…

— Чаму ты не падышоў да дзеда? Чаму не дапамог яму ўстаць?

Іван моўчкі назіраў, як варушацца вусны яго бацькі, гэта было крыху смешна, нібы рыба хлопае ротам, калі яе выцягнуць з вады. Каб не рассмяяцца, Іван намагаўся ўкласці нейкі сэнс у руху вуснаў, але зразумець усё адно нічога не мог.

— Ты, маленькая дрэнь, шчанюк! Чаму ты маўчыш? Чаму не адказваеш мне? — вочы круціліся ў вачніцах, рот пырскаў слінай. Іван кінуў намаганні зразумець, што крычыць бацька. Цяпер ён глядзеў на яго вочы і рот, скрозь вочы і рот. Здавалася, гэты рот зараз заглыне яго, Івана, пражуе сваімі вялікімі зубамі, перамеле чырвоным языком.

— Чаму ты псуеш мне жыццё? Я ўсё рабіў толькі дзеля цябе, а ты! Ты ўсё разбурыў! Чаму дзед лашчыць і песціць цябе, а мяне зневажае? Што я такога дрэннага зрабіў вам? — Сяргей раптам замаўчаў. Адчуў нечыя далоні ў сябе на плячах. Павярнуў галаву — за ім стаяла жонка. Глядзела ў вочы, смела, як ніколі не было. Стрымаўшы злосць на яе, Сяргей нібыта супакоіўся. Павярнуўся да сына і ціха, але цвёрда сказаў:

— Каб каля дзеда я цябе болей не бачыў.

* * *

Якое шчасце, мукі з дробамі і сантыметрамі нарэшце скончыліся! Ужо ноч, і тата загадаў класціся спаць, але трэба яшчэ прачытаць апавяданне па літаратуры і параграф па геаграфіі. Гэта хутка і лёгка, але тата не будзе правяраць, ён, здаецца, пайшоў ужо спаць. Ды і не цікавыя для яго ні літаратура, ні геаграфія, ні гісторыя ні яшчэ што «неістотнае, нерэальнае». Толькі і сядзіць ён са сваімі лічбамі, чарцяжамі і схемамі, якія на самай справе — не больш як крэмзалкі на паперы.

Іван-малодшы неяк вельмі ўпадабаў у апошні час геаграфію. Было складана спачатку ўявіць, што недзе па-за тваёй кватэрай, па-за вуліцай, якую бачна з вокнаў кватэры, па-за горадам ёсць іншыя гарады. Ні карцінкі з інтэрнэту ці тэлевізара, ні апісанне падручніка, а сапраўдныя, «жывыя» землі, з мноствам людзей, жывых і сапраўдных, такіх самых «Я», як і ён. Мноства «Я» існуе і існавала па-за яго прасторай і часам, нават па-за рэчаіснасцю. Мноства «Я», якія былі маладзейшымі і старэйшымі, больш шчаслівымі і няшчаснымі, разумнейшымі і простымі, але ўсе яны — «Я». І вельмі хацелася быць разам з такімі «Я», быць кім-небудзь з іх, быць не толькі сабой, быць усімі імі адначасова ці па чарзе, разумець іх так, як самі яны разумеюць сябе, ці нават лепш. Яму здаецца, у яго атрымаецца. Атрымліваецца ж разумець бацьку і не крыўдзіцца на яго. Ну, амаль разумець і амаль не крыўдзіцца.

Але не толькі іншыя часы і прасторы, нават суседняя вуліца часам была недасяжнай. Ці шмат разгледзіш, нагуляеш, наўяўляеш з гэтай штодзённай матэматыкай і з татам, які, хоць і выпускае крыху прайсціся па двары, але надакучліва і несупынна ходзіць недзе блізка ды крычыць, каб далёка не адыходзіўся і доўга не затрымліваўся. Ды і ўдзень горад, двор, людзі — усё нейкае звычайнае, заклапочанае, як і бацька, і нейкае нават нібы не «Я». Вось бы зараз, ноччу, паглядзець, якія яны сапраўдныя, калі іх не прыгнятае горад… Але застаецца толькі ўяўляць, марыць, чытаць пра іншыя часы і прасторы ды чакаць каля акна, што спозніцца і пройдзе які-небудзь выпадковы падарожны, які будзе на некалькі імгненняў у полі зроку, будзе яшчэ адным «Я», сапраўдным «Я», не прыгнечаным горадам і людзьмі.

* * *

А ёй не спалася. Тыя, што крычалі і грукаталі за сценкай, — людзі, якіх ёй даводзілася зваць бацькамі і якія паводзілі сябе як самыя сапраўдныя дзеці, — класціся спаць не збіраліся, і, напэўна, забыліся, што недзе паблізу яшчэ хто-небудзь існуе. Хто-небудзь — гэта іх дачка і яе сабака, які, здавалася, пакутаваў ад штодзённых скандалаў таксама, як і яго гаспадыня. Гледзячы ў сумныя вочы сабакі, яна зразумела, што жаданне яго і яе — хутчэй выйсці з гэтай кватэры, знайсці дзе-небудзь цішыню і пакой — супадаюць. Ужо ў пярэднім пакоі, апрануўшы паліто і

чапляючы ланцужок за ашыйнік свайго Дварняга з разумнымі вачыма, яна зірнула ў вочы маці, якая выходзіла з кухні ў пакой, чырвоная, уся ў слязах і, здаецца, зноў, мякка кажучы, не вельмі цвярозая, і заўважыла ў іх тое ж жаданне, што мелі яны з Дварнягам: збегчы адсюль як мага далей, не чуць і не бачыць нічога. Нават дачкі сваёй і сабакі яе не бачыць, зрабіць як-небудзь, каб ні іх, ні ўсяго гэтага не было. Ніколі. І зайздрасць, бо гэта немагчыма, позна, бо яна дарослая, прывязаная да месца, да мужа, да жыцця. Прывязаная ўзростам, светапоглядам, меркаваннямі знаёмых і яшчэ чым-небудзь іншым, неістотным і бязглуздым. Ці гэта проста алкаголь так даў ёй у галаву.

Маці яна лічыла дурной і маленькай. Дзіўна было назіраць за яе сістэмай каштоўнасцей.

Недзе ў горадзе, сярод вялікіх шэрых чужых дамоў з цёплымі агеньчыкамі вокнаў ёй было куды ўтульней, чым дома. Горад быў чужым і не ўтойваў гэтага; яго не трэба было называць сям'ёй, паважаць і любіць ці адказваць, чаму не робіш гэтага. Можна згубіцца сярод такіх самых звычайных людзей і адчуваць сябе не адной, быць часткай чагосьці. Можна яшчэ зазіраць у вокны, з якіх ліецца святло. Там, ва ўтульных куханьках, гасцёўнях ці дзіцячых пакоях ідзе сваё жыццё: мернае, неадзінокае, шчаслівае. І можна ўяўляць сабе, што ты жывеш разам з імі; і ты любіш, і цябе любяць; і прыносяць табе халоднае малако з цёплым пірагом, расказваюць, як прайшоў дзень і што будзе заўтра. Добра заўсёды ведаць, што заўтра будзе шчаслівым. Не думаць, што ўсё ілжывае і за кожны кавалак дабра трэба перагрызаць горла каму-небудзь ці сабе.

У яе нават былі свае любімыя людзі там, за шклом. Яна прыдумляла ім імёны, лёсы, словы, якімі яны абменьваліся, радавалася, калі яны ўсміхаліся і сумавала разам з імі. Лічыла іх шчаслівымі і наіўнымі, «дурненькімі». Але такім «дурненькім» яна не стала б чытаць лекцыю пра праўду і сэнс жыцця. Хай лепей жывуць і не ведаюць, звычайныя, простыя, шчаслівыя, хай не паўтараюць яе памылак. А яна як-небудзь сама, адна, калі нельга ўжо быць разам з імі, такой, як яны. Калі ўжо яна нарадзілася такой — нешчаслівай і здольнай усё разумець.

Было яшчэ і шмат «ніякіх» вокнаў. Туды яна не вельмі любіла зазіраць, бо вельмі ўжо добра адлюстроўвалі яе тэорыю пра бессэнсоўнасць жыцця. Сумныя людзі, заўсёды ўключаныя тэлевізары, ніякія, нібы атупелыя, твары. Такія вось амёбныя жыцці, неабходныя, здаецца, калі толькі для таго, каб стаць звяном біялагічнага ланцужка, такога ж бессэнсоўнага. Менавіта такіх людзей яна ўяўляла слухачамі сваіх выкрывальных лекцый. Вось каго трэба добранька так патрэсці, прымусіць штонебудзь адчуваць: калі не шчасце, то сум, абы толькі не абыякавасць. Абыякавым людзям яна зайздросціла яшчэ больш, чым шчаслівым. Шчасце хутка перастае быць шчасцем, смутак выядае нутро, і толькі абыякавасць нікога не засмучае, бо знішчае ўсе пачуцці. Але гэта тэма для іншай уяўнай начной лекцыі.

У нешчаслівыя вокны яна зазірала таксама не вельмі часта. Толькі калі яны вылучаліся на фоне цёмных ці на фоне шчаслівых. Іх яна таксама любіла не вельмі, бо іх жыццё і пакуты былі ці не больш бессэнсоўнымі, чым жыццё абыякавых. Такіх людзей ёй было шкада, а шкадаваць яна не любіла. Лягчэй і неяк нават прыемней было лічыць, што ледзь не ўсе пакуты свету, усё існаванне ў цяжкай бессэнсоўнасці жыцця нясе яна адна, выратоўваючы ад яго астатніх.

А трэцяй гадзіне ночы святло не гарэла амаль ні у адным з вокнаў. Яна нават пашкадавала крыху, што выбралася ў такі час, як след не апрануўшыся — пад лёгкай восеньскай курткай па скуры пабеглі дрыжыкі. Магчыма, на канапе пад коўдрай дома было б і ўтульней, тым больш, калі бацькі ўжо супакоіліся і заснулі.

Але дадому ісці не хацелася, лепей зноў знайсці якое-небудзь шчаслівае акно, сесці ціхенька дзе-небудзь насупраць, каб ніхто не заўважыў, і назіраць, уяўляючы, што вось яна — твая сям'я, шчаслівая і простая, як ў дзіцячых казках, такіх, якія ніхто ніколі не пісаў.

Але шчаслівыя людзі спяць ноччу. Не спяць толькі хворыя, закаханыя ці паэты. І нікога з іх нельга назваць шчаслівым. Святло гарэла толькі ў адным акне з усяго будынка. Ды і тое было ад маленькай настольнай лямпы: такая гарыць па начах для паэтаў, закаханых ці цяжка хворых. Шчаслівыя любяць святло. А хлопчык гадоў дванаццаці сядзеў, схіліўшыся над кнігай, спадылба паглядаючы праз акно на двор. Звычайныя шчаслівыя хлопчыкі ў гэты час або спяць, або сядзяць за камп'ютарам.

Яны сустрэліся паглядамі і доўга не адводзілі іх адно ад аднаго. Ёй усё здавалася: было нешта, што вылучала гэтага хлопыка з усіх тых, каго яна звычайна бачыла. Але што? Ён, здаецца, быў не больш і не менш няшчасны за астатніх жыхароў. Настольная лямпа, кніга… Не, нешта не тое, недзе побач блукае неабходная думка, адчуванне, але ніяк не можа сфармулявацца. Яна зноў перавяла позірк на яго і адчула, што ён не зводзіў з яе вачэй.

І тут яна зразумела. Гэта не яна назірае за ім, а ён цікуе. Гэта не ён адзін з жыхароў дома, вуліцы, раёна, горада, а яна — чарговая з прахожых, за якімі ён назірае. Гаспадар акварыума мяркуе, што ён назірае за залатой рыбкай, а тая ўпэўнена, што гэта яна ўсё бачыць, што не яна за шклом, а гэтая незвычайная істота з раздвоеным хвастом і даўгімі плаўнікамі. Што яна, рыбка, бачыць і ведае больш, што яна — сапраўднае «Я».

Але што трымае ў акварыуме гэтую залатую рыбку? Хто той злосны гаспадар, які не дае ёй волі, плыні, хваль, прымушае назіраць за жыццём замест таго, каб жыць? Гэта несумленна, нельга так!

Пакуль неверагоднай моцы бура пачуццяў бушавала ў яе душы, ён радаваўся, што хтосьці спыніўся каля яго. Не для таго, каб сабаку пачакаць ці шнуркі завязаць, а дзеля яго самога! Хтосьці перарваў свой шлях дзеля яго, хтосьці глядзіць на яго! Гэта значыць, што свет за шклом існуе! І ён існуе яшчэ для гэтага свету! Акрылены такой думкай, хлопчык упершыню за доўгі час па-сапраўднаму, хоць і вельмі ціха, каб не патурбаваць бацьку, рассмяяўся.

Яна ўсміхнулася яму у адказ, праўда, горка, толькі крыху сціснуўшы вусны, але ён заўважыў. І калі яна адыходзіла, доўга глядзеў услед ёй і яе Дварнягу. Калі дзяўчына і сабака схаваліся за вуглом дома, Ваня адклаў падручнік, лёг у ложак, хутка і глыбока заснуў. Без гісторыі і геаграфіі.

* * *

А ёй не засыналася, нават пад раніцу. У галаве ўсё гуло, білася ў скронях, бы птушка ў клетцы (зноў гэты матыў няволі), адзіная думка — выраз, пачуты ці ўбачаны недзе:

«Пры аварыі выцягнуць шнур, выціснуць шкло».

Чалавек за шклом, бы акварыумная рыба — гэта аварыя, катастрофа, бедства!

Яму тэрмінова патрэбна не застаялае паветра яго шклобетоннага акварыума, а воля, кісларод, іншыя істоты, акрамя злобнага гаспадара, які замкнуў яго тут.

Пры аварыі выцісну шкло і выцягнуць чалавека на паветра.

Прыняўшы гэта рашэнне, упэўніўшыся ў ім, яна супакоілася і канчаткова ўладкавалася на нязручнай, але ўжо амаль роднай канапе, і заснула.

Прачнулася позна. Зразумела: праспала заняткі ў школе. Спачатку спужалася. Потым прыгадала, што павінна сёння ратаваць жыццё і свабоду, і супакоілася. Школьных дзён будзе яшчэ шмат, а шанс выратаваць чалавека, выцягнуць яго з няволі, даць яму жыццё і пазбавіць сваё існаванне бессэнсоўнасці даецца адзін раз, ды і тое не кожнаму. Яна адзіная, хто яго заўважыў, адзіная, хто адгукнуўся на яго немы крык, адзіная, хто пачуў яго. А гэта значыць, што яна адказная цяпер за яго жыццё і шчасце!

А школа — цьху на яе! Апашліць, абцяжарыць такі вялікі дзень нечым банальным і неістотным, школай — не.

Пачуцці, здаецца, крыху супакоіліся. Ужо не было той буры ўнутры, ужо разумна, лагічна даводзіла яна сабе неабходнасць выратаваць гэтую пакутлівую істоту.

Яна раптам зразумела, як хораша, спакойна, шчасліва існуе! Ну і што, што ведае ўсю праўду пра жыццё? Затое яна не будзе чакаць ад яго чаго-небудзь нязбыўнага, не расчаруецца, зразумеўшы, што чакае дарэмна. А ён, няшчасны хлопец, сядзіць каля акна і чакае мінака. І чакае, што гаспадар выпусціць яго з акварыума. І чакае, што нешта здарыцца, зменіцца само па сабе. Што аднойчы шкло растворыцца, ці што?

Так, яна казала сама сабе, што ўсяго трэба дасягаць самастойна. Калі чалавек гэтага не ведае — яго праблемы. Калі ён жыве як жывецца, то яна пазайздросціць яму, у думках прачытае яшчэ адну лекцыю пра тое, што так нельга, а потым і сама будзе жыць як жывецца. Але гэты хлопчык… З ім так нельга, яго шкада. Дарослыя — дурныя, але самі ў гэтым вінаватыя, а ён проста ахвяра іх, якая рызыкуе стаць адным з іх. А яна проста выратоўвае яго.

Пакуль думкі раскладаліся па палічках, рукі складалі ў заплечнік рэчы. Спачатку туды камечылася ўсё, што траплялася. Але потым, калі маланка ўжо няздольная была трымаць рэчы ўнутры, давялося вытрэсці з заплечніка ўсё і скласці наноў. Усё ж да гэтага працэсу трэба было б падключыць розум.

Першае. Грошы. Небагата, але колькі ёсць, усё ж спатрэбяцца.

Другое. Збегала на кухню, прынесла цэлы блок запалак і крыху ежы з лядоўні: хлеб, кілбаса, што-ніштo з гародніны, печыва. Агледзела ўсё гэта. Не, не так. Набралася цярпення, пачала рабіць бутэрброды. Яны атрымліваліся вялізнымі, крывымі і непрыгожымі, але рукі дрыжалі і зрабіць лепей яна б наўрадці здолела.

Што яшчэ ім можа спатрэбіцца… Каб яна хоць ведала, куды яны пойдуць, што будуць рабіць… Тут розум зноў выключыўся з працэсу збірання рэчаў, таму астатняе месца ў заплечніку было набіта рознай лухтой, якая наўрадці спатрэбіцца жыхарам вуліцы…

Час, які яна прызначыла для выратавання, набліжаўся вельмі марудна. Быў перагледжаны два разы заплечнік, наведзены парадак у пакоі, напісана запіска бацькам (на той выпадак, калі яны калі-небудзь працверазеюць), прачытаная ў паўтумане кніга, сюжэт якой не тое што вылецеў з галавы, але і не быў там нават. Прыйшлі з працы бацькі і зноў зладзілі пір. Не, тут больш сядзець немагчыма. Здаецца, нават у яе пакоі паветра набралася алкагольнага паху.

Адзінае, што засмучала яе — развітанне з Дварнягам. На жаль, яна не можа дазволіць сабе ўзяць яго з сабой. Тут пра яго ўсё ж паклапоцяцца, а *там* у яе не будзе такой магчымасці. Сабака, назіраючы за яе збіраннямі, радасна замахаў хвастом, чакаючы, што яго зараз павядуць на шпацыр.

— Прабач, Дварняг, сёння цябе выгуляе хто-небудзь іншы.

Нібы зразумеўшы сэнс яе слоў, сабака завыў голасна і жалобна. Скінуўшы са спіны заплечнік, яна прычапіла да ашыйніка ланцужок і павяла яго на вуліцу. Слёзы засцілі вочы. «Апошняя прагулка з табой, Дварняг, — думала яна. — Нічога, мы яшчэ пабачымся калі-небудзь. Абавязкова».

Вярнуўшыся, яна зірнула на гадзіннік: вось ужо хутка і поўнач — час, на які яна прызначыла вызваленне. Трэба выцерці слёзы і ісці, пакуль вочы Дварняга не прымусілі перадумаць.

У спешцы яна разгарачылася і цяпер на халодным начным паветры адчула палёгку. Трэба спяшацца, каб хлопчык не паспеў заснуць, каб не адцягваць яго выратаванне яшчэ на адзін дзень.

Яна прыбегла своечасова.

Сяргей акурат скончыў свае штодзённыя муштраванні Івана матэматыкай і выказваў яму пагрозы і праклёны на наступную ноч. Калі бацька выйшаў, Іван выключыў настольную лямпу і лёг на ложак. Ад слёз, лічбаў і святла вочы балелі так, што ні гісторыю, ні геаграфію, ні літаратуру чытаць ён ужо не мог. Але і заснуць пасля бацькавых матэматычных вычварэнняў было таксама цяжка. Ён сеў каля акна і пачаў чакаць. Не ведаў, дакладна, чаго, але штосьці яму падказвала, што дзяўчынка з сабакам, якая спынілася ўчора каля яго акна, можа, прыйдзе і сёння. Хаця б перакінуцца з ёй поглядамі таксама было шчасцем.

Завабіўшыся сваімі думкамі, Іван нават не заўважыў, як яна з’явілася перад яго акном. Стаяла і ўсміхалася, махала яму рукой. Але неяк дзіўна. Не прыветна, а нібы клікала да сябе. Але як? Паміж імі — шкло, з аднаго боку, і раз’юшаны бацька, які прачнецца ад маленькага шоргату, калі ён паспрабуе выйсці на вуліцу ноччу, — з другога.

Дзяўчынка дастала з заплечніка нататнік і фламастар. Нешта напісала. Пад святлом ліхтара ён прачытаў: «Апраніся і адчыні акно». Няўжо яна хоча нешта яму сказаць? Няўжо нехта будзе размаўляць з ім без крыку, абраз, прыніжэнняў? Няўжо нехта будзе слухаць яго? Няўжо нехта *пачуе* яго? Ён апрануў штаны і швэдар, адчыніў акно. Яна, прабегшы па газоне, падскочыла і ўскараскалася на яго.

— Табе трэба адсюль бегчы. Так нельга — жыць за шклом. Ты пойдзеш са мной?

Ён дрэнна чуў, але, яму здавалася, добра разумеў сэнс яе слоў. Усё, што ён бачыць, здаецца яму нейкай мroяй, сном. Няўжо ў яго ёсць сябар, які будзе прыходзіць да яго, сядзець з ім вось так, на падваконні? У яго ніколі не было такіх сяброў. А што звычайна робяць у такіх сітуацыях? Частуюць ласункамі і гарбатай? Ён узяў аркуш паперы і напісаў ёй: «Хочаш гарбаты?» Яна глуха стукнулася галавой у аконную раму. Потым узяла сябе ў рукі, забрала ў яго паперу і асадку і нервова-хутка напісала: «Трэба пайсці адсюль. Нас могуць пачуць. Так жыць нельга. Ты за шклом. Табе трэба ратавацца».

Яго сяброўка прапаноўвае яму пайсці на прагулку! Дзіўна, што не днём, але днём бацька не дазволіў бы ісці без яго. Калі бацька прачнецца і заўважыць… Яму, Івану, будзе вельмі дрэнна, ён нават і не ўяўляе, як. Але ён не засне цяпер, калі не выкарыстае гэту магчымасць… Асмялеўшы, ён на дыбачках падышоў да дзвярэй свайго пакоя, адчыніў іх, бязгучна пракраўся па вітальні. Не вяртаўся даволі доўга. «Няўжо бацькоў пакліча?» — са страхам падумала яна, але, сама сабе не паверыўшы, працягвала чакаць. Хутка Іван зноў з’явіўся ў сваім пакоі, у руках ён нёс чаравікі і куртку. Яна скокнула з акна. Праз хвіліну, апрануўшыся, вылез і ён. Глядзеў на яе запытальна: ты ж прапанавала шпацыр, вядзі. І што ёй рабіць далей?

Галоўнае — перачакаць дзе-небудзь ноч. Раніцай, калі будзе святлей і цяплей, яны змогуць вырашыць, што далей. А зараз патрэбна проста зацішнае месца. Да раніцы.

Такая ціхая закрытая альтанка знайшлася ў адным з двароў. Недасягальныя ні для ветру, ні для людскіх поглядаў, яны сядзелі ў ёй. Яна карміла яго бутэрбродамі, распавядала пра сэнс жыцця, пра мноства «Я», кожнае з якіх падобнае да цябе, і тваё «Я» ніякае не выбітнае, ты ўсяго толькі адзін з мноства, пакуль сам не вырашыш гэта змяніць. І што за шклом зрабіць гэтага нельга, што калі ты за шклом, то трэба яго выціснуць і выратаваць сябе. Што калі не можаш выратавацца сам, то трэба шукаць дапамогі. І што яна — яго дапамога. Усё гэта яна даводзіла так пераканаўча, як на сваіх уяўных лекцыях, і так ласкава, як не размаўляла ніколі і ні з кім. Нават не заўважыла, як ён заснуў, паклаўшы галаву на яе плячо. А яна праседзела так да раніцы. Цела здранцвела ад холаду і сядзення ў нязручнай паставе. Але яна адчувала сябе шчаслівай. Яна выратавала яго ад смерці за шклом, а сябе — ад бессэнсоўнага жыцця. Што яны будуць рабіць, калі надыдзе раніца, думаць не хацелася. Раніца будзе не хутка.

Іван прачнуўся. З хвіліну сонна аглядаўся, напэўна, забыўшыся, дзе ён. Паглядзеў на яе і ўсміхнуўся. Але хутка ўсмешка змянілася заклапочанасцю. Ён узяў яе за руку, паглядзець, колькі часу на гадзінніку. Чатыры. Хутка пачне світаць. Хутка трэба будзе вызначацца, што рабіць далей. Яе ахапіла паніка. Але ж яна выратавала яго, астатняе неістотна… Да світання ёсць яшчэ некалькі гадзін. Прыдумаецца.

Яна адчула, як Іван ухапіў яе за рукаво. Паглядзела на яго. На аркушы паперы ён напісаў: «Мне трэба дадому».

Розум недаверліва паставіўся да таго, што ўбачылі вочы.

«Ты ўпэўнены?»

«Так. Бацька будзе злавацца. Зноў пакрыўдзіць мяне».

Яна проста не ведала што казаць. Усе словы, усе аргументы скончыліся ноччу, калі яна так упэўнена казала сваю прамову. А ён… *не пачуў* яе?

«Канешне, я правяду цябе». Яна ўстала з лаўкі, цела ўзрадавалася магчымасці нарэшце выпрастацца. Павольна склала ў заплечнік рэшткі ежы, употай выцерла слязінку, якая, на шчасце, не паспела саслізнуць па шчацэ.

Узяла Івана за руку і павяла да яго дома. Ён у адрозненне ад яе і нібыта у здзек быў шчаслівы. Хоць нешта яна зрабіла правільна.

Яны спыніліся каля яго так і не зачыненага цалкам акна. Яна дапамагла яму ўскараскацца і, калі ён ужо быў у пакоі і вызірнуў у акно, не паспела стрымаць чарговую слязу.

— Не сумуй, — сказаў ён. — Ты прыйдзеш яшчэ?

Не здольная на словы, яна кіўнула галавой.

* * *

Пакуль дабіралася да сваёй кватэры, крыху супакоілася. Пачала адчувацца стомленасць бяссоннай ночы. Зайшоўшы ў свой пакой, з якім ужо паспела развітацца на ўсё жыццё і які за ноч паспеў стаць такім далёкім, не распранаючыся легла на родную старую канапу. Дварняг, узрадаваўшыся вяртанню гаспадыні, падбег да яе, злізнуў шурпатым языком апошнюю слязу і замахаў хвастом.

— Даруй мне, Дварняг, мілы, — стомлена вымавіла яна, перш чым заснуць.

Кацярына ЗАХАРЭВІЧ

# ВОГНІШЧА ЎНУТРЫ



***Зноў Кацярына Захарэвіч, якая нарадзілася 27 жніўня 1994 года ў Докшыцах. З вершамі — дэбютуе! Суціпла і з гумарам кажа пра сябе: «Я недапаэт і недапразаік, хапаюся і за тое, і за тое. А разам з тым мару ахапіць яшчэ і вышэйшую матэматыку, і ядзерную фізіку…»***

* * *

Выкрасліць усё, што дыхаць мне замінае,
Тое, што на шляху маім ставіць сцены,
Тое ўсё, што цягне на дно, бы камень,
Выкінуць ды чакаць абязаных зменаў.
Другое жыццё, а за шклом усё тое ж неба,
Восень, што колькі дзён яго робіць шэрым,
Неба не супраць, яму нічога не трэба,
Акрамя толькі ліць ваду бы з вядра, без меры.
Шлях да метро, і сонна-сляпыя твары,
Раніца злосным ветрам раскрые вочы…
Я дастаю ружовыя акуляры
І застаецца толькі з ўсмешкай крочыць.

* * *

Ні хлеба, ні відовішч — толькі літасці —
Усё, пра што прасіць магу цябе.
Сціскаеш… так балюча… Мілы, выпусці —
Адзінае, што мне ў скроні б’е.
Твае абдымкі ланцугамі цяжкімі
Абвілі мой слабы пакутны стан.
Перакананні… правільныя, важкія…
Прашу цябе, мой любы, перастань…
П’янлівы шэпт і пацалункі вінныя,
Не ўлагодняць грэшнае душы.
Мая віна… і галава павінная
Схіляецца… І лепей адсячы.

* * *

Нявартая. Ні спачуванняў,
Ні шкадаванняў, ні турбот.
Маіх сустрэч, маіх расстанняў,
Маіх вітанняў-развітанняў,
Маіх дарог і скрыжаванняў,
Маіх сумненняў карагод —
Памылка не майго сумлення,

Маёй наіўнасці віна.
Яна ж маленькая, дурэе,
А я вычэрпваю да дна.
Я выпіваю… захмялела,
І з ёй іду ў карагод,
І тут мне мора па калена!
І пераходзіцца ў брод!

Няспраўджанасць маёй надзеі
На (хоць банальны) сэнс жыцця —
На ранак цяжкае пахмелле
Пасля дурману забыцця.

* * *

Так, НЕ-сустрэча — выпадковасць,
Адзін НЕ-погляд — усё ж не лёс.
Чаму ж тады мая свядомасць
Не выратоўвае ад слёз?

Адно НЕ-слова — не падзея,
Адзін НЕ-крок — не час чакаць.
Ды толькі я ўсё хацела
І падысці, і шмат сказаць...

Але ўсмешка не зайскрыцца,
Не дакранулася рука...
Мы проста — раз! — і разышліся.
У адным вагоне цягніка.

**ПАМІЖ «ТАК» І «НЕ»**
**(вольны пераклад адной песні)**

Вогнішча ўнутры, у тваёй крыві
Зберажы яго, каб адчуваць, што ты жывы.
Вуліц лабірынт, сонны і сляпы,
Ты адзін ў яго палоне, ён цябе купіў.
Пекла не канец, мы — яшчэ ніжэй,
Толькі ў глыбіні яго сакрэт тваіх вачэй.
Адраджэння час апранае нас
У новыя малюнкі, дзе наш свет яшчэ не згас.
Мне не хопіць сіл увасобіць сны
Я на троне сваёй славы з пачуццём віны.
Забяры ўсё, дай мне забыццё,
Зберажы маё імкненне адчуваць жыццё.
Наш палёт скрозь свет паміж «так і не»,
Ты ў сваім выпрабаванні, я ў сваёй вайне.

Гавары са мной, працягні далонь
З лёгкага паветра нашы крылы за спіной.

* * *

Пакуль ты вырашаеш, бегчы ці ісці
Пакуль шукаеш сэнс жыцця,
Твой кожны крок знікае ў чорным забыцці,
У летуценнях тоне шлях…
За кожнаю хвілінай сотні год міне,
За кожным паваротам — жах.
Але за рэшткамі сумненняў слова «не»
Ператвараецца ў «так».
Пакуль ты нерашуча мацаеш рукой
Той вір, якога так чакаў,
Хтось іншы, хто калісьці побач быў з табой,
Ужо паўстае на п’едэстал.
Жыццё — не перамога, а ўсяго ўдзел,
Бо пераможцаў тут няма.
Калі ты самы першы крок зрабіць паспеў,
Не пакідай яго дарма.

* * *

Я бягу за здзясненнем мар,
І нават навошта — не ведаю.
Гэта кара ці божы дар?
Можа, шчасце мяне наведала?

Можа, сэрца нема крычыць
У прадчуванні жаданай літасці?
Маўчы, блазнота, маўчы,
Каб кахаць, яшчэ трэба вырасці!

Каб кахаць, трэба адчуваць
У жыцці штосьці вельмі важнае,
Спадзявацца і давяраць....
Ты не стукай, маё адважнае,

Ты маўчы, дурное, маўчы!
Натрывалася ты, збалелае.
Раны перш свае залячы —
Не, рубцы застануцца белыя...

Ты чакай кахання, чакай.
Дачакаешся, дачакаешся.
Па дарозе ў пекла ці ў рай
Накахаешся, накахаешся...

Воля ЧАЙКОЎСКАЯ

# ПРОСТЫЯ СЛОВЫ



**Воля Чайкоўская нарадзілася 20 снежня 1987 года ў Віцебску. Паэтка, кінажурналіст. Жыве ў Мінску. Аўтар кніг паэзіі «ЛУПЫ» (2007) і «Эратычны алфавіт» (2013). Яе натхняюць свабода, вясна і добрае кіно.**

* * *

перабіраю ўсе магчымыя варыянты
развіцця падзеяў
па ўсіх законах драматургіі
калі знікае надзея
акурат і павінны здарацца цуды
надакучыла дзейнічаць
сяджу чакаю
слухаю miles runs the voodoo
down
настрайваюся на пазітыўныя хвалі
адчуваю тваё хваляванне
не бойся!
ты ведаеш
мой адказ

* * *

Новае неба
Новае сонца
Новыя словы
Стануць гучаць
Армія наша
Даўно гатова
Вясну ісці вызваляць
Новае нешта
Выбухне ярка
Сонцу аддасць
Энергію дня
Смерці няма
Але мне неспакойна
Хвалюе пытанне
Ці ёсць я

* * *

не думаць пра цябе
не глядзець табе ў вочы

проста атрымліваць задавальньненне
ад таго што ты недзе побач

будзь чужым
маўчы
рабі выгляд што мяне не
бачыш
хочаш

гуляй
танчы
так весела
абрагочашся

* * *

некаму выйсця няма
іншым уезд забаронены
каб я толькі магла
стаць дымам над комінам
сталі б тады ўсе
межы пераадольныя
каб я толькі магла
стаць дымам над комінам

* * *

Лета
Адцвітаюць півоні
Пірацкія рэйбаны
Блішчаць
Як сапраўдныя
Можа быць
Увесь сэнс
Знаходжання тут
У гэтым свеце
Хаваецца ў бліку
Сонечнага святла
На гэтых ідыёцкіх акулярах
Якія пасуюць табе
Калі ім захочацца

Можа быць
Увесь сэнс
Гэтага свету знікне
Як толькі гэтыя пустыя
Не
Не пустыя
Простыя словы
Скончацца

* * *

Ніхто не сышоў.
Усе засталіся.
Смялей да адбітку
Свайго дакраніся.
У прорубу дзён,
У пашчы эпохі
Захраслі ўсе
Затрымаліся трохі.
У лесе радкоў,
У ціхім адчаі
Мы не здаваліся —
Мы маўчалі.
Маўчалі
Пакуль не прыйшло світанне.
Маўчанне.

* * *

Сцяжкамі-пацалункамі
На маім жываце
Вышываеш карункавае
Суквецце.

* * *

Словы! Словы!
Скатваліся па падбароддзі.
З невыносным грукатам
Біліся аб грудзі
І ляцелі далей долу
Уніз
    Незваротна
Ты
Яшчэ спрабаваў
Лавіць іх рукамі.
Але куды там!
Слова не верабей!
Вылеціць —
Не ўловіш!..

* * *

нібыта і дыхаеш
а жыць як бы не паспяваеш
толькі назіраеш
як праплываюць міма аблокі
уцякае вада з-пад крана
банальна
дзень прыходзіць новы
а музыка ўсё тая ж
спрабуеш рабіць усё
пастулова
спакваля
нават марудна
каб час браў прыклад
але час нікога не слухае
тым больш мяне
вось так і жывём

* * *

Лабірынты слоў
І вымаўленняў
Уяўленне
Уяўленне

Скарбы гэтага горада
Каштуюць
Дорага

Сняданак
Абед
Вячэра
Веру табе
Веру

Доўгая дарога
Мала цябе
Мяне многа

* * *

Так нязвыкла
Вось і восень
Нават улюбёная музыка
Здаецца шумам
Смеццем
Якое мы слухалі
Таму што летам
Усё па-іншаму
Усё
Усё
Усё
Праходзіць
Мінае
Але
Я заўсёды так
Дзе б ты не

**ОДА ВАННАМУ ПАКОЮ**

можна расслабіцца
заплюшчыць вочы
паспрабаваць уявіць тое
чаго табе хочацца
можна змыць усё лішняе з сябе
пасля гэтай паездкі
вярнуцца назад у маленства
там кісель парэчкавы
бабуліны пышкі і перапечкі
там гульні ў глінянага чалавека
час цячэ павольна
сон хаваецца пад павекамі
можна з’есці кіло цукерак
не хвалюючыся за фігуру
можна пацалаваць хлопчыка
і табе нічога за гэта не будзе
можна выкрыкваць пафасныя заклікі
усё адно бацькі
не пусцяць на амбразуру

шуміць вада
я раблюся чыстай
можа нават дабрэйшай
вяртаюся да вытокаў

можна
усё
скокай!

Арцём АРАШОНАК

# АПАВЯДАННІ



***Арцём Арашонак нарадзіўся 27 ліпеня 1981 года ў Віцебску. Скончыў Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава па спецыяльнасці «нямецкая і англійская мовы». У друку дэбютаваў у 1999 годзе з вершамі. Аўтар кніг «Сэнр'ю» і «Суткі без цябе». Пераклаў на беларускую мову кнігу Германа Гесэ «Сідхартха» (2007) і творы многіх іншых замежных аўтараў.***

## СОНЦА НАД РАКОЙ

У «Эрыдане» нас было трое: я, Сяржук і стары, якога ніколі не бачыў. Незнаёмец сядзеў на канапе, апрануты ў індыйскую спадніцу і прыталены чырвоны пінжак, курыў, цікавіўся жыццём у Віцебску, Шагалам, расказваў пра атэльe ў Берліне, разглядаў праз шкло сваіх акуляраў малюнкі майго сябра. Нам прынеслі каву, мы моўчкі пілі, мне было сумна і я пачаў шкадаваць, што прыйшоў сюды.

Нечакана стары адставіў філіжанку ўбок і выцягнуў з вязанай торбы папку.

— Вашы працы цудоўныя, — сказаў стары, — але горад быў іншым. — Зморшчаная галава павярнулася ў мой бок: — Я хачу расказаць вам гісторыю, якую даверыў мне мой сябар. Ён быў нашмат старэйшы за мяне, але мы любілі адно аднога.

Сухія пальцы разгарнулі папку.

На фоне шапіто стаялі два шыракаплечыя акрабаты.

— Гэта ваш сябар? — спытаў я, паказваючы на выцвілую фігуру побач з веласіпедам.

— Так, гэта Андрэй, — стары адклаў здымак, на іншым быў стары Віцебск. Вузкая вулачка. Шапіто. — Пазнаяце горад?

— Не.

— Шмат часу прайшло. Але менавіта з гэтага цырка пачалася кар'ера майго сябра. Андрэй вельмі хваляваўся, калі распавядаў гісторыю, што адбылася з ім у маладосці. Я раскажу вам так, як расказваў ён мне... — Чыркнула запальніца...

...Мы былі вельмі маладыя і працавалі сезон у віцебскім цырку, прыдумалі шмат акрабатычных нумароў. І вось аднойчы, калі праграма скончылася, калі клоўн Хвядос адпачываў з намі на прыступках фургона побач з ружовым ад захаду вослікам, мой напарнік спытаў:

— Андрэй, памятаеш нашы гастролі ў Італіі?

— Памятаю.

— Мы выступалі побач з Сан-Карла-Аль-Корса. Памятаеш?

— Памятаю, гэта было летам. Цудоўныя часы.

— А памятаеш прыгожую яўрэйку, дачку натарыуса?

— Ты з-за яе ледзь не ўпаў з троса, які працягнуў над ровам ад дома яе бацькі да вінаграднікаў.

— Я ледзь не ўпаў з-за свяшчэнніка, які выскачыў са сваёй вілы і пачаў лаяць мяне за сарваную на яго клумбе дзікую лаванду. Вось і сёння, калі мы выступалі, мне падалося, што бачыў яе.

— Гэта немагчыма, — адказаў я. — Сотні кіламетраў адсюль.

— Так, гэта была яна — мілы твар пад чорнымі валасамі. Букет фіялак. Позірк — глыбокі, загадкавы, — мой сябар хваляваўся.

— Супакойся. Любоў жанчын распыляе, — я спрабаваў яго суняць. — І што ты можаш ёй прапанаваць? Шэрае, як брызент шапіто, жыццё.

Мой напарнік замаўчаў, мы праседзелі яшчэ паўгадзіны. Ён моўчкі ўзняўся, зайшоў у фургон, пераапрануўся і пайшоў у горад. Вярнуўся сябар толькі на досвітку. Скрозь тонкую сценку фургона чулася, як клоўн Хвядос спрабаваў разгаварыць майго Алекса, але ў адказ той маўчаў. Урэшце бяссоны Хвядос вылаяўся і, ступаючы на прыступку свайго пакоя, дадаў: «Па віцебскай традыцыі любай дзяўчыне дораць яблык, які толькі што ўпаў, а не знойдзены на зямлі ці збіты з дрэва».

У абед мы пайшлі ў цукерню перад ратушай. Калі стаялі ў чарзе, Алекс прашаптаў мне на вуха: «Зірні. Гэта яна была ўчора на вячэрняй праграме».

Прыгажуня купіла торт і знікла ў дзвярах. Алекс глядзеў ёй услед. Імгненне — і ён пабег за ёй.

— Куды ты бяжыш! Гэта дачка ювеліра! — крыкнуў кандытар густым голасам, а потым звярнуўся да мяне: — Штораніцы яна купляе ў мяне цукеркі альбо бісквіт, а яшчэ я заўсёды бачу яе з маладым чалавекам. Ён, здаецца, мастак. Кожны раз яны вяртаюцца з Задзвіння, калі я галюся. Мастак не самая горшая партыя для дачкі ювеліра, але толькі не цыркач. Можаш перадаць свайму сябру, што ў яго няма шансаў.

Алекс быў узбуджаны перад выступленнем, я не адважыўся перадаць яму словы кандытара. Мой напарнік расказваў, як праважаў дзяўчыну з цукерні дадому, як яна ўсміхалася, як прыгожа развяваліся яе валасы, пра запрашэнне на выступленне.

Калі мы стаялі ўжо за кулісамі, ён раптам сказаў: «У яе ёсць каханы. Нейкі Марк. Мастак, здаецца...»

У цырк прыйшло шмат народу, наш нумар ішоў следам за камічным Хвядосам — складаныя трапецыі, сальта на вышыні з ніжнім замахам. Усё ішло добра. Нумар канчаўся эквілібрам на трапецыі і сінхронным піруэтам з вышыні. Раптам на фінальных акордах Алекс расхваляваўся і ледзь не ўпаў. Мы выканалі сальта дэ-капо. Шквал апладысментаў. Паклоны. Я выцер пот з ілба і ўбачыў сярод гледачоў незнаёмку. Яна прыйшла не адна. Напэўна, гэта і быў Марк.

— Алекс, яна не для цябе, — зноў пачаў я.

— Я адвязу яе за канатны далягляд, — адказаў Алекс і, звяртаючыся да Хвядоса, дадаў: — Мне патрэбны твой веласіпед, дружа. У мяне ўсё атрымаецца. Гэты Марк і яго фарбы няздольныя канчаткова заваяваць яе сэрца.

Вечарам перад фургонам Алекс распавёў пра свой план — ён збіраўся нацягнуць з аднаго на другі бераг Дзвіны трос і праехаць па ім на веласіпедзе, калі незнаёмка будзе вяртацца разам з мастаком праз мост.

Адгаворваць было бессэнсоўна. Раніцай мы ўтрох пайшлі да ракі. Далёка ў лагчыне застаўся наш цырк. Неба было блакітным, нібы васільковае поле. Дарога, што вяла ўздож Віцьбы праз аксамітны сад, была ўсеяна яблыкамі. Цішыня і толькі шоргат веласіпедных шын.

У сутоку рэк, над драўляным мастом, ля ўзгорка, мы развіталіся. Алекс і Хвядос рыхтавалі веласіпед, а я, замацаваўшы тросы (асноўны і страховачны), спусціўся да Дзвіны. Рака сонна цурчэла ў паўпразрыстым ранішнім тумане. Я паклаў тросы ў човен і, паступова размотваючы іх, веславаў. Пыркі халоднай вады на вёслах і шчабятанне першых птушак. Ступаючы па гліне, я прымацаваў тросы і, праверыўшы трываласць, крыху адпачыў. Хвядос памахаў мне рукой — усё ў парадку. Да сяброў я вярнуўся па мосце.

Хвядос дастаў кішэнны гадзіннік. Палова на шостую.

Алекс моўчкі сеў на веласіпед. Мы абняліся і ён паехаў. Я прымацаваў страхоўку, але Алекс яе адшпіліў, ад’ехаўшы ад узгорка. Ён ехаў упэўнена, няспешна. Было адчуванне, што ён ляціць.

Незнаёмка ўзышла на мост, яна ішла не адна. Блакіт неба зацягнуў лёгкі туман. Маўклівы сілуэт акрабата на імгненне спыніўся і працягнуў свой палёт па бязмежнай прасторы чэрвеня.

— Глядзі, Марк, па васільковым небе едзе веласіпедыст! — сказала незнаёмка.

— Які веласіпедыст?

— Над ракой, Марк! — узрадавана яна паказвала рукою ўдалячынь. — Высока над ракою!

— Не бачу...

— Там, над ракою, глядзі, Марк!..

Туман згусціўся, пачуўся ўсплёск. Малады чалавек, трымаючы дзяўчыну, спрабаваў нешта пабачыць. Яны спыніліся. Праз некалькі хвілін туман рассеяўся. Закаханыя стаялі на мосце.

— Табе падалося, дарагая... Гэта ўсяго толькі сонца і мы над ракою. Я і ты, Бэла. Рака і сонца. Табе падалося, мая дарагая.

— Напэўна, Марк... Мне падалося... Мне падалося.

Дзяўчына ўзяла пад руку спадарожніка і яны пайшлі далей.

Клоўн сядзеў на беразе і рыдаў.

...Зноў чыркнула запальніца. Стары змоўк, паклаў фотаздымкі разам з малюнкамі майго сябра ў папку, паправіў свой пруталены пінжак, развітаўся і выйшаў з «Эрыдана». З акна мы з Сержам назіралі, як стары ішоў у сваёй індыйскай спадніцы да машыны.

## ЛІСТАПАД У ВЕНЕЦЫІ

На вячэрняй прыстані Гранд-канала стаялі двое і глядзелі, як па акварэльна-пяшчотнай вадзе праязджалі цеплаходы-вапарэта. Лёгкія хвалі шпарка разыходзіліся на паверхні і разбіваліся аб замшэлую цэглу дамоў. Ішоў дробны дождж. Немаладая жанчына, апранутая ў элегантны плашч і шэра-блакітную сукенку прытулілася да свайго спадарожніка. Ён абняў яе, пяшчотна пацалаваў, і яны разам пайшлі па вузкім завулку. Запаволеныя, роўныя крокі закаханых пад кавanымі ліхтарамі.

На плошчы Сан-Марка працавала кафэ, усе сталы пад зялёным навесам былі свабодныя. Вялікія падносы поўніліся садавінай і салодкімі ласункамі — восеньскае паднашэнне нябеснаму дожу. Вячэрнія падарожнікі селі ў плеценыя крэслы. Афіцыянт пасцяліў белы абрус, запаліў свечку ў шкляным кубіку, потым прынёс замову і бутэльку віна.

— Вельмі радая, Серж, што ты пагадзіўся паехаць са мной у Венецыю, — пачала жанчына. — Увосень яна асабліва прыгожая.

— Так, — хітнуў галавой мужчына і адразу задаў пытанне: — Але чаму ты вырашыла мне напісаць? Прайшло больш за сорак год. Маша, мы жывём з табой у Віцебску, сто разоў бачыліся, але нават не віталіся. Чаму ты вырашыла мне напісаць? Пра пачуцці, пра мінулае.

Запанавала маўчанне, тонкія пальцы з лакіраванымі пазногцямі нервова церушылі сурвэтку.

— Я... Я кахала цябе ўсе гэтыя гады.

— Зразумела. Як твае дзеці?

— Сын жыве ў Гродне. Ён — урач. Часам прыязджае з унукамі да мяне. Дачка выйшла замуж за латыша, у яе дзве дачкі — харошанькія дзяўчаткі. Звалі да сябе, але я не хачу. А ты чаму не жаніўся?

Серж дастаў з каробкі цыгарэту і закурыў:

— Давай вып’ем, Маша, — фужэры звонка стукнуліся. — Пасля таго, як мы з табой рассталіся, я з галавой сышоў у працу. Кар’ерны рост. Амбіцыі. Фінансы. Быў шанс жаніцца, але... Мне не хапала... не хапала цябе. У кожнай жанчыне я спрабаваў знайсці цябе.

Сівыя валасы развяваў восеньскі вецер. Афіцыянт прынёс пледы.

— Харошае віно, — працягваў мужчына, — тэрланскі вінаград дорыць нам водар лета і кварцавага парфіру. Возьмем яшчэ бутэльку ў гатэль. Мы пілі такое на твой дзень нараджэння ў самым пачатку знаёмства. Тады я баяўся, што не хопіць грошай, каб разлічыцца за вечар.

У доме з блакітнымі аканіцамі выключылі святло.

— Колькі разоў я карыла сябе, што рассталася з табой, што нагаварыла табе розных брыдкасцей, калі ты пазваніў на Ражство і ўгаворваў вярнуцца. Паўгода мне было весела, радавалася, як дурніца, пустаце, сустракалася з некім, але жадання блізкасці не ўзнікала. Падсвядома думала, што ты патэлефануеш яшчэ. Чаканне расцягнулася на тры гады. Потым зразумела, што ты ніколі не патэлефануеш. Мяне ахапіў страх. Я выйшла замуж ціха, незаўважна. Кахання не было. Ніколі.

— Але ты магла сама пазваніць, — Серж зноў закурыў цыгарэту. — Я гаварыў, што заўсёды дапамагу табе, калі будзе цяжка.

— Мне і было цяжка. Я развялася з мужам, калі сыну было восем год, а дачка пайшла ў дзіцячы садок. Мне хацелася быць моцнай. Ты таксама мог пазваніць.

— Мы з табой аднолькавага характару, звычак, інтарэсаў. Мы разумелі адно аднога з паўслова. Моцныя ў знешнім свеце, слабыя ўнутрана. Мы маглі... Мы маглі разам...

— Мы можам разам, — падхапіла жанчына.

«Так, мы можам разам. Мы можам сёння быць разам, сёння і заўтра, у будучым, — падумаў Серж, гасячы цыгарэту ў попельніцы, — мне 78. Ты на восем год маладзейшая за мяне... Колькі часу засталося мне? Колькі табе? Можна адпрасаваць зморшчыны на тваім плашчы, але немагчыма адпрасаваць зморшчыны на нашых тварах».

Крама дываноў насупраць кафэ зачынілася, малады гандляр павярнуў ключ ралета і пайшоў з букетам фіялак па завулку да прыстані. У цішыні чуліся яго паспешлівыя крокі, аднастайнае гудзенне рачнога таксі.

— Я кахаю цябе, — сказаў стары і зірнуў у твар Машы. Маладая ўсмешка, маладыя вочы.

— Я не хачу назад у Віцебск.

— Ты хочаш застацца тут і назіраць, як паступова патанае Венецыя?

— Венецыя не патоне! — фужэр у тонкай руцэ ўзняўся высока. — Хмарам не затапіць плошчу Сан-Марка! Мы будзем жыць.

Старыя яшчэ доўга сядзелі і размаўлялі. Раніцай яны вярнуліся ў гатэль.

Старая мэбля. Белыя прасціны былі добра адпрасаваны, ніводнай зморшчыны.

Серж і Маша ляжалі ў ложку.

— Даражэнькая, я не хачу, каб...

— Я разумею цябе з паўслова... Назад немагчыма, у нас моцныя характары. Спі, я кахаю цябе...

Калі ён заснуў, жанчына асцярожна ўзнялася з ложка, узяла банку снатворнага, высыпала ўсе таблеткі на далонь і запіла віном, прынесеным з кафэ. Асцярожным крокам вярнулася ў ложак.

Серж прачнуўся ў абед. Маша не дыхала. Ён спакойна пацалаваў яе і сказаў: «Мы разумелі адно аднога без слоў. У нас аднолькавыя характары, звычкі, інтарэсы. Назад немагчыма. Кожны з нас мог пазваніць».

Стары апрануў белую кашулю, касцюм і завязаў гальштук. На ім яго і знайшлі ў ваннай. Старое крэсла.

## КЛЕШЧ

Мы сядзелі ў майстэрні, я сачыў за працай сяброўкі — вялізны, васьмілапы, у чырвоным панцыры клешч нараджаўся на нябесным фоне, але ніводны мазок пэндзля не задавальняў мяне: мае пальцы выхапілі пэндзаль, каб паказаць, як трэба змешваць і наносіць фарбу на холст.

— Ты націскаеш на пэндзаль, быццам жадаеш парваць партрэт. Больш далікатнасці, — я адпіў віна, запаліў цыгарэту і сеў побач.

— Заціхні, казурка, — удар палітрай прыйшоўся акурат па шклянцы з гарбатай. — Яны тут. Яны паўсюль. Яны былі нават у шклянцы гарбаты, — слёзы паліліся з вачэй — Ты таксама клешч! Вінны клешч! Вінны клешч!

— Цішэй, цішэй, табе трэба сканцэнтравацца не на аб’екце, а на імпрэсіі. Імпрэсія... Цэлы дзень назіраеш за гэтымі цвёрдацелымі стварэннямі ў мікраскоп на санітарнай станцыі. Табе падалося ад стомы, — мае абдымкі былі цёплымі. — Карціну пакінем да заўтра.

— Так, цёпла, быццам у пялёстках сланечніка.

— Заплюшчы вочы, даражэнькая.

— Пялёсткі сланечніка...

Мне зрабілася не па сабе — па альбоме з рэпрадукцыямі Педра Арэнтэ поўз свірановы клешч. Яна, дзякаваць богу, заснула і не бачыла яго. Пыл на паліцы.

На мальберце недамаляваны клешч.

## КЕПСКІ ДЗЕНЬ. ЗВЫЧАЙНЫ ДЗЕНЬ

— Кепскі дзень, — з натугай вымавіў злодзей, счышчаючы з чаравікаў восеньскі бруд каля аддзялення міліцыі. — Яшчэ столькі спраў. І я такі малады… — зашпіліў куртку і пайшоў далей у красавіцкую ноч.

— Кепскі дзень, — з натугай вымавіў следчы. — Яшчэ столькі спраў. І я такі малады… — зашпіліў куртку і пайшоў далей у красавіцкую ноч.

— Звычайны дзень, — стомлена сказаў Бог, счышчаючы з чаравікаў восеньскі бруд каля аддзялення міліцыі. — Яшчэ столькі спраў. — Зашпіліў паліто і пайшоў у кафэ.

Над барнай стойкай вісеў тэлевізар. «Такой катастрофы не памятаюць нашы бацькі, — казаў сівы японец. — Гэта кепскі дзень».

Бог моўчкі адпіў з фужэра чырвонага віна, закусіў лустай сыру, зірнуў на гадзіннік і разгарнуў «Беларускі футбол».

— Кепскі дзень? — пераключаючы тэлевізар на спартыўны канал, спытаў малады бармэн.

— Звычайны дзень, — сцішана прагучаў адказ. — БАТЭ выйграў.

Бог выйшаў з кафэ і сеў у прыпаркаванае побач таксі.

— Кепскі дзень, — сказаў кіроўца, запальваючы цыгарэту. — Курс валюты непрадказальны... А яшчэ столькі спраў.

— Звычайны дзень, — адказаў пасажыр і выцягнуў з партманэ некалькі купюр з прэзідэнтам Джэксанам.

Бог зайшоў у вялізны будынак. Ён ішоў калідорамі, потым збочыў у ліфт і апынуўся на апошнім паверсе. У маленькім кабінеце гарэла святло. На шырокай канапе сядзела малады анколаг і, безуважна ўпетрыўшыся ў сцяну, паліла цыгарэту.

— Кепскі дзень? — спытаў Бог.

— Звычайны дзень, — адказала ўрач. — Яшчэ столькі спраў, — і ад стомы заплюшчыла вочы.

Бог прысеў побач на канапу, абняў дзяўчыну і ціха сказаў: «Так... Гэта звычайны дзень... Звычайны дзень...»

— У вас далоні цёплыя. Так прыемна, — прагучаў ціхі дзявочы голас. — Хочаце, можаце наліць сабе кавы. Вада толькі што закіпела.

## МУЖЧЫНА ЯЕ МАРЫ

Блакітны «нісан» імчаў па заснежаных Суражскіх прысадах. Маладая жанчына сядзела за стырном і, змораная працай, ціха размаўляла пад «Радыё Джаз» са сваім спадарожнікам.

— Цудоўна, што сёння пятніца і мы за горадам. Я вельмі шчаслівая, што сустрэла цябе. Зноў і зноў вяртаюся ў цёплы красавіцкі вечар, калі я цябе пацалавала — нерашуча, палахліва. Ты помніш?

Цяжкі ўздых быў адказам. Струмені цяпла аўтапечкі напаўнялі салон.

— Кепскае надвор’е ў Віцебску, як заўжды, — жанчына націснула на педаль газу. Перламутравыя пазногці блішчалі на вытанчаных, дагледжаных руках. — Я хачу з табой у Юрмалу — піць віно, гарэзнічаць, рабіць мілыя глупствы і бегчы басанож за бурштынавым сонцам.

Цяжкі ўздых быў адказам. Па радыё спявала вялікая Ніно.

— Хутчэй бы дадому. Я напоўню ванну лавандай, мы будзем разам плёскацца, нібы дзеці, — жанчына націснула на педаль газу. — Хачу адчуваць твой водар раніцай, твае цёплыя абдымкі.

Буркатанне страўніка было адказам.

— Сонца маё, ты згаладаўся. Хочаш бутэрброд, м-м? Бутэрброд хочаш? — жанчына пацягнулася за кошыкам на заднім сядзенні.

Раптам машыну занесла, праляцеўшы блакітнай знічкай па ўзбочыне, яна згасла за бетоным плотам.

Жанчына апрытомнела сярод металічных абломкаў, побач быў спадарожнік — мажны ратвейлер. Убачыўшы, што гаспадыня расплюшчыла вочы, ён пачаў аблізваць яе твар, акрываўленыя, з перламутравымі пазногцямі пальцы.

— Ты мяне не кінеш, праўда? — спытала жанчына.

Сабака, падпарадкоўваючыся невядомай сіле, узбег на пагорак, абнюхаў узбочыну і спыніўся пасярэдзіне трасы. Паўночная аўтастрада была пустой. Ратвейлер азірнуўся па баках, цяжка ўдыхнуў зімовага паветра і кінуўся назад.

Гаспадыня ўзрадавалася вяртанню. Губляючы сілы, яна ледзь заўважна ўсміхнулася: «Калі ласка, дапамажы мне».

Сабака лізнуў жанчыне шчаку, потым схаладнелыя вытанчаныя пальцы, шкадобна скугольнуў і ў імгненне вока ўчапіўся зубамі ў шыю гаспадыні.

Раніцай машыну знайшлі выратавальнікі, ратвейлер з перапэцканай у кроў пашчай спакойна спаў на каленях сваёй гаспадыні.

## МІКОЛКА І ХЛЕБ

***Казка ў стылі панк***

Жанчына купіла свежы хлеб, прынесла дамоў, адрэзала кавалак, намазала маслам і мёдам, аддала сыну. Хлопчык з'еў мёд, з'еў масла, скарынку з'еў, а з мякішу зляпіў чалавечка. Вечар і наступны дзень гуляў ён з ім, а потым выкінуў у акно.

— Дрэнны Міколка, — абтрасаючы снег, пакрыўджана прамовіў хлебны чалавечак і знік за паваротам.

Праз месяц Міколка памёр.

— Маленькі, гнюсны хлопчык, — радаваўся вылепыш.

Доўга гаравала маці. Усе слёзы выплакала, усе рэчы з дома прадала, а потым вырашыла шукаць хлебнага чалавечка.

— Знайду, заб'ю чорта!

Доўга ішла гаротная па горадзе і, калі дайшла да поўнага адчаю, скіравала ў батанічны сад.

А там хлебны чалавечак пад маньчжурскім арэхам піва п'е.

— Аддавай майго сына, нелюдзь! — закрычала маці.

Хлебны чалавечак зірнуў на яе сваімі макавымі вочкамі і ўсміхнуўся:

— Прынясі мне «Аквадзіў», а я падумаю.

Прынесла маці бутэльку, а хлебны чалавечак з піўной феяй цешыцца.

— Не, не аддам, — кажа чэрствы мякіш, — прынясі яшчэ.

Прынесла маці яшчэ па адной.

А хлебны чалавечак ёй і гаворыць: «Не аддам сына. Хачу кіраваць цэлай краінай. Хлеб усяму галава».

Заплакала маці, брыдзе па сцежцы і думае: «Пазваню зараз на хлебазавод, няхай яны яго ў лаваш раскатаюць».

І толькі яна так падумала, як з'явіўся мудры крумкач: «Хочаш дапамагу?»

Жанчына згадзілася.

Праз пару хвілін яна стаяла ля хлебнага чалавечка: «Ну што, аддасі?»

— I don't understand you! — буркнуў чарсцвяк.

— Атакуйце яго! — закрычала жанчына. — Забіце яго, гада!

Хлебнага чалавечка ўміг склявала вараннё. Ні драбніцы ад яго не засталося. А тут і Міколка з'явіўся — здаровы, харошы. Па дарозе дадому ён расказваў маці, як на нябесных палях ён пёк хлеб, якая гэта цяжкая праца, і казаў, што больш не будзе так абыходзіцца з хлебам.

## ЗАПЛЕЧНІКІ

Старая жанчына трымае торбачку мандарынаў, цалуе ўнучку і збіраецца сыходзіць: «Сёння вечарам будзем упрыгожваць ёлку».

— Мне шчыра шкада, — спыняе яе выхавацельніца, — што ваша ўнучка з няпоўнай сям'і. Вы — старая, ваша дачка — дрэнная маці, яна шл...

Цень ветлівасці знікае, зморшчыны на вытанчаным твары сплятаюцца ў нервовае павуцінне, бабуля не ведае, што адказаць, яна не чакала. Перадкалядны вечар у Віцебску — халодны, з вялікім мандарынам на небаглядзе. Неглыбокія сляды парэпаных чаравікаў знікаюць за агароджай дзіцячага садка: старых і дзяцей анёлы вядуць за руку — у кожнага анёла заплечнік з мандарынамі. У кватэры пахне хвояй, старым адэкалонам з ледзянога флакона. Старая рыхтуе вячэру, пакуе падарункі, тэлефануе. Вечарам яна забірае ўнучку — адзіная сяброўка, мабільнік якой ніколі не адкажа: «Абанент часова недаступны». За гэтым «часова» хаваецца маразіла вечнасці.

Бабуля забірае ўнучку з садка. Выхавацельніца спрабуе апраўдацца за ранішняе, просіць прабачэння. Вінаватая ўсмешка.

— Я цябе люблю, — кажа маленькі анёл.

— І я цябе, — кажа сівы.

Дома вячэра. Кафляная печ гудзе — цёпла. Фарфоравы посуд і сапраўдная ёлка. Бабуля з унучкай выходзіць на балкон, яна бярэ яе на рукі — па віцебскім марозным небе ляціць смажаны гусак. Яны разам узносяцца высока-высока над Успенскім саборам.

Выхавацельніца распранаецца перад мужчынам, але атрымоўвае ўдар. Яна спрабуе вырвацца, яе выхавацель прымушае яе быць спагадлівай. Стан выхавацеля зачароўвае. Ёй прыйдзецца глытаць таблеткі і запіваць шампанскім. Яе няўдачы засталіся ў садку, але тут яна сама дзяўчо. Яна аддаецца яму — ваніты з шампанскага і таблетак мкнуць на прасціны. Сон. У анёлаў няма сіл. Яны здымаюць заплечнікі і рассыпаюць мандарыны па заснежаным тратуары. Дыяментавыя пералівы горада згаслі, ён зрабіўся шэрым.

Ніхто не ведаў, якое хараство і якія дзівосы бачылі бабуля з унучкай і чаму перад дзвярыма ў кватэру было столькі слядоў і заплечнікаў.

## КОТКА-РАНГУА

Жанчына прапаноўвала маленькае кацяня:

«Мяне часта не бывае дома, — адмовіўся я, — да таго ж у нас ацяпленне кепскае».

Кансультант у гіпермаркеце прапаноўвала маленькае электроннае кацяня.

«У мяне часта не ўсе бываюць дома, — адмовіўся я, — да таго ж у нас ацяпленне кепскае».

Стары паветранагравальнік ціха вуркатаў на падаконні, стары распушаны хвост-дрот і зялёныя кнопкі-вочкі, на антэнах-вусах — сонечнае святло.

«Мяне няма дома», — крыкнуў з-за дзвярэй, калі прыйшла котка-рангуа.

«Адчыняй, мыш!» — пачуўся электронны голас з-за дзвярэй.

Электроннае кацяня стаяла на парозе і чакала, што яго запросяць у прытулак штучных пачуццяў. Праз некалькі хвілін яно спажывала энергію ў маёй кватэры — яно спажывала яе, як тысячы марсіян, як дзесяць тысяч венеранян. Гэта нахабства! Трэба было нешта рабіць. Я пайшоў на кухню і схапіў малаток. Раптам шчоўкнула мышалоўка. Ад коткі-рангуа засталося некалькі мікрасхем. Усё сціхла. Цяпер пад пошум паветранагравальніка магчыма было пагаварыць з самім сабой.

## ЧАГА І АРХІДЭЯ

Дзверы ў кабінет інспектара па занятасці насельніцтва адчыніліся. Халодная плынь паветра ўзняла са стала маю картку беспрацоўнага — маленькі матылёк надзеі. «Слухайце сюды, — прыстукнуўшы тоўстай далонню паперчыну, пачала інспектар. — З вашай спецыяльнасцю вельмі складана знайсці нешта адпаведнае. Зараз недахоп слесараў, камбайнераў, швачак... Вы абавязаны адпрацаваць дзесяць дзён агульнагарадскіх работ. У іншым выпадку мы не заплацім вам забеспячэння. Дом інвалідаў! Згаджаецеся?»

— Думаць — самая складаная праца, таму мала хто ёй займаецца, — прамільгнулі словы Генры Форда ў галаве. Але яны былі небяспечнымі ў такім становішчы.

— Праца не вельмі складаная, трэба пафарбаваць калідор. Вазьміце з сабой непатрэбнае адзенне. Спадзяюся, вы не збіраецеся фарбаваць у гальштуку?

Я выйшаў на вуліцу. Двухпавярховыя дамочкі і дрэвы выглядалі на моцным снежаньскім марозе вельмі прыгожа. Пераапрануўшыся, я накіраваўся па размеркаванні.

Пандус перад домам інвалідаў быў закінуты дошкамі.

— Зараз халодна! Ну куды нашым пастаяльцам у такое надвор’е, — сказаў дырэктар, выдаючы бляшанку смарагдавай фарбы. — Мы адчынім у пакоях вокны, калі пачнеце фарбаваць.

Калідор быў цёмным.

— Уключыце святло, калі ласка, — нерашуча выціснуў я.

— Добра, — з неахвотай пераключыла рубільнік жанчына ў белым халаце, — але не забывайцеся пра эканомію. А ты што тут раз’ездзілася?! — рыкнула на дзяўчынку гадоў дваццаці, што праязджала ў каталцы побач.

— Я хацела вас папрасіць купіць вялікую бутлю вады, — сказала дзяўчына. — Рэшту пакіньце сабе.

Жанчына ў белым халаце палагаднела:

— Добра, Архідэюшка! Абавязкова куплю! А вы, малады чалавек, пачынайце фарбаваць! — і сышла.

— Гэта немагчыма, асабліва вечарам, — звярнулася да мяне дзяўчына ў каталцы. — Цёмна... Халодна... Але нічога. Мы прызвычаіліся. Вось толькі пандус...

— Што ты сказала?! — узнікла з-за рога баба ў халаце.

— Нічога, Ніна Пятроўна!

Каталка зарыпела па калідоры.

— Мяне Архідэяй клічуць усе тут, — ад'язджаючы, кінула дзяўчына. — Але можаце мяне называць Машай. Заходзьце да мяне ў госці, мая кватэра 28...

— Добра! Абавязкова!

Я пачаў фарбаваць. Прастора напоўнілася здушлівым, невыносным пахам фарбы. Стома і галаўны боль апанавалі мяне пад вечар.

— Вокны не будзем адчыняць, мароз вельмі моцны, — праходзячы побач, сказаў дырэктар. — Дзверы проста шчыльненька прыкрыем. Заўтра прыходзьце а дзявятай...

Мне неабходна было адпачыць. Я павольна пайшоў па калідоры. 23... 24... 25...

— Привет! Что ищешь? — да мяне пад'ехаў мужык у цяльняшцы. Моцная рука клюшняй счапілася з маёй. — Выпить хочешь? Меня, кстати, Чага зовут! Слыхал про такого?

— Прывітанне, не чуў. Будзьма знаёмыя!

— Ну так как, по соточке?

— Не, дзякуй, пазней...

— Ну и чёрт с тобой, к Нине Петровне поеду, — крыўдліва сказаў Чага, — двадцать восьмая дальше… Только осторожно с Орхидеей, она у нас нежная.

Я пастукаў у дзверы.

— Заходзьце, адчынена, — пачулася з іншага боку.

Крок — і перада мной адкрылася рознакаляровае княства. Напэўна, галюцынацыі — мільганула ў думках: гарэлі свечкі, у вазах-фужэрах, вазах-квадратах буялі тысячамі адценняў кветкі, перапляталіся ліянамі па сценах, віселі гірляндамі на столі. У кніжнай шафе стаялі каробкі, на якіх былі прылеплены шыльдачкі *Laeliocattleya exoniensis*, *Odontoglossum*. На імгненне я не быў беспрацоўным.

— Табе падабаюцца архідэі? — спытала гаспадыня кватэры 28.

— Так, вельмі прыгожа.

Мы пілі гарбату, размаўлялі, потым я пайшоў дадому.

— Прыходзь заўтра, — сказала Маша-Архідэя.

Дзверы зачыніліся. Па калідоры Ніна Пятроўна, вясёлая і бестурботная, везла на каталцы Чагу. Ім было хораша. Яны спявалі.

Так я прапрацаваў тыдзень — ужо ў рэспіратары, пад наглядам неадчэпнага, крыху п'янаватага Чагі, які ўвесь час разважаў пра палітыку і хваліўся жыццём. Вечарам ён пазычаў у мяне на «Клюковку» і, перасцерагаючы напаміны аб вяртанні, казаў: «Инвалиды тоже люди. Им помогать надо». Белы халат ад Ніны Пятроўны рабіў яго, як мне падавалася, начальнікам.

З Машай мы пасябравалі. Аднойчы, усхваляваная і радасная, яна паказала мне сваю перапіску ў інтэрнэце.

— У яго свая фірма, — павялічваючы на маніторы фотаздымак мужчыны з акуратна падстрыжанымі вусамі, сказала дзяўчына. — Ён прызнаўся мне ў каханні. Заўтра прыедзе, таму не прыходзь, калі ласка, сам разумееш...

— Кахае?

— Так! Не магу паверыць... Ён сказаў, што мой недахоп — не перашкода для знаёмства.

— Гэта цудоўна!

— Праўда? — узрадавана перапытала Маша.

— Праўда-праўда, — адказаў я.

Дзяўчына ўзяла са стала вазу-фужэр і працягнула мне:

— Гэта табе!

Я падзякаваў і сышоў. Назаўтра прыехаў мужчына, пра якога расказвала Маша. Ён з’явіўся пасля абеду, моўчкі прайшоў побач, нервова зірнуўшы на мяне з-пад драбін, і знік за дзвярыма з лічбамі 2 і 8. Спачатку было ціха. Смарагдавымі стужкамі клалася фарба на сцяну. Ніна Пятроўна ціха катала Чагу на каталцы, ён расказваў анекдоты. За акном падаў снег — ціха, ціха.

Раптам з кватэры Машы пачуўся здушана-пранізлівы крык.

Чага адпіхнуў наглядчыцу і пакаціўся на ўсёй хуткасці. Я кінуўся за ім. Дзверы аказаліся зачыненымі. Я паспрабаваў выбіць нагой, не атрымалася.

Чага зароў:

— Отойди! — і выдраў замок сваёй рукой-клюшняй.

Пасярод пакоя стаяў мужчына без адзення, заплаканая Архідэя спрабавала ад яго адбіцца. Я схапіў незнаёмца і кінуў акурат пад колы Чагі. Здаравяк з абмежаванымі магчымасцямі сціснуў сваёй рукой горла злодзея.

— Убью, гнида! — прашыпеў Чага.

Ён бы гэта і зрабіў, калі б не дырэктар.

— Спадарства, усё павінна быць у межах закона! — сказаў спалоханы дырэктар.

Крыўдзіцель Архідэі цяпер пілуе лясы ў Расоншчыне, але ніякім ён не быў бізнесменам — звычайным вычварэнцам. Дырэктар прыбраў дошкі на пандусе дома інвалідаў. Машы-Архідэі зрабілі аперацыю і яна змагла хадзіць. Неяк сустрэўшы мяне на вуліцы, яна сказала: «Жанчыны — як архідэі. Яны — сапрафіты, могуць прымацавацца да камля і ўпрыгожыць яго. Але трэба адрозніваць ад жанчын-чага. Чага — не сапрафіт, а паразіт. Прымацуецца, не аддзярэш. Сокі вып’е і загіне разам з табою, пакінуўшы толькі пацяруху».

— Чага, — паўтарыў я. Мы рассмяяліся. — Але ён дробны паразіт. Нават не паразіт, а цуд у белым халаце. Ён ажаніўся з Нінай Пятроўнай. Дарэчы, дзякуй табе за архідэю. Яна ўпрыгожвае мой пакой у кватэры. Я знайшоў сабе працу.



Аркадзь НАФРАНОВІЧ

# НА НОВАЙ ВЫШЫНІ...



***Аркадзь Нафрановіч нарадзіўся 26 красавіка 1936 года ў вёсцы Юшкавічы на Мядзельшчыне, жыў у мястэчку Камаі Пастаўскага раёна. Аўтар кніг «У пошуках ісціны» (2005), «Горад музыкі і сонца» (2009), зборніка нарысаў і вершаў «Сейбіты дабра і мудрасці» (2007), лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча за кнігу «Мая адысея» (2001).***

* * *

Усё ляцяць кудысьці дні
Праз дождж і снег, праз сонца промні.
На кожнай новай вышыні
Лепш супыніцца і прыпомніць,

Якія пройдзены шляхі,
Узважыць каб затым пры людзях
Свае і славу, і грахі
На чуйных шалях правасуддзя.

Сіл свежых пачарпнуць з крыніц
У спадарожнікі ўзяць вецер
І ачышчаць сябе ад смецця
Агнём маланак-бліскавіц.

**ДОЖДЖ**

Сыпануў імклівы дождж.
І такі раптоўны.
Мы пабеглі басанож
Да лясной вартоўні.

А за намі наўздагон
Кропачкі ды коскі —
Я з табой пад парасон
Маладой бярозкі.

Ля маёй твая рука.
Як жа мы прамоклі!
Ловяць з аднаго лістка
Нашы вусны кроплі.

Гром падаў густы свой бас
Над сцяной залевы.
Бы пытаўся ён у нас
І так строга: «Дзе вы?!»

«Дзе вы?!» — паўтарыў лясок.
Ён увачавідкі,
Як і мы, увесь прамок.
Да апошняй ніткі.

І ажыў палёў абсяг,
Пасвяжэлі краскі.
З божай ласкі мы ў гасцях
У вясёлай казкі.

## СЦІПЛАСЦЬ І ПРЫГАЖОСЦЬ

Імчалася электрычка.
Быў шчодры на сонца дзень.
Падрыгваў вагон — спаднічка
Спаўзала з тваіх калень.

Назад ты яе вяртала
Звыклым рухам рукі.
Ножку ля ножкі трымала.
Вочы — у іх васількі

Цвілі, а на шчочках ямкі.
Аўсяныя валасы.
Банцікам губкі — ад мамкі,
Напэўна, столькі красы.

Як зваць цябе — Таняй, Вольгай?
Якой — вазьмі разбяры! —
Тваёй прыгажосці болей:
Знешняй, ці той, унутры.

Сціпласць сплялася з красою...
І ўсім я давесці б мог:
Не іншай — толькі такою
Жанчыну задумаў Бог.

## ПАЭТ

Колькі тых, што прагнуць Меккі!
Ён жа ўсё на той з дарог,
Што вядзе да чалавека,
Да яго турбот, трывог.

І жаданы, і любімы —
Як не захапляцца ім!
Мы ягонымі вачыма
Часта на жыццё глядзім.

## ТОЛЬКІ ДОМА

О зямелька родная, святая,
Як жа цешыш ты душу маю!
Да тваёй травіцы прыпадаю,
З асалодай водар красак п’ю.

Радуюся нівам і хмялею
Ад жытнёвых спелых каласоў.
А засвішчуць снежныя завеі —
Маладзее ў жылах маіх кроў.

Анідзе ў жыцці таго настрою
Не спазнаць, як каля родных меж.
Толькі дома штосьці ёсць такое,
Ад чаго святлееш і пяеш.

* * *

Снежань — белай пражай снег
Звіс з платоў, са скалаў стрэх.
Хмары звыкла захінулі
Сонца ў свой касматы мех.

Хтось руплівы бель бяроз
Па зямлі наўкол растрос.
І здаецца — з траў ссівелых
Прад табою сенакос.

Б’юць у сцены маразы,
Сунуць нос свой у пазы.
І паўзуць, як чарапахі,
З сенам на лугі вазы.

Раніцой дымоў парад
Пад аховаю прысад.
Сочыць за дарогай вёска
Вокнамі прыціхлых хат.

**Падчас падрыхтоўкі гэтага нумара ў рэдакцыю прыйшла сумная навіна: 15 сакавіка Аркадзь Нафрановіч пайшоў з жыцця. Няхай гэта падборка вершаў стане светлым напамінам пра талент паэта.**

*Мікола КАЛЯДНЫ*

# ІЛЬВІНАЕ ВОКА[1]

## *Метагістарычныя эцюды*[2]

**ПРАЛОГ**

Нейкая негавіль шугнула ў прастору.

Усё наваколле ўвобміг захвалявалася.

Расліны страпянуліся і нервова закалываліся. Жывёлы спалохаліся і кінуліся бегчы. Камяні скалануліся ўнутрана, застаючыся вонкава нязрушнымі.

На адным з іх, самым вялікім і пляскатым, сядзеў Леў.

Яго таксама ўстарнавала невядомая касмічная хваля, і ён, імкнучыся зразумець яе, пільна ўглядаўся ўдалячынь, магутным зрокам ляцеў аж да зор.

Да Льва зрозь збягалася ўсялякая зверына. Ён вялікасна і спагадліва прымаў кожную, выслухваў і мудра радзіў-судзіў.

Цяпер перад ім сабралася процьма народу, які задзіночана-запытальна пазіраў на цара і чакаў адказу, аднаго на ўсіх.

Леў адчуваў агульную занепакоенасць і ведаў, што значыць цяпер ягонае слова.

Ён чуйна ўбіраў у сябе касмічныя сігналы, асэнсоўваў іх і рыхтаваўся мовіць.

Нішто не парушала гэтае глыбокае засяроджанасці.

Толькі адно сонца ўзбуджала ясны пагляд.

**ШКАЛЯРЫ**

**1**

— Адкуль ён?

— З Ліцвініі, вашая імасць.

— Добры край. Нам шанцуе на яго прадстаўнікоў. Але чамусьці адтуль даўно нікога не было.



***Мікола Калядны нарадзіўся 16 студзеня 1956 года ў вёсцы Дуравічы Буда-Кашалёўскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў у камітэце па тэлебачанні і радыёвяшчанні Гомельскага аблвыканкама. Цяпер жыве ў Віцебску, працуе на ўнітарным прадпрыемстве «Віцебскводаканал». Цікавіцца гісторыяй і космасам.***

---

[1] Леў (эзатэр.) — сымболь агню адважнасці, сонца і золата.

[2] Метагісторыя — метакультура[3] ў руху ўсіх яе частак.

*[3] Метакультура — шматпластавая, розных вымярэнняў прасторы і часу, сістэма альбо злучво правідэнцыйных, фізічных і дэманічных працэсаў жыццядзейнасці планеты.*

— Там зараз неспрыяльныя ўмовы: зашмат ліхасці.

— Дзе яе толькі няма. Нам з ёю яшчэ доўга хадацца. Не прамарудзілі мы з ім?

— Так, ён крыху старэйшы, чым трэба, але вельмі здольны. Гэтак лічыць Альгерд.

— Альгерд ведае людзей. Абы-каго не возьме. Аднак ім будзе цяжка.

— Сапраўды, выпадак выняткова. А калі нам было лёгка?

— Дзеля гэтага і жывём. Як ён пачувае сябе?

— Пакуль непрытомны.

— Калі агоўтаецца, уважліва паназірайце за ім: першыя ўражанні існыя і праўдзівыя.

**2**

Кастусь расплюшчыў вочы.

Нязвыкла яркае святло разанула зрэнкі, асляпіла.

Ён спалохана зажмурыўся і сцяўся, адчуваючы чыюсьці прысутнасць.

Павольна падняў павекі — і нікога не ўбачыў. Затое знайшоў сябе ў ложку.

Незнаёмы пакой напачатку падаўся пустым, а потым, па меры змянення светлавой танальнасці, паступова праказаўся незвычайным убраннем.

Стол, крэслы, шафа, шматлікія прадметы, прызначэнне якіх Кастусь не ведаў, — усё было круглявае і белае. Ён асалапеў, калі раптам сцянаператварылася ў вялізнае акно і перад ім расхінулася ашаламляльная вонкавасць.

Гарыстая мясцовасць патанала ў зеляніне і квецені, лашчылася ў сонечным марыве. На ёй узвышаліся фантастычныя збудаванні, якія ўражвалі формаю і афарбоўкаю. У паветры нароўні з птушкамі і казачнымі істотамі луналі-куляліся людзі. Кастусь захапіўся відовішчам і нікольі не дзівіўся, што цераз шкло адчувае пахі, гукі і нейкія незразумелыя выпрамяненні.

Таму і не адразу яго вярнуў да рэальнасці чыйсьці голас:

— Гэта можна яшчэ і пакратаць.

Ён схамянуўся і зірнуў убок. Перад ім стаяў высокі мужчына і прыемна ўсміхаўся. Кастусю падалося, што той вынікнуў прама з паветра.

Незнаёмец працягнуў руку. Нібыта ад чараўніцтва, яна падаўжэла і лёгка кранула цыліндрычны гмах на ўзгор'і. Затым павольна праплыла над зялёнымі бухматымі дрэвамі і нырнула ў лістоту разложыстага дуба. Ад шапацення ўсхваляваліся птахі. Адны з іх узняліся ўгору, іншыя селі на далонь, якая ўвачавідкі пабольшала, і зацвыркалі. Уражвалі і мноства і мілагучнасць спеўных матываў. Нейкі юнак вёртка крутнуўся ў паветры, скокнуў на далонь, зрабіў сальта і, адштурхнуўшыся, імпэтна ўзнёсся.

Пачакаўшы хвілю, дзівоснік варухнуў пальцамі, спудзіў птушак і вярнуў руку да звыклага стану.

Кастусь зніякавеў і нічога не мог прамовіць.

— А цяпер паспрабуй ты, — пачуў ён прапанову і няўцямна ўзняў правіцу.

Пальцы нібыта расцягнуліся, памкнуліся ўперад і хутка тыкнуліся  ў шыбіну.

Кастусь крыху пастрыг імі, злёгку націснуў. Але нічога не адбылося — і ён бездапаможна апусціў руку.

— Не ўсё адразу, — паблажліва суцешыў незнаёмец. — А пачатак мне падабаецца.

Кастусь паглядзеў на яго больш уважліва і напружыўся: нарэшце неведзь абудзіла свядомасць. Ён ужо гатовы быў выбухнуць пытаннямі, але той апярэдзіў:

— Мяне клічуць Альгердам. Я — настаўнік касмічнай вучэльні.
— Якой?
— Касмічнай, — больш выразна вымавіў Альгерд.
— Я буду аэранаўтам?
— Не. Міжпланетныя караблі цябе не чакаюць, хоць лятаць ты зможаш паўсюль.
— Як яны? — кіўком галавы Кастусь паказаў на акно.
— І як яны таксама.
— Дзе я? У якой краіне?
— Ты ў Самбале, мясціне вышэйшага чалавецтва і правідэнцыйных сіл.
— Я не ведаю такой.
— На Зямлі яна вядомая толькі некаторым.
— Як я сюды трапіў?
— Я цябе забраў.
— Навошта?
— Каб выхаваць і навучыць.
— Чаму?
— Нашай навуцы.
— А як яна завецца?
— Творчасць.
— …Не разумею. Чаму я?
— Ты — абраны.
Кастусь занепакоіўся і падумаў пра няпэўнасць, нават уяўнасць свайго становішча.
— Хаманея. Мне сніцца?
Нешта ўспомніўшы, ён здрыгануўся і хуценька абмацаў свае грудзі. Адчуўшы пад далонню кудмень, задаволена ўздыхнуў.
— Ты не спіш і даўно ачуўся.
— Я жывы?
— Канешне.
— Што з людзьмі?
— Жывуць па-ранейшаму.
— А мае родзічы?
— Турбуюцца пра цябе, шукаюць.
— Я вярнуся да іх?
— Не.
Сэрца Кастуся балюча ёкнула ад раптоўнага прыліву горычы, і ён, узрушаны, ускочыў з ложка.
— Гэта жорстка. Яны будуць пакутаваць і сумаваць. І ніхто іх не суцешыць. Я хачу дадому.
— Твой дом тут.
Альгерд знарок паддаваў жару, каб пабачыць, як шугае вогнішча.
— Няпраўда! — цвёрда выгукнуў Кастусь і паглядам паімчаў удалячынь. — Ён там, дзе мае маці, бацька, браты, сястра, сябрукі…
— …альбо іншае атачэнне і нават адзінота, калі ёю прасякнешся.
Усхваляванасць не пакідала Кастуся. Ён сердаваў, што суразмоўца ўпэўнена і лёгка расхіствае ягоную пазіцыю, а ў яго нестае пераканаўчых аргументаў, каб трымацца.
— Тое, ад чаго пайшоў, нішто не заменіць, — злосна буркнуў ён, ледзь стрымліваючы сябе.

— Правільна. Ты ведаеш, ад чаго?

— Так, я ўжо сказаў.

Альгерд усміхнуўся, і Кастусю падалося, што паблажліва.

— Вы з мяне кпіце?

— Ніколькі. Мне імпануюць твае разважанні. Ты не па гадах кемлівы — гэта вельмі добра. Значыць, нашая справа пойдзе належным чынам.

Кастусь маўчаў. Яму хоць і спадабалася хвала Альгерда, але надакучыла барукацца. Ён адчуваў глыбокую самоту і вельмі хацеў дамоў. Горкасць сціскала грудзі і спірала дыханне.

**3**

Нікога няма. Куды ўсе падзеліся?

— Мама! — крыкнуў ён і палахліва зіркнуў па баках.

На панадворку не было ні курэй, ні качак, ні сабакі. У хляве не рохкалі свінні, не пыхкала карова.

Бразнуў клямкаю веснічкаў і выбег на вуліцу. Таксама пуста. Цішыня аж увушшу звінела.

— Мама! — паклікаў гучней і, праглынуўшы горкі камяк крыўды, пабег у хату.

Калі адчыніў дзверы, пачуў невыносны крык матулі. Адразу кінула ў жах — і ён рвануў у трысцен.

Напаўаголеная маці ляжала ў ложку на пакамечаным хаўбосці і чамусьці ненатуральна курчылася. Над ёю схілілася баба Акуліна, якая з падазронай зацятасцю варочала рукамі і аднастайна мармытала штосьці недарэчнае, нібы замаўляла.

— Не, не, не! — залямантаваў Косцік і з кулачкамі наляцеў на старую.

Тая ад нечаканасці здрыганулася і раззлавана адпіхнула яго. Але ён не адступаў і апантана каёчыў яе. Суседка Пелагея, што стаяла побач са скарачом, рашуча ўзяла хлопчыка за руку і пацягнула прэч. На парозе ён пачуў прарэзлівы крык дзіцяці і асалапеў.

Аднекуль выплылі незнаёмыя постаці і твары, якія заклапочана нешта абмяркоўвалі і кудысьці спяшаліся.

Ён мімаволі памкнуўся за імі — і знямеў ад нечаканага светлавога пошугу, за якім узніклі могілкі.

Халодны смутак ахутваў гэтае журботнае месца. Сцюдзёнасці дадавалі горкія слёзы, немае галашэнне і няўцешны плач, што выяргала гаротная купка людзей ля труны ўскрай свежай ямы. Святар прачула казаў пра вечны спачын.

Косцік панура назіраў панахвіду і не разумеў, навошта яна, бо нябожчык усё роўна ўжо нічога не ўспрымаў. Хлопчык не ведаў, чаму і куды знікаюць людзі, і злаваў на бездапаможнае жыццё, якое збяднела на яшчэ аднаго чалавека. Якім яно будзе, калі нікога не стане?

**4**

— Косцік, чаму ты на мяне так жаласліва пазіраеш?

— Крыўдзіцца не будзеш?

— Не.

— Мне шкада цябе.

— Гэта чаму ж?

— У цябе было цяжкае жыццё, ты шмат пакутаваў…

— Сапраўды, нялёгка прыйшлося. Ды хіба я адзін такі: многія зносілі трасцу.

— Так, усім нашым продкам было бядотна. Марыя Іванаўна казала, што мы, бялусы, вякамі жылі пад жорсткім прыгнётам ліцвінаў і аслабаніліся толькі дзякуючы нашым братам — мусам. Каб не яны, дык мы б і дагэтуль гаравалі.

— А хто такая Марыя Іванаўна?

— Нашая настаўніца. З Масеі нядаўна прыехала. — Дзядуля, распавядзі, як вы змагаліся.

— Доўга і зацята, але, на жаль, не адолелі ліха.

— Як гэта? Ты ж — пераможца, герой!

— Не, унучак. Падужалі мусы.

— Правільна. І мы з імі.

— Мы ніколі не былі з імі.

— Усё чмуціш, дзядуля! Думаеш, я малы і нічога не петру.

— Наадварот, я лічу, што ты цямлівы хлопчык і павінен ведаць праўду.

— Тады адкажы, хто такія ліцвіны і куды яны дзеліся?

— Ліцвіны — гэта мы з табою.

— ?

— Так, не здзіўляйся. Настаўніца вас падманвае.

— Навошта?

— Яна — муска і ўсё робіць па-муску.

— Я нічога не разумею.

— Не хвалюйся, я табе зараз усё растлумачу. Прысунься бліжэй і слухай.

Дзядуля прытуліў унука да сябе і, скіраваўшы позірк удалеч, мовіў:

— Нашая краіна некалі звалася Ліцвініяй і была вельмі заможнай. Я добра памятаю тыя часы: быў акурат такім, як ты цяпер. Жыццё цякло ў радасць, і ніякіх унутраных звадаў не ўзнікала. Затое звонку нас не-не ды мітрэнжылі. Асабліва Масея. Не ладзілі мы з ёю, хоць покні. Па-першае, час быў жорсткі. Па-другое, ад веку мы ішлі рознымі шляхамі і не разумелі адно аднаго. Таму і ваявалі бесперастанку з-за абы-чаго. Мне здаецца, да гэтага спрычыняліся больш мусы, чым мы. З намі, ліцвінамі, можна было заўсёды паразумецца: іншыя суседзі неяк жа дамаўляліся. Мусы — не. Дужа агрэсіўныя і бязлітасныя, яны варагавалі з усімі. Чым больш нападалі, пляжылі і рабавалі, тым мацней былі іхнія апетыты, то бок верх бралі дрэнныя якасці.

— Амаль як у нашай блазенскай бойцы — перамагае самы злы.

— Так, ад характару многае залежыць, але не кожны пераможца мае рацыю. Наогул, любая калатня — спосаб высвятлення зносін паміж удзельнікамі, з якіх, як мінімум, адзін недасканалы. У выпадку з мусамі заўжды адчувалася нейкая іхняя незавершанасць, спрошчанасць, скрыўленасць развіцця. А, як вядома з гісторыі, ад навалы, дзікунства і прымітывізму церпяць дый гінуць многія цывілізацыі. На жаль, такі лёс напаткаў і нас.

— З захопнікамі трэба змагацца!

— Мы гэта рабілі заўсёды. Увесь край булькатаў гневам супраць чужынцаў. Я добра памятаю тыя часы. Сам удзельнічаў не ў адным паўстанні. Але нашай дзяржавы ўжо не існавала, свайго войска таксама, і за нас не было каму заступіцца, падтрымаць зброяй. А самім добра арганізавацца ў такіх умовах вельмі складана. У барацьбе людзі скарыстоўвалі ўсё, што магло знішчаць ворагаў: сякеры, рыдлёўкі, сахоры, нажы, дубцы і іншыя прылады. Канешне, былі і вінтоўкі, і рэвальверы, але не ў дастатковай колькасці. Масейцы супраць паўстанцаў кінулі армію. А гэта вялікая сіла, якой бы па аснашчанасці яна ні была. Знішчалі барацьбітоў жорстка,

бязлітасна. Крывёю залілі ўсю зямлю. Шмат ліцвінаў загналі ў Масею, у рабства, хоць акупанты і дасюль сцвярджаюць, што ў іх ніколі не было такой формы прыгнечання.

— Гэта несправядліва!

— Так наканавана, унук. Пад акупацыяй жыць складана: з кожным днём губляеш нешта дарагое і блізкае сэрцу. Самае цяготнае — зведваць не фізічнае, а духоўнае заняволенне. Мусы зневажаюць і зганьшаюць нас. Дашчэнту знішчаюць усё, што хоць нейкім чынам нагадвае пра нашу былую веліч і годнасць: гісторыю, культуру, мову, традыцыі… Яны нават зваць нас сталі не ліцвінамі, а бялусамі. Але праз некаторы час ім падалося, што і гэтае слова ўзвышае нас, таму замест яго ўва ўсіх выразах і злучэннях, якія нам давалі, пачалі выкарыстоўваць «нацыянальны». Адчуваеш, Касцік, як далёка вядуць чалавека заганы і ліхадзейства?

— Чаму так адбываецца?

— У нас мала ўлады над сабой. Ды і ведаў таксама. Зло заўсёды асцярожнічае, маскуецца. Вонка мы заўважаем, калі хто здольны, толькі ягоныя вынікі. А ўсю асноўную, падрыхтоўчую, працу яно робіць унутры нас, у некаторых дык вельмі вялікую. Калі нешта пачынаецца, нам цяжка вызначыць: дабро гэта ці зло. Толькі апасля вымалёўваецца праўда, дый то не заўсёды і не для ўсіх. Назіраць трэба, унук.

— А хто вінаваты?

— Усе, але больш той, хто хітруе і падманвае.

## 5

Альгерд ведаў, што Кастусь павінен перахварэць тугою па Радзіме і перашкаджаць гэтаму пачуццю нельга. Наадварот, неабходна авысакародзіць яго і скіраваць у стваральнае рэчышча. Ён памятаў прыклады, калі шкаляры сваім маркотным, змрочным настроем даводзілі сябе да ніякавасці і тым самым парушалі ўнутраную творчую гармонію.

Таму ў першую чаргу іх навучалі майстэрству валодаць сабою — якасці, якая адчыняла дзверы да свабоды і дасканаласці.

Менавіта яна адрознівала насельнікаў Самбалы ад іншых жыхароў Зямлі.

За ўсю гісторыю планеты ніводная істота не спажыла яе ў поўнай меры.

Здаўна першы крык немаўляці сведчыць, якую зямную атруту душа ўдыхнула пры нараджэнні і як балюча перакруцілася яе свядомасць. Такое страсенне паводле энергетычнага воплеску тоеснае сусветнаму катаклізму, і добра, што памяць пра яго схавана глыбока ў падсвядомасці чалавека, інакш жыццё ператварылася б у відавочны суцэльны кашмар.

І ўсё адно ад гэтае хвіліны неасэнсаваны сполах чэпка трымае кожнае жывое стварэнне, змушае яго займаць абарону і змагацца з усім светам бесперастанку, да скону. А хіба можна думаць пра стрыманасць, уменне валодаць сабою, калі ўсё іства нацэлена выключна на выжыванне? Безумоўна, не.

Тое ж дзіця заўсёды віскоча, як парася, калі нешта не па ім. Не, каб сціснуць бяззубы роцік і пацярпець на радасць бацькоў, якія таксама не могуць утрымацца і не ляснуць свайго атожылка па дупе.

Падлеткі гэтак жа не ўтаймоўваюць свае настроі, часта абзываюцца, задзіраюцца і б'юцца да крыві. Заміраюць яны толькі адчуваючы непераўзыдзеную сілу.

Дарэчы, тое ж уласціва і дарослым. Толькі яны больш хітруюць, хлусяць і надзвычай высільваюцца, каб схаваць праўду, — гэтая практыка лічыцца майстэрствам

самавалодання, гнуткасцю розуму, удасканаленнем жыццяладу. Такім чынам і былі вынайдзены многія эрзацы Праўды, прыдумана мараль, этыка, законы.

Але чалавек не прасцяк і не дурыла, каб кажначасна і беспярэчна кіравацца гэтымі парадкамі. Ён ніколі не збіраўся ўціхамірваць і скоўваць сябе, таму і захаваў сваё нутро без перамен. Двудушнаму і ленаватаму, яму прасцей апраўдваць сябе ўяўнай суцэльнасцю з прыродай, чымсь праяўляць дабрамужнасць і перайначвацца існасцю, каб напраўду адпавядаць ёй.

Прыродзе, напэўна, крыўдна і брыдка, што такая духоўная гнюсота прылучаецца да яе. Яна неаднойчы была сведкаю таго, як асобныя ўнікумы спрабавалі адрачыся рэчаіснасці і засяродзіцца на сабе, але не выносілі ціску шматвяковага досведу чалавецтва, вельмі пакутавалі і ў выніку цярпелі паразу. Знайшліся разумнікі, якія без сумневу заявілі, што ад такіх практыкаванняў адна шкода і трэба жыць як усе, то бок прымітыўна. А таго, што тыя ж унікумы не здолелі разарваць путы старавечча і пераадолелі толькі палову шляху, за якім іх чакала існае Святло, не ўзерылі. Урэшце абцяжарылі людзей чарговаю несусвеціцаю і яшчэ больш прыхілілі іх да зямлі.

**6**

Пад нагамі шуршэла лістота, і добра было на душы. Косця раз-пораз нахіляўся-прысядаў — і ягоны кошык паўнеў баравікамі. Ён гучна радаваўся гэтаму, упершыню адчуваючы асалоду ад ляснога занятку.

Дзядуля хадзіў побач і таксама цешыўся кожнай знаходкай унука, уголас пахвальваючы яго.

Раптам хлопчык войкнуў і схапіўся за нагу. Дзед адразу сігнуў да яго.

— Што здарылася?

— Укалоўся.

— Хуценька садзіся і разувайся. Не, уначак, цябе гадзюка ўкусіла.

Малец заўважыў, як цёмная істужка бясшумна слізганула па лісцях і мігам схавалася пад карчом. Не марудзячы, стары прыпаў ротам да ранкі і стаў смактаць. Некалькі разоў узнімаў галаву і сплёўваў.

— Так неабходна рабіць заўсёды, калі джаляць змеі, інакш можна памерці.

— А калі адзін?

— Тады трэба самому старацца выціснуць яд. Крый Божа!

— Давай заб'ём гадзюку.

— Нельга.

— Ты што, дзеду: яна ж злая і яшчэ каго-небудзь укусіць!

— Яна не злая, а звычайная.

— А чаму напала на мяне?

— Ты яе зачапіў, перашкодзіў ёй — а гэтага ніхто не любіць.

— Ды я незнарок! Навошта яна мне? Я збіраў грыбы і зусім пра яе не думаў.

— Дарма. Ты прыйшоў у лес — не ў сваё, а ў яе асяроддзе — і павінен ведаць пра гэта, адпаведна паводзіць сябе. Іначай дабра не будзе.

— Дык што: мне нікуды не хадзіць?

— Не, даражэнькі, спазнаваць свет неабходна, але варта заўсёды памятаць, што ты не адзін.

— Забудзешся тут: людзі на кожным кроку.

— Наогул, Косцік, ад чалавека больш бяды: да чаго б ён ні дакрануўся, там дрэнь. Прырода яго не паважае, але чамусьці церпіць, іншым разам — да гаркоты. Здараецца, што і помсціць. Бачыш, як ветралом загарадзіў дарогу. Раней па ёй

шмат хадзілі: да чыгункі было рукой падаць. А цяпер прайсці немагчыма, павал усё перайначыў. Ніхто яго ўжо не прыбярэ, так і будзе ляжаць, покі не згніе. Людзі знойдуць іншы шлях. Так прырода завязвае вузлы, завальвае лёсы.

**7**

— Як паводзіць сябе звер, калі нейкае ягонае пачуццё раптам засігналіць? — задзірыстым дапытным узрокам Альгерд абвёў вучняў і пертварыўся ў чаканне.

Прасторная зала, насычаная энергетыкай неафітаў, умомант запярэсцілася ад іхняе разгубленасці і сумятлівых думак. Толькі што настаўнік прыгожа распавядаў пра вучэльню, яе парадкі, абнадзейваў ружоваю выгляднасцю і нечакана кінуў такое, здавалася, недарэчнае пытанне. Усе збянтэжана сцішыліся і толькі праз хвіліну падалі свае нясмелыя галасы.

— Хвалюецца.

— Насцярожваецца.

— Ускоквае.

— Рыкае.

— Пачынае шукаць.

— Ці тое рэагуе адразу, без прамаруджвання — і ніяк не стрымлівае свайго настрою? Так? Правільна! — як бы падбадзёрыў іх Альгерд і нанова бліснуў вачыма. — А расліна?

Юнакі ў непаразуменні перазірнуліся, нібыта пытаючыся адно ў аднаго: а хіба ў флоры ёсць пачуцці? Але знайшліся цямлівыя і выгукнулі:

— Шамаціць.

— Гайдаецца і калыхаецца.

— Гэта значыць, вонкава аднастайна і менш выразна, — зноўку абагуліў Альгерд і зусім агаломшыў маладзьгу чарговым пытаннем. — А камень?

Вялізная лавіна ўражаных поглядаў з усёю сілаю лінула да яго. Шчыраю ўсмешкаю ён стрымаў яе напор і, не дачакаўшыся галасоў, сам жа і адказаў:

— Стаічна, нерухома, з неверагоднаю вытрымкай. Ці, можа, хто заўважаў, як хвалююцца камяні, горы, як яны выказваюць свой настрой?

— Я, — парушыў цішыню Кастусь.

Усе павярнуліся да яго. Альгерд пацікавіўся:

— І як?

— Яны мужна гудзяць.

— Трапнае азначэнне. І дзе ты іх слухаў?

— На маёй Радзіме такіх валуноў шмат. Яны розных памераў і параслі мохам. Падыдзеш да такога, прыкладзеш вуха — і не можаш адарвацца ад яго дзіўнае песні.

— І што яна табе навявала?

— Нешта загадкавае, таямнічае і вельмі панаднае.

— Ты спрабаваў вызначыць, што?

— Так, але не мог.

— Не хапала ведаў. Пра сябе і іншых, — адзначыў Альгерд. — Іх заўсёды не стае, калі сустракаеш штосьці невядомае, новае, цёмнае. Я ўпэўнены, што кожнаму з вас знаёмыя такія адчуванні. Кастусь, мабыць, зазірнуў глыбей і пачуў гукі, як мы кажам, нежывой прыроды — гэта добра. А ўвогуле, нічога мёртвага ў прыродзе, Космасе няма, усё навокал жывое, падобнае, складаецца з адных і тых жа частак, толькі розніцца між сабою іхняй колькасцю і ўмовамі спалучэння.

— А што за часткі?
— Элементарныя энергетычныя імпульсы.
— Іх можна заўважыць?
— Толькі калі яны праяўляюцца разам і ў канкрэтным асяроддзі. Тады выглядаюць як мітуслівае іскрыстае воблака. У асобных варунках і адна часцінка бачная як імгненны бліск. Але гэта — найрэдкая з'ява і дасяжная нямногім, дый то пасля адпаведнай падрыхтоўкі.
— Яны свядомыя?
— Безумоўна.
— І свабодныя?
— Так.
— А як яны злучаюцца, паводле дамоўленасці альбо кахання? — скептычна хіхікнуў вёрткі дзяцюк, і шкаляры зарагаталі.
— Воляю творцы, — сур'ёзна адказаў настаўнік.
— А хто творыць?
— БОГ і мы.
— Што менавіта?
— Творчасць не мае межаў.
Ажыўленне імгненна казытнула юнакоў — і яны задаволена закруціліся. Некаторыя тэатральна і з гумарам дэманстравалі, як іх быццам ахапіла празмерная пыхлівасць ад глыбокага ўсведамлення сваёй значнасці.
— І як гэта рабіць?
— Якія няўрымслівыя! — з напускной перасцярогаю прамовіў Альгерд. — Пра што мы толькі што гаварылі?
— Пра рэакцыю на знадворныя раздражняльнікі.
— Працягнем размову. І на каго вы зараз больш падобныя?
— На жывёл і птушак.
— А хіба можа быць інакш: мы і ёсць жывёлы, — упэўнена, без сумневу вызначыў месца чалавека цяглісты хлапчына.
— А вось і не, — вярнуўся да ранейшай гульні Альгерд.
Здзіўленне зноў скаланула паветра.
— Біялагічна мы сапраўды як жывёлы, але духоўна бліжэйшыя да больш вечных стварэнняў — камянёў. Яны складаюцца з мноства хімічных элементаў і з'яўляюцца тыповымі прадстаўнікамі самай велізарнай, незлічонай арміі будаўнікоў Космасу. Усё знікае пад БОСКАЙ Далонню, камяні — у апошнюю чаргу. Нават вада і паветра саступаюць ім месца, аддаючы сваю энергетычную моц на захаванне. Рашуча і смела імчаць яны па неабсяжным Сусвеце, падуладныя толькі БОГУ і сабе. Спадзеючыся на творчае ўзбагачэнне, іх штурмуюць усемагчымыя касмічныя сілы: адны — з дабром, іншыя — са злом. І яны ўспрымаюць гэтае ўздзеянне, палымнеюць і калеюць, безліч разоў пераўтвараюцца, аддаюць, нічога не шкадуючы, але захоўваюць сваю галоўную сутнасць і прытрымліваюцца зададзенага курсу. Як не захапіцца такімі натхняльнікамі Космасу!
Узбуджэнне настаўніка перадалося і вучням. Яны зачаравана глядзелі на яго, уяўляючы гэты жывы бясконцы рух.
— Дык што, нейкія дзікуны больш дасканалыя за нас?
— Яны іншых касмічных каардынат. Ужо адно тое, што камяні, скалы, горы могуць існаваць мільярды гадоў, сведчыць пра іх неверагодную загартоўку і трываласць. Якім быў бы чалавек, калі б меў за плячыма такі досвед?
— Усё б ведаў.

— Дужа разумным.
— Цяжка ўявіць.
— Магутным.
— Цягавітым.
— Як камень.
— Засвіднуў бы[1], — выгукнуў хударлявы шкель і тым самым узнавіў хіхоты.

— Час і прастора такому даўгавеку даюць шмат мажлівасцей для духоўнае моцы, — крыху счакаўшы, прамовіў Альгерд з націскам на апошнія словы. — А яна без мудрага самавалодання не з'яўляецца. Менавіта камень увасабляе такі стан унутранай дасканаласці.

— Мы жывём вельмі мала, і нам гэтага не дасягнуць.
— Вельмі шкада.
— Так дадзена.
— А хацелася б.
— Няўжо нельга падоўжыць чалавечы век?

Мноства ўніклівых вачэй утаропілася на настаўніка.

— Можна, — адказаў той і расплыўся ва ўсмешцы.

У зале дадалося святла і шчырасці.

Альгерд паглядзеў на выхаванцаў і адчуў іхнюю гарачую зацікаўленасць.

— Але гэта вельмі складаны шлях. Па-першае, ён не для ўсіх, па-другое, яго не кожны праходзіць годна. Вы — абраныя, і вам дазваляецца ступіць на яго.

Радасць расцяклася па юначых сэрцах. Ніхто не хаваў свайго прыўзнятага настрою і не стрымліваў сябе. Многія весела тузаліся і абдымаліся.

Альгерд хвіліну-другую з інтарэсам назіраў гэтую ўтрапёную валтузню, затым узняў руку і папярэдзіў:

— Калі хто адчувае хоць мізэрны сумнеў, няўпэўненасць, страх, няхай смела пра гэта паведаміць. Яго не абгавораць і не зганяць, а зразумеюць і вернуць на радзіму. Раю не падманваць сябе і іншых, бо потым будзе цяжка. Навука, якую вам будуць выкладаць у нашай вучэльні, адметная і патрабуе своеасаблівага светаўспрымання і самааддачы. Некаторыя не вытрымліваюць, ламаюцца і абіраюць заганны накірунак. Здараецца, што гінуць.

Цішыня запанавала ў зале. Схіліўшыся над вучнямі, яна з цікавасцю назірала, як ліхаманкава ўспыхваюць іхнія пачуцці і мятушацца думкі. Ёй здавалася, што зараз выбухне вялікая нязгода, бо вагаліся многія. Але голас падаў толькі адзін:

— Мабыць, я чагосьці не ўтаропіў, але мне не падабаецца такі падыход. Той, хто па-сапраўднаму любіць сваю краіну і свой народ, мяне зразумее. На Зямлі мільярды людзей. Усе маюць розум, сэрцы, душы і спадзяюцца на БОСКУЮ літасць. Але пашанцавала толькі нам, абраным. Мы будзем жыць і тварыць вечна. А што будзе з астатнімі? Які лёс іх чакае? Безумоўна, не такі, як наш. Ім напэўна суджана пакутаваць і памерці. Дык ці маю я права пакідаць іх і цешыцца ў вечнасці? Не, гэта будзе здрадай і самай вялікай ганьбай. Я сабе гэтага ніколі не дарую. Лепш застануся з імі і буду рабіць усё, каб палепшыць іхняе жыццё. Прабачце і бывайце. Жадаю поспехаў.

Дамоўца азірнуў равеснікаў, паважна кіўнуў галавой настаўніку і хутка выйшаў.

Праз хвіліну за ім рушылі ўслед яшчэ некалькі смельчакоў.

[1] Засвіднуць — абрасці цвіллю, пацвісці, збраснець, заплеснець.

**8**

Азіраючыся, яны падняліся па драбіне на гарышча, зачынілі дзверцы і прыселі каля франтона. Моўчкі дасталі пачак з запалкамі, сшытак, зірнулі адно на аднаго.

Бацькі ніколі не дазвалялі дзецям карыстацца жыранкамі, хавалі іх у недасяжным месцы — у вузельчыку пад самай столлю — і заўсёды палохалі пажарам. Бэйбусы ўважліва слухалі, ніякіх пытанняў не задавалі і думалі, што не такія ўжо яны і дурні, каб не ўмець шоргнуць сярнічкай і нашкодзіць. Агонь заўжды можна патушыць, як гэта робяць пры аказіі дарослыя.

На тое яны і разлічвалі, калі нарэшце знайшлі прыдатны момант, спасобіліся і выкралі з вузельчыка запалкі.

Жаданне ўзрасло і зачаравала іх цалкам, як быццам бы адзінае на свеце.

— Зробім вогнішча, як трэба.

Захоплена замітусіліся, засаплі. Як толькі ўсё падрыхтавалі, яшчэ раз абмяняліся паглядамі і нарэшце падпалілі.

Агеньчык успыхнуў і пачаў хутка расці. Хлопцы ўзрадаваліся, сталі падкідваць паперу, смецце.

Дзьмухнуў скразняк — і полымя шуганула ўбок, захапіла рэшткі леташняга сена. Іскры паляцелі ўгору і кранулі саламяную страху, якая адразу загарэлася.

Пракуднікі гэтага не чакалі, жвава ўскочылі і кінуліся тушыць, але агонь усё больш смялеў і прагна жарляў усё запар. Яны перапалохаліся, сцямілі, што не зладзяць з ім, і, не змаўляючыся, скокнулі з гары ўніз ды далі драпака.

Быў спякотны летні дзень, і хата згарэла, як знічка.

**9**

У апошні час Альгерд больш хваліў, чым ушчуваў — гэта акрыляла, але Кастусь ведаў, што да патрэбнай дасканаласці яму яшчэ далёка.

— А хто яе вымяраў? Каму гаварылі: досыць, ты ўжо дасканалы, хопіць развівацца? Ці ёсць такая дастатковасць альбо мяжа? — часам настаўнік закідваў рытарычнымі пытаннямі — і гэта, відавочна, яму падабалася. — Ніколі такога не было і не будзе. Дасканаласць — Велічная і Патрабавальная Сіла. Яна не мае ні вымярэнняў, ні прыпынкаў, пачынаецца і заканчваецца БОГАМ, ахоплівае ўвесь Сусвет і выбірае стварэнні толькі па заслугах. Колькі напрацаваў — столькі і атрымлівай. Так што, Кастусь, не спыняйся, дзейнічай.

Кастусь даўно ўцееў, што Рух — галоўная ўласцівасць Жыцця, і спакваля спасцігаў яго законы.

На дзіва, сутыкнуўся з вялікімі аблуднасцямі.

Так, людзі заўсёды лічылі, што ісці-імчаць фізічным целам, існуючай матэрыяльнасцю значна цяжэй, чым пачуццямі, думкамі, духам. У запраўднасці атрымалася наадварот. Ён упэўніўся ў гэтым, калі глыбей зазірнуў унутр сябе.

Усё існае вынікае паводле Касмічнай Волі, развіваецца-вырастае ў канкрэтным, уласцівым для сябе асяроддзі. Для прадметаў і ўсяго, што ходзіць, плавае, лётае, гэта — наша планета: любы фізічны высілак — і адбываецца рух. Здаўна непахіснаю існуе ўсеагульная перакананасць, што прытулкам для эмоцыяў, мысляванняў, памкненняў з'яўляецца таксама Зямля. Але гэта — абмыл і абмах.

Кожны без выключэння ведае, што ў зямной рэальнасці ніводзін лятунак і ніводнае жаданне, не гаворачы ўжо пра душэўныя мроі, не ажыццяўляюцца хутка, увачавідкі, адным дыхам. Трэба доўга працаваць, прыкладваць шмат намаганняў,

каб увасобіць іх у нашай рэчаіснасці. Але многія ўсё адно не паддаюцца і не здзяйсняюцца.

— Чаму?

— Таму што яны прыналежаць да іншых сфер. Мы памыляемся, лічачы іх сваім спараджэннем і ўласнасцю, і нават не задумваемся, што самі — усяго толькі механізм, які шукае-ўлоўлівае іх у Сусвеце і па-свойму трансфарміруе-транслюе. Больш набывае той, у каго лепшая сістэма і вышэйшыя здольнасці.

— Гэта значыць, талент.

— Так.

— А калі яго няма?

— Ён ёсць у кожнага, інакш не было б жыцця. Усё залежыць ад таго, як ім карыстацца. Мы практычна спажываем мізэрную частку таго, што прапануе Космас. З гэтага акіяна бяром толькі кроплі. Калі пастараемся — можам і болей, але як бы не высільваліся, ніколі яго не вычарпаем.

Кастусь не мог уявіць такую неабсяжнасць і сябе ў якасці прыймача. Ён зніякавеў і засумаваў, адчуўшы сваё вельмі дробнае значэнне ў Сусвеце.

— Не адчайвайся, — падбадзёрваў Альгерд. — Адно тое, што ты гэта ўсведамляеш, адкрывае твае магчымасці. Не трэба нікога вінаваціць і вышукваць крыўдніка. Паратунак не звонку, а ўнутры цябе. Сярод іншых істот чалавек вылучаецца ўжо тым, што здатны гэта зразумець і нешта зрабіць.

Настаўнік, чаму б ні навучаў, усё зводзіў да аднаго — шукаць пачатак і канец у сабе. Такі кірунак здаваўся нявартым, другарадным і не тлумачыў усяе прычыннасці. Кастусь успрымаў яго толькі як этап, метад у засваенні чагосьці больш важнага і значнага.

Калі ты самахоць пра нешта мазгуеш і дзееш альбо залюбадружна з усімі жывеш, — гэта сапраўды тваё, а калі цябе змушаюць да чагосьці, сіламоц прапануюць і ні стуль, ні ссюль зневажаюць — ні ў якім разе. Прыродныя з'явы — спякота і цеплыня, сцюжа і холад, вецер і бура, маланка і гром, дождж і снег, паводкі і землятрусы — таксама аніяк не дапасуюць да людзей. А зорная прастрань? Хіба яе можна апраўдаць чалавекам?

— Ёсць блізкая і далёкая абумоўленасць, — нібы адгадваў думкі Альгерд і падказваў: — Не асэнсаваўшы аднае, не дабярэшся да другой. Раю пачаць з самага простага — з таго, што побач.

А што побач?

Тыя ж ложак, стол, крэслы…

Безумоўна, самі па сабе яны не ўзніклі. Іх стварылі. З адзінаю мэтаю — задавальняць фізіку чалавечага цела. І так удала прыстасавалі да паўсядзённага побыту, што іх прымячаюць толькі за адсутнасцю. Зараз яны слугуюць Кастусю і дасюль нічым яго не турбавалі, няблага выконваючы ўтылітарную ролю. І вось упершыню ён паспрабаваў зірнуць на іх як на неадушаўлёныя прадметы, і яму адразу стала пацешна: як у казцы.

Асацыяцыі вярнулі ў маленства.

## 10

Калі ён гарцаў па хаце, ускокваў на ложак, перакульваў лаўкі і нешта ламаў, дзядуля, якому даручалі за ім нагляд, заўсёды мякка ўшчуваў яго і быццам замаўляў:

— Але ж і галуза ты! Які вэрхал нарабіў! Навошта крыўдзіш мэблю? Ёй жа таксама баліць, як і табе. Вось пачакай: яна адпомсціць. Нельга так. Папрасі ў яе даравання.

Хлопчык глядзеў на старога з недаверам і смяяўся:

— Не буду! Гэта ж дошка, — штурхаў нагою разлезлы ўслончык і выбягаў на двор.

А як паправілі ўслончык і Кастусь прысеў на яго, той нечакана рыпнуў і балюча ўшчыкнуў.

**11**

Затое якое раздолле было на лузе! Хацелася ўсё абняць і прытуліць альбо расцячыся да бясконцасці.

Тут дзядуля яго не стрымліваў, наадварот, накіроўваў і падказваў.

І Кастусь лашчыўся ў траве, удыхаў пах красак, захапляўся гульнёю матылькоў і казельчыкаў, трымцеў нутром ва ўнісон стракатанню конікаў. Як ні прынікаў ён да зямлі і ні цікаваў, але так і не змог убачыць тайніцу нараджэння гэтай чароўнай мелодыі.

— Галоўнае, што ты яе адчуў, — суцяшаў дзед і вёў далей.

За пагоркам затарахцеў трактар і ўміг адабраў усё хараство.

Вялізнымі коламі ён таптаў луг, пакідаючы за сабой чорную паласу.

**12**

Іншым разам лавілі рыбу і так захапіліся, што не прыкмецілі, як наляцеў страшны віхор.

Чарот, панікаючы, узрушыўся, зашумеў. Узняліся хвалі.

Старэнькая лодка ўмомант нахілілася і зачэрпнула шмат вады. Рыбакі ледзьве не кульнуліся ў возера, хуценька замахалі карцамі, але марна: пасудзіна ўсё адно апускалася.

Унук плаваць не ўмеў і спалохаўся.

Дзед адразу ж загадаў:

— Косцік, выкідвай усё за борт. Я лезу ў ваду. Ты — за мной. Не хвалюйся: я падтрымліваю. За мяне не хапайся, рукой бярыся за лодку, як я: яна не патоне.

— Ну, даражэнькая, не падвядзі, — узмаліўся ён і павольна стаў грэбці правіцаю, назіраючы за Кастусём і лодкаю.

А калі апынуліся на беразе, ласкава паляпаў яе па боку:

— Вялікі дзякуй, ратаўніца.

**13**

Успаміны адцягвалі і блыталі. Розум налыгваў іх па нейкіх правілах і немаведама для чаго. Ва ўсякім разе Кастусь пакуль не меў намеру ў гэтым разбірацца, бо галоўнае было — засяродзіцца.

Настаўнік звяртаў вялікую ўвагу на гэты стан і неаднаразова падкрэсліваў, што без яго няма поспеху.

«Сканцэнтравацца і пранікнуць у сутнасць прадметаў.

Апантанаю думкаю распіхнуць іх навалу.

Знайсці-спыніцца на абраным і ўзрадавацца.

Аблашчыць і пагушкаць яго, як дзіця.

Загарэцца духам ад ягонае ўсмешкі.

І зліцца.

Вось тады на пагляд выплыве сусвет прадмету.

Прадзівам з’явяцца яго зорныя і энергетычныя сістэмы.

Увачавідкі паўстане неверагоднае, размаітае жыццё.

Расхінецца тайна і сэнсам ускалыхне тваю душу.

Разумей яго, валодай ім і ў згодзе дзей-пераўтварай».

Гэты запавет-малітва гучаў у галаве і павінны быў вабіць-узбуджаць нутро, але нічога такога не адбывалася.

Як ні думаў пра крэсла і як ні адштурхваў іншую мэблю, яго па-ранейшаму атачаў звыклы інтэр’ер і нічога іншага не праяўлялася.

Толькі раз-пораз ссоўвалася-вагалася ад доўгага напружання вачэй зрокавая перспектыва, і тады прадметы нібыта ажывалі, рухаліся альбо ахутваліся марывам.

Нарэшце ён змарыўся, змяк і ўнурыўся.

«Стомленасць ад недасканаласці, бяздзейнасці духу».

Падступіла прыкрасць і прыцягнула сумнеў.

Кастусь быў не адзін, да каго гэтым часам наведалася журба. Яна зазірнула разам з роспаччу і нават злосцю ў кожны пакой, дзе спрабавалі медытаваць вучні.

**14**

— Чаму я нарадзіўся акурат у гэтым месцы?

— Тут твае бацькі, радня.

— А яны?

— Таксама, як і ты: па продках.

— А з каго ўсё пачыналася?

— Гэтага я не ведаю і ніхто табе не скажа. Пэўна адно: хтосьці першым прыйшоў у тутэйшыя лясы, а за ім пацягнуліся цераз вякі ўсе мы.

— Значыць, усё залежала ад яго: як ён вырашыў, такімі мы і сталі.

— Не ўсё так проста, унук. Лёс складаны, загадкавы, і не адным чалавекам тчэцца. Можа, усе мы загадзя дамовіліся нейкім чынам дзейнічаць і кагосьці адправілі першым, а мо **нехта ці нешта** загадалі нам зрабіць менавіта **гэтак**, а не інакш. У любым выпадку — сваю долю мы заслужылі. Спадчыннасць — вялікі сэнс жыцця, на ёй многае трымаецца, толькі невядома, хто, што і як аддае альбо забірае.

— Так атрымліваецца ўсё — па родзе?

— Пераважна.

— А калі мне гэта не падабаецца?

— Менавіта што?

— Ну, напрыклад, араць альбо жывёл гадаваць?

— Прыйдзецца.

— Чаму?

— Ты жывеш на зямлі і пра яе павінен дбаць — такі парадак.

— І абавязкова петавацца, аўрэць і кажанець?

— Іначай нельга.

— А розумам працаваць?

— Не для зямлі.

— Я не жадаю так!

— Гардун. Цябе прымусяць.

— Я буду супараваць і змагацца!

— Усё роўна **ён** цябе адолее.

— Хто?

— **Голад**. Яго з людзей яшчэ ніхто не падужаў і не пераджыў.

**15**

Звычайна пасля заняткаў яны шумнаю гурмою вывальваліся на двор, каб пазабаўляцца апукай ці проста адцягнуцца, а сёння выйшлі па адным спакойнымі, задуменнымі і да гульні не рваліся.

Многія яўна пазбягалі зносін, адводзілі вочы, спадылба і скоса зыркалі па баках.

— Ну, як першы блін? — парушыў маўчанне Джордж і гарэзліва крутнуўся на месцы.

— Лепш было б аддаць сабаку, — таксама не вытрымаў Жак і міжволі сцепануўся.

— На жаль, усе доследы мы праводзім толькі на сабе, — ці жартам, ці насур’ёз адзначыў Генрых.

— У нашым выпадку так карысней, — заўважыў Аляксандр і, пацягнуўшыся, стаў размінацца.

— Мала часу, — няведама што вызначыў Андрэй і ўздыхнуў.

— А мне спадабалася, — іншай танальнасцю звярнуў на сябе ўвагу Мікаэль.

— Што менавіта? — спытаў Барыс.

— Усё, — адказаў той і, адчуваючы няпэўнасць сітуацыі, удакладніў: — Асабліва відзені.

Вакол яго ўмомант утварылася кола здзіўлення. Пасыпаліся пытанні.

— Як у цябе гэта атрымалася?

— Які прадмет выбраў?

— Ты прасякнуў?

— Разгледзеў яго?

— Што там унутры?

Ахмад нецярпліва пхнуў Мікаэля ўбок:

— Распавядай падрабязней.

Той сумеўся, паціснуў плячыма і чамусьці стаў абараняцца, як вінаваты:

— Гэта інтымнае, пра яго звычайна не гавораць…

Юнакі абурыліся.

— Не дуры галаву!

— Тут усе свае.

— Знайшоў тайну!

— Скнара!

— Крыўднік!

Мікаэль яшчэ больш збянтэжыўся і, каб не злаваць сябрукоў, урэшце прызнаўся:

— Я сасніў… прыгожы секс з дзяўчынаю…

Выбух рогату страсянуў двор. У вокнах школы замільгацелі цікаўныя твары.

— Вось дык цудасей! — заходзіўся ад смеху Жак.

— Хвала святой прастаце! — тураваў яму Замба.

— Ну, як красачка? — бліснуў зрэнкамі Ахмад.

— Валяй далей! — бесцырымонна патрабаваў Аляксандр, і многія весела яго падтрымалі.

Узрушаны Мікаэль спярша няўцямна лыпаў зеркамі, а пасля скмеціў, у чым справа, надзьмуўся і спехам пакінуў гурт.

— Мы яго пакрыўдзілі, — са шкадаваннем прамовіў Раджыў, гледзячы яму ўслед.

— Так, але не наўмысля, няўзнач, — за ўсіх апраўдваўся Замба.

Весялосць сышла, надарыўшы кожнага палёгкаю. Ад ранейшага напружання не засталося і следу. Нутром усе дзякавалі за гэта Мікаэлю і прасяклі да яго шчырасцю.

— Я паклічу яго, — радасна выгукнуў Лао і паімчаў у вучэльню.

Не змаўляючыся, шкаляры разам кінуліся да мячыка.

**16**

Яшчэ не загарэўся ўсход, а яны ўжо былі на нагах і збівалі золкую расу.

— Куды мы так рана, дзеду? — пытаў Косцік, трушком паспяваючы за старым.

— Надабе, унучак, — заклапочана адказваў той і наўздзіў борзда дыбаў па сцежцы. — Не заспеем палясоўшчыка дома — ён аддасць галу каму хаця, і мы застанемся без сена.

Косцік разумеў, але яго палохала чорная сцяна лесу і ён не хацеў туды. А раптам выскачыць воўк? Колькі разоў ён чуў пра такое! Ён жа не кіне дзеда і не ўцячэ! Будзе змагацца! Нават цяжка ўявіць, што адбудзецца! Няўжо за дзіцём лесніка абавязкова трэба прыглядваць, пакуль дарослыя будуць швэндацца? Што з ім здарыцца? Ён жа ў хаце!

Лес набліжаўся, пакрысе праступалі цёмныя абрысы хмызняку і дрэў, між якімі, здавалася, варушыліся цені.

Хлопчык адводзіў вочы і адчуваў, як пульсуюць скроні.

Неба ўсё больш ірдзела і раскідвала барву па ўсім наваколлі. Шэры гушчар з удзячнасцю прымаў гэтую **мілату** і спакваля расхінаўся разнастайнымі фарбамі і гукамі.

Косцік прыкмячаў змены і радаваўся. Чым больш святлела пушча, тым суцешней было ягонай душы. Страх саступаў месца замілаванню і пяшчоце.

Яны ўвайшлі ў лес з першымі промнямі сонца.

Хлопчык уздыхнуў і ад захаплення ўсміхнуўся. Ён яшчэ ніколі не быў сведкам такога казачнага абуджэння і ранішняй цнатлівасці прыроды. Якімі цудоўнымі і незлічонымі праявамі яна дэманстравала сваю радасць ад новага дня і жаданне жыць! Ніякае нуды і млявасці. Адно шчасце!

**17**

Нарэшце крэсла вынікла з шэрагу мэблі і паплыло насустрач.

Нешта ў грудзях ёкнула і захвалявалася.

Кастусь не ведаў, які метад спрацаваў: альбо ён павялічыў прадмет, альбо сам паменшыўся да мікраскапічных памераў, як гэта раіў настаўнік.

Рух распачаўся і захапіў.

Нечакана з'явіўся жах магчымага сутыкнення — і Кастусь інстынктыўна сцяўся, пачаў адхіляцца і тармазіць. Але ў свядомасці пстрыкнула: абараняйся!

Тут жа ўспыхнуў здогад — і ён, асенены, усім сваім іством выпаліў:

«Ведаю!»

У паветры на імгненне выніклі пранізлівыя вочы настаўніка.

І цуд: хлопец не трэснуўся аб крэсла, а толькі здрыгануўся ад зыркага пошугу святла і адчуў, як бязбольна рассякае абалонку прадмета і нырае ў невядомы свет.

Барыс тут жа трапіў ў гушчыню светлых і цёмных промняў, якія прашывалі прастору ў розных накірунках і дзе-нідзе мелі выгібы альбо разрывы. У ёй блукалі, нібы шукаючы выйсця, бліскучыя целы розных памераў і колераў. Яны натыкаліся на

промні і ўспыхвалі, пасля чаго адны выбіралі іншы напрамак; другія затрымліваліся і ад гэтага рабіліся падобнымі на праткнёныя стрэламі кулі; трэція, чырванеючы ад напружання, рабілі прагалы і працягвалі прамы рух.

Былі і такія, што ўляталі знадворку, неслі з сабою жах і разбуралі ўсё на сваім шляху, аж пакуль не гублялі энерцыі і не супакойваліся, захоўваючы вакол сябе знішчальнае поле, якое бязлітасна ганодала кожнага, хто да яго набліжаўся.

Уражаны і асцярожны, Барыс не адважваўся на спатычку альбо блізкасць з якім-небудзь аб'ектам і ўвесь час збочваў.

Лао ўстурбаваўся і затармазіў.

Ён адчуваў бесперапыннае манатоннае гудзенне і нейкія трывожныя імпульсы, але не быў упэўнены, адкуль яны ідуць: знутры альбо звонку.

Успыхнуў намер вярнуцца, а за ім і жах: як?

Затое Аляксандр чмурэў ад відовішча і прагнуў непасрэдных кантактаў. Ён столькі замаўляў гэты момант, так утрапёна рыхтаваўся да яго, што, дасягнуўшы мэты, хацеў зведаць усё напоўніцу, з максімальнай карысцю для сябе.

Не паспеўшы асвойтацца, юнак на радасцях спехам рынуў за адчуваннямі.

Ледзь крануў зіготкую галу — тая спынілася, заззяла ярчэй і, як толькі дотык прапаў, стала ранейшай. Калі ж прыклаўся да яе шчыльней і падштурхнуў у іншы бок, яна, не губляючы набытай зыркасці, паімчала шпарчэй.

Гэтак жа Аляксандр памкнуўся змяніць кірунак аднаго, двух промняў — і яны заблісакцелі па-новаму, даўшы больш прасторы галам.

Андрэй разышоўся і моцна выцяў па кулі. Тая скаланулася, пачырванела і паляцела, як віхор, узварушваючы і раскідваючы атачэнне. Узнікла жудасная мітульга, у якой ніхто ні на кога не зважаў і тым самым пагражаў усім.

Малойца напачатку цешыла такая блытаніна, а потым, як з'явіліся ахвяры, замаркоціла.

Генрых таксама эксперыментаваў, але стрымана, з роздумам.

Промні яму нагадвалі нешта структурнае, канструкцыйнае. Затое бліскаўкі, як ні круціў іх і як ні ўглядаўся, нічым не выдавалі сваё прызначэнне. Загадкавай была і шэрая прастора, якая гэтакай уяўлялася толькі на першы погляд. Паводле больш дэталёвага разгляду яна пакідала ўражанне эфірнага асяроддзя, шчыльна запоўненага вельмі дробнымі жывымі стварэннямі, многія з якіх відавочна перашкаджалі і запавольвалі рух.

Жак адчуваў іхнюю цікавасць да сябе: яны праціналі яго імпульсамі, дакраналіся і нават казыталі-паскубвалі, быццам прабавалі. Калі ён рэзка торгаўся ці плыў рыўкамі, тады яны балюча джалілі роем, а як толькі сціхаў — атаку перапынялі.

Хлопец асадзіў сябе, паспрабаваў прыстасоўвацца і манеўраваць, але невядомасць і рызыка ўзбуджалі, вабілі, прыспешвалі — і нябачныя істоты не адставалі.

Адкараскацца ад іх было немагчыма. Мікаэль махаў рукамі і стукаў нагамі, трос галавою, выгінаўся, запрагаў думкі, але яны толькі прырасталі колькасцю і яшчэ люцей яго мучылі. Збоку гэта нагадвала танец звар'яцелага.

У нейкі момант ён адчуў палёгку, а затым і наогул спад пакут.

Здзіўленне, якое не праходзіла ад самага пачатку вандроўкі, павялічылася.

Ахмад узрадаваўся: нарэшце гэтая поскудзь адстала. Яна раздражняла і гнявіла яго, пазбаўляла асалоды ад прыгод.

Не паглыбляючыся ў прычыны і трапечучы ад хвалявання, ён абхапіў галу і пайшоў на таран.

Джордж схамянуўся, агледзеўся і раптам убачыў катастрофу.

Ускудлачаная барвовая куля ўварвалася ўнутр і імкліва разразала прастору, вынішчаючы ўсё на сваім шляху. Буйныя целы ўміг выбухалі, палымнелі і разляталіся ўбакі агнявымі аскалёпкамі, дробныя — шарахцелі, поршчалі ды іскрыліся.

Ён жахнуўся і застыг, калі нечакана заўважыў сваіх крыўднікаў, а дакладней — іхнюю смерць. Яна паўставала як яркая светлавая паласа, што заставалася пасля няпрошанай госці — агрэсіўнай кулі.

Замбу прасякла сучуцце — і да яго дайшло, што невядомыя асобіны пасля выяўлення любой небяспекі заўсёды дружна кідаюцца на яе ліквідацыю і самааддана гінуць. Нейкая таямнічая, але адчувальная сіла кіравала імі, змушала менавіта да такіх паводзін, не даючы аніякае альтэрнатывы.

Нават калі гала спынілася і ўжо нікому не пагражала, яны ўсё адно працягвалі на яе нападаць. Ад гэтага тая ўздрыгвала і раз-пораз мяняла афарбоўку.

Раджыў ведаў, што ўсё рана ці позна знікае і памірае, а хто ў дадзеным выпадку будзе першым — вырашаў Час. Чакаць яму не хацелася. Навошта? Наперадзе столькі цікавага! Паспець бы!

Ён рушыў далей, прагна паглынаючы ўсё бачанае, адчутае і ўсведамляючы канцовасць гэтай прасторы і часу.

Зноў паласнуў светлавы разрад — і Кастусь неспадзеўкі, у адзін міг выскачыў вонкі. Крэсла імкліва аддалілася і набыло ранейшы выгляд.

Уражаны і сцерхлы[1], ён ляжаў побач не ў стане адвесці ад яго вачэй.

Розум амяжыўся, ніяк не мог агоўтацца і выдаваў толькі банальныя высновы накшталт такіх, як «гэта быў сон», «галюцынацыі», «поблуд»[2]. А калі адаптаваўся і перамалоў доймы, то праказаўся арыгінальнымі, дасюль неспасціжнымі падыходамі.

З навакольнага асяроддзя нібыта **спала смуга** — і ўсё наскрозь праяснілася.

Кастусь убачыў прадметы без абалонкі, нібы распранутымі і мог назіраць іхняе актыўнае ўнутранае жыццё. Крэслы, якія дагэтуль здаваліся статычнымі і аднолькавымі, між сабою адрозніваліся структураю, колерам, памерамі і жвавасцю складовых часцін. Ніводзін сюжэт не паўтараўся. Кожны развіваўся своеасабліва, цікава і захапляў. Але адразу спасцігнуць сакрэт такое адметнасці Кастусь не здолеў, хоць і адчуваў ягоную ўсюдыіснасць.

Ён пачаў кранаць, рухаць мэблю, садзіцца на яе і тут жа прыкмеціў, як яна рэагавала на пабочныя ўздзеянні: не толькі звыкла прагіналася і рыпела, але і ліхаманкава перабудоўвалася нутром. Чым даўжэй і мацней заставаўся кантакт, тым драматычней былі пертурбацыі. Некаторыя змяненні захоўваліся і пасля: дзе-нідзе групаваліся ў пярэстыя калматыя формы, у асобных месцах такія непрыгожыя, брыдкія і застойныя, што выклікалі жудасць.

[1] Сцерхлы — здранцвелы.

[2] Поблуд — ашаламленне, морак розуму.

«Сімптом тлену навідавоку», — здагадаўся юнак і міжволі сцепануўся.

Надосталь згодліва і няўхільна сталі праступаць, высвечваць размаітыя энергетычныя зарады, пакінутыя некалі творцамі, уладальнікамі і карыстальнікамі крэслаў, кожны з якіх, безумоўна, быў непадобны да іншых і меў адмысловы густ. Узерыўшыся, у мітусяніне можна было адрозніць вобразы асоб і падзей, заўважыць віхурыстыя плыні часу і прасторы.

Перад паглядам паўставаў адзін з незлічоных варыянтаў гісторыі, якая адлюстроўвалася і захоўвалася прадметамі. Сягаючы цераз тленнасць і мінучасць матэрыі, яна нікуды не знікала, пераходзіла ў попел, дым, паветра, зорную неабсяжнасць, узбагачалася і заставалася заўсёды яснай, усёдасяжнай. Але прачытаць яе можна было толькі ведаючы ўніверсальную касмічную мову, на якой трымаўся і зносіўся ўвесь існы свет.

Кастусь толькі наблізіўся да гэтай дзіўнай мовы, адчуў яе першы чароўны подых — і радасць абняла яго.

Ён натхнёна зірнуў навокал і бліснуў зеначкамі, ладна дадаўшы да сэрца нязгаснага агню.

**18**

— Як вучні, Альгерд?

— Увогуле здольныя, увішныя, вашая імасць, але першыя крокі цяжкія, не ўсё атрымліваецца, дый некаторым трэба надаваць больш увагі.

— Ці гуртуюцца?

— Так. Няўжыўчывых і ганарлівых вярнулі дадому, а пазасталыя адно да аднаго прыслухоўваюцца, цягнуцца.

— Лідары вымалёўваюцца?

— Рана яшчэ.

— Звадкі няма?

— Не назіраў.

— Няхай так будзе і надалей. Але практыка, на жаль, паказвае, што па меры набыцця розуму шкаляры адасабляюцца, таемнічаюць, канфліктуюць.

— Яны пастаянна перада мною, як на далоні, і ўсе мы, настаўнікі, працуем над іхняй свядомасцю, вашая імасць.

— Смялей ужывайце эксперыменты, новыя падыходы, не стрымлівайце іх індывідуальнасць. Мы павінны бачыць і распальваць усе здольнасці нашых выхаванцаў, ведаць, што атрымаецца з кожнага. Нікога не шкадуйце. Выбралі сабе каго?

— Прыглядваюся.

— Што вас турбуе?

— Іхняя чалавечая памяць, смутак па радзіме.

— Гэта — наш спрадвечны боль. Як нам яго пазбыцца? Я не перастаю над гэтым мысляваць.

**19**

Жыта каласавала. Маладое і стромае, яно цягнулася ўвысь і радавалася сонцу.

Косця любіў гэтую квітнеючую пару і заўсёды здзіўляўся разнастайнасці жыцця.

— Як хораша! — захапляўся ён і подскакам бег па разоры паперадзе дзеда.

Яны ішлі гародам на сенажаць, каб нарваць якой смакаты свіням.

— А тутака яшчэ лепш! — смяяўся хлопчык і куляўся ў траве.

— Дзядуля, а чаго тут не расце жыта і гароднiна?
— Нiхто не пасадзiў.
— А самi па сабе, як вось гэная трава, яны не могуць?
— Не.
— Чаму? — не адставаў унук.
— Таму што такiх, нiбыта культурных, раслiн у прыродзе нямашака. Iх прыдумаў чалавек альбо, хутчэй за ўсё, **хтось** даў яму. За iмi надабе догляд. Без яго яны не родзяць. Во, дзiвiся! — стары паказаў рукою на вялiкi лапiк зямлi, якi раней апрацоўваўся, а цяпер быў у запусценнi. Быльнёг i iншае пустазалле раскашавалi тут на ўсю моц. — Такое адбываецца заўсёды, калi чалавек пакiдае агарод. Зямля не можа вынесцi здзекаў, злуе, бунтуе i плодзiць чорт ведама што. Гэткай мярэчы на лузе нiколi не бывае, што б там нi расло.

**20**

Шкаляры зноўку абудзiлi двор нясцiхным гоманам.
Вокны заяскравiлiся ўцешнымi позiркамi. У адным з iх Кастусь пазнаў Альгерда.
— Я не зглуздзiў? — Аляксандр агаломшана ўцемiўся на сябрукоў i, стрэўшы такiя ж iхнiя вочы, прыскокнуў ды спрытна кульнуўся.
— Ёсць ад чаго, — няўрымслiва вярцеўся Джордж.
— Чараўнiцтва! — не хаваў здзiўлення Барыс.
— Сапраўдны сон, — з усмешкай, двухсэнсоўна вымавiў Мiкаэль, i ўсе дружна зарагаталi.
— У мяне аканчальна прапала жаданне вярнуцца дадому, — няўзнак выдаў сваю тайну Замба.
— А яно ў цябе было? — здзiвiўся Генрых, збянтэжыўшы не толькi аднаго яго.
— Так, невялiчкае, — Замба шчыра прадэманстраваў пальцамi свой адказ i нанова ўзняў смех.
— Гэты стан прыцягвае i не адпускае, — дзялiўся ўражаннямi Кастусь. — Столькi новага i незвычайнага!
— Мяне захапiў палёт, але ўвесь час перашкаджалi кузуркi, пранцы б iх з’елi, — выказаў сваю незадаволенасць Жак.
— Такая назола i брыдота! — гiдлiва заўважыў Мiкаэль.
— Яны агрэсiўныя i дужа сур’ёзныя, — як знаток адзначыў Андрэй. — Не ведаюць жартаў i гульнi. А такiх я не люблю.
— Мне таксама не спадабалася, — падтрымаў яго Лао. — Нават здалося, што там небяспечна.
— Спачатку штосьцi насцярожвала, а затым я абвык, — не без гонару сказаў Кастусь.
— Я баяўся, што яны мяне з’ядуць, — прызнаўся Мiкаэль i адчуў, што заслужыў яшчэ большую да сябе прыхiльнасць.
— З iмi трэба па-добраму, без пагроз, — параiў Замба.
— Хто пра гэта думаў?! — раздражняльна секануў Аляксандр.
— Так, мы ўварвалiся, як ураган, страсянутыя, неспрактыкаваныя, непрывабныя i адразу выклiкалi падазрэнне, — патлумачыў Генрых. — Хто такiх прывецiць?
— Чаму я павiнен лiчыцца з нейкiмi дзеравякамi? — абурыўся Андрэй. — Што хачу, тое i раблю.
— А ў мяне была жалязяка, — нiбы пахвалiўся Раджыў.
— У мяне яблык, — зыркнуў па баках Барыс.

Многія таксама паведамілі, з якімі рэчамі эксперыментавалі, і стала зразумела, што аднолькавых было мала.

— Нічога. Мы ўсё паспрабуем. Гэта толькі пачатак, — важна падагуліў Джордж. — Што наперадзе — аж дых перахапляе!

— Нават цяжка ўявіць, дзе мы можам апынуцца, — летуценіў Жак.

— У дупе, — знянацку прагучала збоку, і ўсе здзіўлена павярнуліся.

Да гурмы падышлі трое на чале з Ахмадам. Толькі цяпер усе заўважылі, што тыя адсутнічалі.

Сустрэчы ніхто не ўзрадаваўся.

Выгляд у троіцы быў неважнецкі: бруднае адзенне, злыя, пакутныя твары.

— Што здарылася? — хацеў спытаць кожны, але першым выгукнуў Аляксандр.

— Бачу, вы ўжо тукам пацяклі ад жару, ціўкаеце пра будучыню, — не зважаючы на яго, здзекліва прамовіў Ахмад. — Мабыць, адчуваеце сябе героямі?

Маўчанне толькі падкрэслівала агульную збянтэжанасць і падахвочвала канашоў.

— Адзін раз пырхнулі і думаеце, што свет абляцелі? — працягваў Ахмад, і ўсе трое з’едліва ўсміхнуліся. — Размах шырокі, ды палёт недалёкі. Няўжо ніхто не ўпаў, не разбіў лоб, не атрымаў па карку куляй, не заблукаў і не заблытаўся ў сетцы, не страціў прытомнасць і не захраснуў? І ніхто нікога не забіў?

Ён пранізліва ўглядваўся ў кожнага — і некаторыя не вытрымлівалі, прысаромлена зіркалі долу.

— Чаго ты ўскіпеў і варызгаеш глупствы? — абурыўся Джордж. — Кожны з нас адкрыта распавёў, як вандраваў у прадметах. Ува ўсіх нарэшце атрымалася, хоць уражанні і розныя. Але ніхто нікога не абвінавачваў і не крыўдзіў. Супакойцеся. Як у вас сталася? Былі праблемы?

— Хапала, — неахвотна, але спакайней адказаў Ахмад. — Калі б не настаўнік, дык я б застаўся там назаўсёды.

Гурт адным уздыхам гучна ахнуў. Ніхто нават і блізка не думаў, што такое можа здарыцца. Усе былі перакананы ў адсутнасці, неіснаванні такога жаху і хоць якіх-небудзь варункаў для яго.

— Мы трапілі ў чужое асяроддзе. Нас там не чакаюць і не любяць, — строга і павучальна заявіў Ахмад. — Адразу пасля ўваходу мяне атакавалі, хоць я яшчэ нічога не паспеў зрабіць. Пачаў абараняцца, як мог, а яны, гады, толькі ўзмацнялі наступ. Колькі гэта працягвалася — не ведаю. Але ў нейкі момант мне стала дрэнна — і я ачуўся ў сваім пакоі на падлозе. Балела галава. Побач быў настаўнік. Ён уважліва паглядзеў на мяне — боль адступіў, і я зразумеў, што адбылося.

— Увогуле, хто памятае, як выглядаў там і пасля? — узбуджана спытаў Андрэй, спуджваючы агульную няёмкасць. — Я дык не.

Ніхто не адказаў сцвярджальна. Кожны з цікавасцю, нібы ўпершыню, спярша агледзеў сябе, а затым іншых.

— А як вяртаўся назад? — не сунімаўся Андрэй.

Адгукнуліся толькі некалькі чалавек.

— Я падумаў пра вяртанне — і яно тут жа адбылося, — патлумачыў свой варыянт Аляксандр, разлічваючы пачуць іншыя.

— Мяне быццам штосьці выпіхнула, — у задуменні вымавіў Генрых.

— А я не хацеў вяртацца, — спавесціў Раджыў. — Было вялікае жаданне расцягнуць цудоўны палёт. Па шчырасці, я ўшалопіў, дзе быў, толькі калі нанова апынуўся ў пакоі.

**21**

— Малайчыны! — хваліў вучняў настаўнік палестры Геракл. — Адна любата з вамі займацца. Усіх бы вас на Зямлю — такая здатная кагорта байцоў-герояў атрымалася б — цуд дый толькі. Мы б з вамі свет перавярнулі.

Маладыя атлеты, амяжаныя ад гімнастычных практыкаванняў, сядзелі на падлозе хто як і ўнікліва слухалі Геракла. Ягоныя словы лашчылі слых і адначасова выклікалі здзіўленне: насуперак традыцыйным правілам вучэльні ён распальваў настальгію па радзіме і рабіў гэта нават рамантычна.

— Але не расслабляйцеся, — раптам астудзіў іхняе ўзбуджэнне настаўнік. — Я не збіраюся вас баламуціць і даваць волю маркотным марам.

Ён спыніўся і праз імгненне нечакана гарэзліва спытаў:

— Якое багацце мае толькі творца?

Юнакі разгубіліся і маўчалі.

— **Веды**, — вымавіў Геракл з натхненнем. — Глыбокае веданне сваёй справы і ўсяго, што было, ёсць і будзе. Ніякая будзённая праява ды свецкая мітусяніна не адбяруць іх і не ўзрушаць мудрасці ды спакою творцы. А вы адразу паразмякалі, як толькі я словам вярнуў вас да іншай рэаліі. Ніколі не вагайцеся і беражыце сваю мэту ад усякіх пасягненняў.

Хлопцы крыху сумеліся, вінавата заварушыліся, апусцілі вочы долу.

— А як зрабіць сябе непахісным, нязломным?

Гурт маўкліва і ніякавата глядзеў на настаўніка.

— Трэба **перажываць**, — з асаблівай выразнасцю сказаў Геракл. — Глыбока, пранікліва, натхнёна. Кожную з’яву, працэс, істоту, рэч неабходна прапусціць цераз сваё сэрца, прасякнуць імі, стварыць унутры такі набор вобразаў і адчуванняў, які б у мініварыянце адлюстроўваў Сусвет і даваў правільныя веды. Не саромейцеся сваіх хваляванняў і пачуццяў, жывіце імі напоўніцу.

Вучні зноўку павесялелі і ўзбадзёрыліся.

— Чаму я вас вучу атлетыцы, моцы і прыгажосці цела? Маўляў, навошта гэта, калі мы — майстры пераўтварэнняў духам. Памятайце, калі вы не адчуеце, як вашая фізічная сіла змяняе ды акрыляе вас і пераходзіць у дух, вам ніколі не дасягнуць вышыняў праісначання. Безумоўна, дух усемагутны, але ён павінен ведаць пра рэальныя ўзоры тых вобразаў, што стварае. Чалавечае цела — Космас у мініяцюры. Развіваць і ўдасканальваць яго — значыць, спазнаваць Сусвет. Гэта толькі сярод людзей усялякія практыкаванні з целам, у тым ліку і спартыўныя, існуюць самі па сабе і цешаць адно ганарлівасць чалавека, а далей ніяк не ідуць. Нашая школа разглядае жыццё ў шчыльнай лучнасці і ўва ўзаемадзеянні асобных яго частак, вучыць суцэльнасці Космасу.

У зале зноўку загуляў настрой актыўнасці, і атлеты з ахвотаю прадоўжылі практыкаванні.

— І ўсё ж такі шкада, што мы з вамі не на Зямлі, — з захапленнем мовіў Геракл, назіраючы сваіх выхаванцаў.

**22**

Возера гуляла адлюстраваннем гор, смяялася сонечнымі блікамі і ніяк не згаджалася з Кастусём.

Як і яго сябрукі, ён сядзеў на беразе лотасам і перайначваў сябе думкамі.

«Трэба быць, кім хочаш, хацець — што можаш, а магчы — усё».

Гэты загавор круціўся ў галаве, аднак чамусьці не дзейнічаў, хоць дасюль дапамагаў. Нейкая перашкода блукала ўнутры і збівала глыбіню віру.

Кастусь нацяўся дазнацца, што гэта, напружыўся — і ўсё ж такі затрымаў вінавайцу, уважліва разглядаў яго.

**23**

У той год снег сышоў так хутка і бурна, што рэкі перапоўніліся да неверагоднасці: вада стаяла адразу за сядзібай.

Дарослыя бедавалі, а дзеці радаваліся: лепшага месца для гульні цяпер не было. Увесь дзень яны прападалі на разводдзі, дамоў цягнуліся толькі прыцемкам альбо пад прымусам.

Косцік, як самы меншы, сядзеў у хаце, праз акно назіраў за старэйшымі і зайдросціў ім.

Але аднойчы, калі бацькі былі на працы, а дзядуля драмаў ля грубкі, ён неяк адчыніў дзверы ды басанож, без цёплай вопраткі вобмельгам выскачыў на двор і, усім наўздзіў, адразу кульнуўся ў ваду.

Падлеткі разгубіліся і застылі на месцы. Толькі суседка, старшакласніца, адразу сцяміла, хутка сягнула ў рэчку і схапіла хлопчыка за ўздутую кашулю.

**24**

Памяць адсеяла гэты выпадак, затое хцівая падсвядомасць рупліва захоўвала яго, калі-нікалі падкідваючы думкам боязь вады.

Кастусь зразумеў прычыну і ўздыхнуў:

— Ведаю!

Водная стыхія нарэшце паддалася і расхінулася.

Палёт захапіў, і цікавасць узрастала.

Слых лашчыла незвычайная мелодыя.

Такія ж галы, але толькі больш празрыстыя, хаатычна вандравалі, таўхаліся, часам, групаваліся, дэманструючы запальныя танцы і вабячы да сябе іншых.

Прамянёвы каркас адсутнічаў. Затое ўсё асяроддзе было пад уладай роўнага зіхатлівага святлення, якое дзе-нідзе ўзрушвалі рознакаляровыя плямы і цені, выклікаючы рэзкія, нібы палахлівыя, рухі куляў.

Раптам раздаўся невядомы гук, і Кастуся нешта балюча тузанула ды адкінула ўбок. Не паспеў ён ачомацца, як яго скалануў новы выцень, а за ім пасыпаўся град моцных, невыносных штуршкоў.

Юнак бязрадна гайсаў, не губляючы надзеі хоць як-небудзь засяродзіцца і знайсці нейкі паратунак. Але ніякія выкруты не дапамагалі.

Калі няч**ы**віль ужо забірала яго, ён, нібыта скрозь туман, заўважыў, як стрымгалоў, то знікаючы, то з'яўляючыся нанова і, здавалася, зусім не бядуючы, разляталіся ў розныя бакі галы.

**25**

Маці паклікала адразу ад парога:

— Костусь, бяжы сюды! Зірні, якую я табе кашулю вымяняла ў швачкі.

Хлопчык мігам схапіў хусце і стаў прымяраць.

— Якраз. Ну, і добра. Цэлы кошык буракоў аддала. Да чаго людзей сквапнасць даводзіць! — здзіўлялася яна, распранаючыся.

Усе падрыхтаваліся пачуць нешта пракуднае. Маці, як заўсёды, не спяшалася, села на лаўку, уздыхнула і толькі потым распавяла:

— Каб мець да святаў хоць якія ўборы, усе пананеслі Арыне рознага харчу, і стаяць, выбіраюць, дамаўляюцца, як раптам залятае Дзямяніха: вочы гараць, у руках — сумачка.

— І ўсё? — спытаў бацька.

— Больш анічагусенькі: які сорам! І пачынае тыцкаць пальцам, што ёй трэба, прошта яна адная ў хаце. Жанкі закрычалі. Яна агрызнулася і свайго не кідае. Тады яе сталі адцягваць убок. І вось тут гэтая шалудзька расшпільвае сумачку, вымае адтуль нейкія каляровыя паперкі і працягвае іх Арыне. Тая, дагэтуль абыякавая, адразу змяняецца ў твары, бярэ іх і, відаць, нездарма вучылася, лісліва прапаноўвае: «Бяры што пажадаеш, даражэнькая». Кабеты здранцвелі.

— А што гэта было? — усхваляваўся Кастусь.

Маці перавяла дых, каб з большай сілай агаломшыць усіх навіной, але свёкар яе апярэдзіў:

— Грошы.

— І скуль ты, татуня, знаўца такі, даўно хачу спытаць? — ятроўка не хавала свайго раздражнення. — Жывём у адной хаце, па адных сцежках ходзім… Што не кранеш — а ты ўжо і наперад усё ведаеш, патлумачыш, быццам час засядлаў. Як у цябе гэта атрымліваецца? Нам, цёмным, ніяк не зразумела. Няйначай прарок альбо вядзьмак! Ты яго пабольш слухай, сыне! — з’едліва секанула яна і шыбка выйшла ў сенцы. За ёю рушыў услед і бацька.

Такую маці Кастусь бачыў упершыню — і гэта ўзварушыла яго яшчэ больш. Ён падступіў да дзядулі:

— Распавядзі, што такое грошы?

— Як відаць, — скрушна прамовіў той і паглядзеў на дзверы, — зараза, якая кожнага чапляе. Я іх успрымаю па-свойму. Слухай. Грошы вынайшаў розум, які прагнуў ежы, але не жадаў гарбаціцца. Такім у нас заўжды быў Дзямян. Заўзяты дзяньгуб і прайдоха, ён усё ж такі добра кеміў і меў талань на маляванне. Менавіта дзякуючы гэтаму дзяцюк не выпрастаў ногі: гойсаў па ўсёй акрузе з пэндзлямі ды слугаваў дабрадзеям — тым і зарабляў. Аднойчы нешта цікнула ў ягонай галаве — і ён прапанаваў некаторым гаспадарам ужываць для спрашчэння таварабмену адмысловыя папяровыя замennікі, якія сам і зрабіў. Дзеля пацехі тыя згадзіліся, але, калі ў выніку пробы ідэя паказала сваю карысць, прынялі яе насур’ёз — і справа пайшла.

— Малайчына! — захапляўся ўнук.

— Канешне, — пацвердзіў стары і папярэдзіў: — Але не заўсёды з лёгкага пачатку вынікае такі ж канец. Кожны ў свой час абавязкова гэта адчуе на сабе.

— А як, дзедзечка?

— Ты і сам можаш адказаць на гэтае пытанне, калі добра засвоіш, што грошы — вялікі падман, які людзі прынялі пакорна, без супраціву, зжыліся з ім, але — самае галоўнае — такім яго не лічаць. Прыйдзе час — і кожны атрымае па адносінах да грошай. Так, я бачу, Дзямян з-за свайго апрычнага становішча і празмернай хціваcці аглуміцца і звар’яцее. Усе будуць называць іншую прычыну хваробы. Сам я таксама не бязгрэшны, прыму сваё як надабе. Памятай, той, хто хоць аднойчы патрымаў у руках грошы, ужо зазнаў спакусу.

## 26

Ён толькі хацеў разагнаць неймаверную блытаніну, што панавала ў галаве, як няўрокам у пакой уляцелі ўзбуджаныя Аляксандр, Барыс, Раджыў і мігам яе прыбралі.

— Як самаадчуванне? — замест прывітання кінуў Аляксандр.

— Што з табою адбылося? — не даў адказаць Раджыў.

— Распавядзі, — нецярпліва папрасіў Барыс, і яны прыселі ля ложка, з цікавасцю пазіраючы на Кастуся.

Ён разгублена зыркнуў на іх, не цямячы, што ім трэба, хвіліну счакаў, асэнсоўваючы сітуацыю, і толькі потым загаварыў. Павольна, удумліва, узважваючы кожнае слова і быццам камянтуючы свае ўчынкі. Аднекуль усплылі адчуванні, якіх, як яму падалося, не зведваў. Нешта буйнае і неспазнанае прылівала ў свядомасць, патрабуючы імгненнага выказвання.

Падзея паўставала ў тых вобразах і адценнях, якія вынікалі з ягонага аповеду, і ў агульных рысах была падобная да таго, што зазналі іншыя. Але ўсплёскі інтанацыі, жэстыкуляцыя, пералівы настрою, адмысловая гаворка Кастуся рабілі яе своеасаблівай, адметнай і панаднай.

Слухаючы яго, хлопцы дзівавалі і пераглядваліся.

— Тады ў вушах зазвінела, я скалануўся і стаў трымцець. Пачаў бачыць сябе адразу з усіх бакоў і ў розных праекцыях. Я быў адначасова часткаю і чымся суцэльным. Атачэнне ператваралася і памнажалася вокамгненна, набываючы неверагодна аб'ёмісты выгляд і паліфанію. Міма насіліся кулі, ашаламляльна дзяліліся, абрасталі маляўнічымі формамі і дзівосна гучалі, з ахвотаю сутыкаліся — і ўсяму гэтаму радаваліся. Мне ж чамусьці было балюча, і ва ўсіх маіх адлюстраваннях прысутнічала пакута.

— Адлюстраванні былі аднолькавыя? — насцярожана спытаў Барыс.

— Мне здавалася, што так, — задуменна адказаў Кастусь, — але кожнае займалася чымсьці сваім.

— А чаму ты лічыш, што і яны мучыліся, — зірнуў яму ў вочы Аляксандр.

— Я неяк ведаў пра гэта і не сумняваўся, — адхіснуўся ад яго Кастусь.

— Мусіць, гэта былі і не адлюстраванні, — скептычна заўважыў Раджыў, — а галюцынацыі.

— Хіба галюцынацыі бываюць у непрытомным стане? — астудзіў яго Кастусь.

Юнакі разгублена пазіралі адзін на аднога, нібы трапілі ў тупік.

— А затым, — Кастусь зноў прыцягнуў да сябе ўвагу, — нейкая сіла быццам бы ашчаперыла мяне і панесла. Галы сталі падаляцца і знікаць. Святленне ператварылася ў празрыстую вадкасць. Я ўбачыў мноства рыбін і нейкую драбязу — усе яны гарэзавалі і ўзбуджалі вакол сябе ваду. Дзіўна, але я прыкмеціў там некаторых нашых хлопцаў, якіх гэтак жа, як і мяне, несла прамётная.

— Каго менавіта? — выгукнуў Аляксандр.

Барыс павёў плячыма і крутнуўся. Раджыў скоса зыркнуў на яго.

— Не паспеў разгледзець, — Кастусь не ўдакладніў, і госці дружна ўздыхнулі. — Потым я вылецеў з возера, прамчаў цераз усе перашкоды і апынуўся тут, у ложку. Мне здалося, што ў паветры мільганулі вочы Альгерда.

— Неверагодна! — уразіўся Аляксандр.

— Фантастыка! — падтрымаў яго Барыс.

— Такога не бывае, — падвёў рысу Раджыў.

— Вы мне не верыце? — узрушыўся Кастусь. — Лічыце, што я ўсё выштукаў?

Сябрукі, блукаючы вачыма і думкамі, маўчалі.

Кастусь амаль закрычаў:

— А як у вас гэта было?

— Памятаеце, мінулым разам нешта падобнае распавядаў Марк, — нясмела нагадаў Раджыў, зірнуўшы на дзверы. — Тады яго палічылі штукаром ды чмуцілам і вярнулі да людзей.

Дзьмухнула разам спагадаю і паныласцю, але Кастусь прагнаў гэтае засмучэнне сваім гарачым дыхам:

— Я шчыра распавёў пра свае адчуванні і не парушыў галоўнага прынцыпу нашае школы — праўды. Калі гэта не адпавядае нейкім іншым патрабаванням — шкада, бо мне тут падабаецца. Адправяць назад — дужа пераживаць не буду. Я сюды не прасіўся. Ліцвінія заўсёды мяне прыме.

Нецекам[1] прагучаў мілагучны звон, пакой на імгненне дзівачна раздвоіўся і, калі набыў ранейшы выгляд, запярэсціўся неверагоднымі паветранымі малюнкамі, якія спачатку нагадвалі галаграфічныя здымкі, а пасля зрабіліся рухавымі, аж пакуль не ператварыліся ў прыгожае кіно. Агаломшаныя юнакі сумятліва зіркалі навокал, імкнучыся зразумець з'яву, якая іх літаральна паглынула. Яны бачылі вакол сябе высачэзныя дрэвы, падножжа якіх засцілаў мяккі мурог, чулі цудоўныя спевы птушак і нават прыкмецілі, як паблізу цмыгнула лісіца. Іхнія пачуцці захапляў зялёны поплаў, па якім гуляў ветрык і ўсялякія клапатлівыя вусякі. Ад замілавання аж затрымцелі сэрцы, калі назіралі блакітныя прасцягі азёраў і ляцелі над цудоўным сонечным краем.

— Гэта мая радзіма, — сумна прамовіў Кастусь, і шчымлівыя вобразы адразу прапалі.

— Прыгожая, — усхвалявана адзначыў Аляксандр.

— Нашыя не горшыя, — нібыта нагадаў Раджыў і скіраваў позірк за акно. — Радзіма заўсёды прыгожая і лепшая за ўсё іншае.

— Няма чаго журыцца, — астудзіў усіх Барыс. — Досыць вяртацца назад. Трэба ісці толькі наперад: там столькі цікавага і нязведанага.

**27**

— Верш, кажаш, напісаў. Малайчына! І як ён у цябе атрымаўся?

— Выйшаў раніцаю за котлішча, глянуў на прыроду, неба — хораша стала, і пацяклі самі сабой складныя думкі…

— Цікава. Мала хто здольны на такое натхненне.

— Я, дзедзя, буду паэтам.

— Ужо вырашыў?

— Ага!

— Цяжка давядзецца.

— Чаму?

— Не наш гэта занятак. На яго не пражывеш.

— А мне дужа хочацца.

— Разумею, таму кідаць яго не раю. Але памятай: тваё жаданне пераўзыходзіць рэальнасць — а гэта заўсёды пакутна. Трэба настроіцца і змагацца. Будзеш?

— Абавязкова!

— Тады жадаю поспехаў. Дзеля самавітасці дам параду: не пішы пра балоты і хмызнякі, як іншыя, — ты выхапіў у вышыняў свой дар не для гэтага; тваё прызначэнне — мастацкім словам абуджаць палыя душы, узвышаць іхні дух і пракладваць для іх касмічны шлях. Вер: усё атрымаецца лепшым чынам, якія б перашкоды ні сустрэліся. Са Святога Пісьма вядома, што першыя людзі на зямлі былі земляробамі і жывёлаводамі, а не паэтамі ці кімсьці іншым з творчай жылкай. Значыць, ім даручаліся пэўныя і канкрэтныя ролі, якія не прадугледжвалі здольнасцей да абстра-

[1] Нецекам — нечакана, раптоўна.

гаванняў і мысленных палётаў-пошукаў. Ад чалавека патрабавалася толькі фізічная праца. Але з цягам часу людзям надакучыла гарбець па-чорнаму, захацелася прыгажосці, гульні ў вобразы па прыкладзе багоў, таму і з'явіліся ўсялякія выдумшчыкі. Яны зрабілі шмат чаго добрага і цяпер дапамагаюць. Толькі, на жаль, лепш ад гэтага жыць не стала. Можа, наадварот — горш.

— Дык што, дзядунька: культура шкодзіць?

— Гэтак катэгарычна я б не гаварыў, бо мы ўвогуле не ведаем, дзе карысць, а дзе шкода. Адно бясспрэчна — чым больш мы мазгуем і разважаем, тым нам горай.

— А чаму так?

— Таму што людзі пасягнулі на справу багоў — а гэта самы вялікі грэх. І тут, унучак, дакладна нікому не паздаровіцца.

— Атрымліваецца, яны нам помсцяць?

— Не, вучаць жыць. Але мы — дрэнныя вучні, бо першапачаткова па сваёй прыродзе — дурні.

**28**

— Пра тое, чаму вас вучылі людзі, забудзьце, — так пачаў заняткі па гісторыі мысляр Плутарх і гэтым узрушыў шкаляроў.

Яны яшчэ не ведалі, што акунаюцца ў дзівосны свет нуменальнай[1] дойснасці[2] і праўды, што іхняя сутнасць раскрываецца аж да касмічных маштабаў.

У нейкі момант юнакоў забрала ўнутраная пустэча, зніклі думкі, пачуцці, светаўспрыманне, і толькі гучаў павучальны голас Плутарха:

— Усё пачынаецца з нябыту, калі вас яшчэ няма ў праяве, але вы ўжо ёсць у Планах ТВОРЦЫ. Час і Прастора зліваюцца, смакуюцца і з сунежным імпэтам выкідваюць вас у свет. Вы, манады[3], адчуваеце ягоную неабсяжнасць і сваю ўсюдыіснасць. Вам можна ўсё — і творчае гарэнне авалодвае вамі. Ад вас, як ад моцнага вогнішча, у незлічоным мностве адлятаюць іскрынкі, якія, несучы з сабою вечны і нязгасны вобраз Усяго Цэлага, трапляюць у розныя пласты Сусвету. Там іх чакае ступеньчатае ўвасабленне ў ментальнае, астральнае і фізічнае аблічча. Вы, як адна з іскрынак, апранаецеся ў матэрыю і рухаецеся на Зямлю. Яна няўмольна прыцягвае вас і адорвае шчасцем праісначання, безліччу пераўтварэнняў.

Словы настаўніка кранalі струны душы — і тая адгукалася даўно забытай мелодыяй, радаснай і пяшчотнай. Яна была на ўсіх адна і ўсімі ўспрымалася аднолькава. Але аднекуль, спачатку ціхенька, а потым усё званчэй, сталі даносіцца акорды, багатыя на разнастайнасць і адметнасць. Кожны юнак пачаў адчуваць ужо сваё, не падобнае да іншых, гранне.

— Калі дасюль вы ўсе былі амаль што роўныя, дык на Зямлі распачынаецца вашая **індывідуалізацыя**, дзеля якой і стварыўся Космас. Запомніце, чым больш разнастайнасці, адмысловасці, тым прыгажэйшы і больш жыццяздольны свет.

Гэтае гарачае натхненне прагнала адхіленасць шкаляроў і вярнула іх у рэчаіснасць.

— А калі ўсё аднолькавае? — спытаў Аляксандр.

— Тады спыняецца рух і разрастаецца пачварнасць. Можаце ўявіць гэты заганны працэс.

[1] Нуменальны — які пазнаецца розумам у процілегласць дадзенаму ў пачуццях (фенаменальны).

[2] Дойснасць — рэчаіснасць, сапраўднасць.

[3] Манада — першасная, непадзельная, неўміручая духоўная адзінка.

— Зусім няцяжка: на Зямлі для многіх аднолькавасць з’яўляецца правілам і ўзорам развіцця, — адзначыў Джордж і гэтым выклікаў шумную падтрымку. Яны горача і наўзахваткі сталі ўзгадваць сваё зямное жыццё, дзяліцца колішнімі ўражаннямі, нават спрачацца. Загучалі і настальгічныя ноткі.

— Людзі карыстаюцца аднымі і тымі ж прадметамі, жывуць у аднатыпных умовах, выконваюць аднастайную працу дый наогул вядуць аднолькавы вобраз жыцця.

— Як думаюць, так і жывуць.

— А мо як жывуць, так і думаюць?

— Усё ўзаемазалежнае.

— Ад веку гэтак было.

— І правільна. Што тут дрэннага?

— Цягам доўгіх стагоддзяў выпрацавалі ўсепрымальны парадак суіснавання, прыстасаваліся адно да аднаго. І многія задаволеныя гэтым.

— Няма руху.

— А што, кожнаму трэба ўпірыцца, насуперак усім вынаходзіць свой стыль жыцця — і такім чынам забяспечваць рух?

— Лухта! Гэткая занорыстасць толькі прывядзе да ўсеагульнага хаосу і бязладдзя.

— І без гэтага нельга. Не ўсё ж аднаму парадку быць — так нецікава.

— Насамрэч, парадак — застой, а хаос — прагрэс, — разгарэўся Аляксандр. — Зірніце на мапу свету: колькі краін і нават цэлых арэалаў, дзе працягла пануюць манархія, таталітарызм, плямённыя звычаі дый увогуле розныя ўладкаваныя рэжымы, якія ігнаруюць усялякую вольнасць, свабоду і нічога не жадаюць мяняць!

— А навошта, калі і так добра? Ніхто ж не наракае.

— Што ты вярзеш? Няўжо ёсць такая краіна, насельнікам якой усё падабаецца?

— Так, мая Масея, — ганарыста абвясціў Андрэй.

Прагучала яшчэ некалькі такіх жа сцвярджальных адказаў. Андрэй працягнуў:

— Усе ад малога да старога апяваюць веліч маёй радзімы, славяць яе ўладу.

— І колькі шчырасці ў гэтых песнях?

— Не кожны вясёлы, хто спявае.

— Масейцы ведаюць сабе цану і галаву на плячах маюць, — нервова абараняўся Андрэй, адчуваючы падтрымку Ахмада, Замбы ды іншых. — Іх не абдурыш.

— Вашыя народы на галаву слабыя і ашуканыя даўно, але гэтага не разумеюць, — нецярпліва разануў Джордж і гэтым падштурхнуў наэлектрызаваны клас да вэрхалу. — Самі нічога не могуць, толькі гвалтуюць і рабуюць іншых — гэтым і жывуць, дый то як быдла.

Пакрыўджаныя Андрэй і яго прыхільнікі ўзбурыліся і кінуліся на Джорджа з кулакамі. Той рашуча прыняў абарону. Адразу яму на падмогу прыйшлі Кастусь, Раджыў, Генрых, Жак, Мікаэль. Астатнія сталі разбараняць задзірак.

— Хопіць! Спыніцеся! — выгукнуў Плутарх.

**29**

Шкаляры паступова суняліся і, заняўшы свае месцы, скіравалі погляды на настаўніка. І толькі забіякі непрыязна зіркалі адзін на аднаго.

— Дзікуны. Брыдка бачыць усё гэта, — спакойна прамовіў філосаф. — Сваімі паводзінамі вы дэманструеце найгоршыя якасці чалавека. Такое ўражанне, што

нічога не спазналі за гэтыя гады, бо ніхто не скарыстаў акультныя навыкі, не паказаў умельства самавалодання і вытрымкі.

Клас адчуваў віну і моўчкі каяўся. Плутарх успрымаў гэтыя хвалі, але патураць нікому не збіраўся, заставаўся няўмольным і жорсткім:

— Я пераканаўся, што вы не ацураліся ранейшых звычак і ў завадах аднолькавыя, яшчэ зямныя. Да абсалютнай індывідуалізацыі вам яшчэ далёка, хоць вы і бліжэйшыя да яе за астатні люд. Разумею вашую любоў да роднага краю, але фанатызму і слепаты не прымаю. Досыць заставацца ў палоне нізкіх матэрыялістычных уяўленняў. Вы ўжо дастаткова атрымалі ведаў, каб уцяміць, што вашая агульная радзіма — Зямля — уяўляе сабою не самую лепшую ілюзію.

— А хто вінаваты? — зноўку пасмялеў Аляксандр.

Плутарх уважліва паглядзеў на яго, спадзеўным позіркам акінуў клас — усе скемілі, што ён ацаніў пытанне і на штосьці разлічвае, — і, не дачакаўшыся, прадоўжыў:

— Яна патанае ў скажэннях Праўды, але валодае велізарнымі патэнцыямі выбару. На жаль, скарыстоўваюць толькі прасцейшыя з іх. Памятайце, свет шматварыянтны, а жыццё — выбар, кожны крок — выбар. Які шлях абраў, такім і будзеш.

— А як рабіць правільны выбар? — выказаў усеагульную зацікаўленасць Кастусь.

— Усякі выбар правільны, — агаломшыў настаўнік, — і прыводзіць да канчатковае мэты, але не аднолькавы з іншымі па скарыстаным Часе і Прасторы, то бок энергетычна нераўнацэнны. Можна ісці доўга непралазным лесам, а можна хутка — бесперашкодным полем. Адзін вандроўца дасягае фінішу самастойна, здаровым і бадзёрым, другі — з дапамогаю, хворым і няздольным.

— Чаму? — выбухнуў усхваляваны клас.

Плутарх крыху памаўчаў, нібы выпрабоўваючы шкаляроў на цярпенне, і толькі потым ізноў іх аглушыў:

— Таму што кожнаму выбару адпавядае адрозны ад іншых касмічны пласт, дзе Час і Прастора ўзаемадзейнічаюць па-свойму. На чале яго знаходзіцца Правадыр, прыступкай ніжэй — кагорта Настаўнікаў. Менавіта яны вызначаюць асаблівасці развіцця і эвалюцыі, але больш таго, што дадзена Богам, зрабіць не могуць.

— І яны абмежаваны, не маюць свабоды, — са шкадаваннем уздыхнуў Джордж.

— Вось табе і нябёсы, — расчаравана вымавіў Генрых.

Клас незадаволена ўсхадзіўся, але Плутарх яго прыцішыў:

— Вы, як заўсёды, спяшаецеся. Не могуць не ад таго, што сціснуты нейкімі асадкамі, а таму, што ў Сусвеце ўсё прадугледжана і штосьці новае прыдумаць проста немагчыма дый бессэнсоўна.

Не ўсе вучні здолелі ўявіць такія маштабы, таму настаўнік, бачачы іхнія адхіленыя і ўдумлівыя пагляды, дадаў:

— Вельмі цяжка прытрызніць бясконцасць і бязмежнасць — вам гэтая здольнасць будзе дадзена пасля поўнага курса навучання, — ён зрабіў невялічкую паўзу і загаварыў больш цёпла. — Вы, напэўна, усвядомілі, як пачынаўся ваш шлях на Зямлі. Усё, што з’явілася на ёй потым, — супольная заслуга вашая і Настаўнікаў, плён агульнае творчасці, перамог і параз. На жаль, вы пра гэта не памятаеце. На кожным занятку я буду паступова адчыняць ячкі вашай свядомасці, і вы ўбачыце сапраўдную карціну гісторыі планеты, прачуеце значнасць удзелу ў ёй кожнай жывой істоты.

**30**

— Дзядуня, а навошта мы жывём?

— Эх, унучак! Калі б хто ведаў дакладны адказ на гэтае пытанне, адразу б сеў поруч з БОГАМ.

— А чаму так?

— Тут можна разважаць двояка: калі вышэй за чалавека хтосьці ёсць, то гэта — тайна, а калі — няма, тады ўсё зразумела і відавочна: нарадзіўся, пажыў і памёр.

— Так нецікава. Лепш, каб тайна.

— І я так лічу.

— А як яе разгадаць, дзеду?

— Няпроста, унук. Мне здаецца, нашае жыццё мае надта важную мэту, якую мы пакуль не можам зразумець.

— То бок, не дараслі?

— Праўда што. Падобна вунь таму вусеню, які паўзе па лісціку і не цяміць, што калі-небудзь стане матыльком. Калі параўноўваць да канца, дык чалавек, як і ён, — незавершаная, пераходная істота, увесь сэнс існавання каторай — смерць, ператварэнне ў новы стан, але ў які — нам невядома.

— А мятлік кумекае, што пайшоў ад вусеня?

— Не.

— Няправільна гэта. Павінен знаць і памятаць!

— Не хвалюйся. Такі парадак.

— Ён мне не падабаецца! Хто выйграе ад таго, што вось гэтая кузурка дачасу бесклапотна пырхае, радуецца сонцу, а ўрэшце памірае, не ведаючы, кім будзе?

— Напэўна, той, хто гэта прыдумаў… Супакойся, родненькі.

— Дзядуля, і з усімі так?

— На жаль.

— Крыўдна. Атрымліваецца, што я патрэбны толькі для таго, каб з мяне нехта вылупіўся, няйначай, таксама з крыламі.

— Малайчына, унук. Ты па-свойму патлумачыў сэнс нашага існавання. Я падзяляю тваю думку. Але насамрэч усё можа быць інакш: нашыя вышэйшыя наступнікі могуць і ведаць пра нас, і клапаціцца, і дапамагаць, каб мы правільна жылі і сталі для іх зернем вышэйшага гатунку. Адчайвацца ніколі не трэба. Варта помніць адну істотную і прыкметную асаблівасць жыцця, якой падпарадкоўваецца ўсё навокал: за нараджэннем заўсёды ідзе смерць, а за смерцю — новае нараджэнне.

**31**

— Ці не занадта сам іх узрушваеш, Плутарх?

— Не, вашая імасць. Чым бліжэй яны будуць да гістарычнага нумену, тым больш трывалым і дасканалым будзе іхні свет.

— Галоўнае, каб яны здолелі дакладна ўспрыняць маю мадэль Тварэння і ў творчасці адпавядаць ёй.

— Так і будзе, вашая імасць. Я даю ім аб’ектыўныя веды, але псіхічна замацоўваю іх за вашэцем. Закон роду і пераемнасці ад гэтага не парушаецца, а толькі крапчэе. Як і патрэбна, яны назіраюць мноства іншых шляхоў, але абавязкам трымаюцца выключна вашэцевага.

— Правільны падыход. Неабходна, каб яны глыбока ўсвядомілі, што сярод безлічы касмічных ілюзій нашая — сама лепшая і бездакорная. Па шчырасці, мне было калісьці нялёгка з мноства ІДЭЙ выбраць найбольш прыдатныя.

— Ва ўсіх настаўнікаў гэткая турбацыя. Мы нават парупіліся, каб патрэбная перакананасць адкладвалася ў іх на ўзроўні манады.

— Хвалю за дбайнасць.

— Але ўсё адно застаюцца некранутымі некаторыя асаблівасці, вашая імасць.

— Якія?

— Тыя, што знаходзяцца па-за сфераю **нашага** ўплыву.

— Гэта мой клопат. Я лічу, што **ЯМУ** да нас пакуль няма справы.

**32**

Нярэдка тое, што на першы погляд здаецца простым і лёгкім, пры дэталёвым знаёмстве можа паўстаць складаным і цяжкім. Усе разлічвалі на хуткі поспех і легкадумна ўспрынялі парады настаўнікаў: маўляў, калі пераадолелі шчыльнасць і вадкасць, дык паветра — і пагатоў.

Але ўжо пачатак стаў неспадзёўкай: усялякія спробы ўбачыць паветра як фізічны вобраз атрымаліся марнымі. Як ні намагаліся практыканты ўзбудзіць сваё ўяўленне — нічога не атрымлівалася: у памяці не было патрэбных асацыяцый і прыкладаў.

Кастусь стаміўся і зніякавеў. Негадана на памяць прыйшлі словы Альгерда:

«Калі штосьці не атрымліваецца, трэба засмяяцца, але не гаротна-слязліва, а радасна-шчыра. Тады на твой настрой збягуцца энергетычныя іскры Космасу і ў злучве дапамогуць табе».

Хлопец крыху памарудзіў, сканцэнтраваўся — і грымнуў неверагодным рогатам. Следам эфір скаланула яшчэ некалькі выбухаў весялосці: іншыя шкаляры таксама даўмеліся.

Тыя, хто адразу не скмеціў, а потым заўважыў, як заходзяцца ад смеху сябры і ні з таго, ні з сяго знікаюць у прасторы, спешна далучыліся да іх, з захапленнем выгукнуўшы:

— Ведаю!

Прастора была светла-залатой і бязмежнай. Уражвала незвычайная жвавасць ды імклівасць рознакаляровых і флюідных, нібы прывідных, галаў. Яны рухаліся хаатычна і, здавалася, без одуму, весела. Многія гучалі на ўсе лады і пахлі. Пры сустрэчах трохі затрымліваліся і ўспыхвалі, як бы віталіся. Адны адзінотна кіравалі далей, другія міла параваліся, трэція спехам гуртаваліся аж да безлічы, — і ўсё гэта адбывалася на ляту. Адразу вызнаць такі парадак было нялёгка, дый ніхто гэтага не рабіў, бо адцягвалі іншыя дзівосы.

Зрэдку на ўсё набягаў цень, і тады аднекуль з’яўляліся празрыстыя кулі, вельмі падобныя да вадкіх. Яны ўпэўнена і шпарка кіравалі толькі ім вядомым курсам і смела ўсіх распіхвалі. Юнакі заўважылі, што галы-здані без супраціву, быццам так і трэба, саступалі дарогу не толькі ім, але і ўсялякім іншым налётчыкам — і гэтым самым пазбягалі прыкрых здарэнняў, а ўвогуле захоўвалі і сябе, і ўсё сваё асяроддзе.

«Яны ведаюць нешта такое, што нам няўцям», — падумаў Кастусь, ледзь паспяваючы абараняцца ад раптоўнае навалы цвёрдых куляў, якія маглі яго параніць. Ранейшы досвед навучыў яго ўважлівасці і абачлівасці. Ён не хацеў зноўку аглуздзіцца і аканчальна страціць давер настаўнікаў, бо мінулым разам толькі зарука Альгерда выратавала яго ад вяртання на радзіму.

Усе пераканаліся, што паветраная прастора не такая ўжо бясшкодная, як дагэтуль уяўлялася. Многія пацярпелі і занядужалі. Напачатку спрабавалі схаваць гэта, але, калі стала зусім нясцерпна, адкрыта папрасілі дапамогі.

«Той, хто ўсё прымае, нясе пагрозу», — да такой высновы прыйшоў Кастусь, думаючы пра паветра.

***Працяг у наступным нумары.***

*Васіль ЗУЁНАК*

# КАБ МІМА НІХТО НЕ ПРАЙШОЎ

* * *

Вось так і жыццё адмыкаецца:
Бягуць з-пад снягоў раўчукі,
І ў чысціку — смутку ні каліўца:
Такуюць цецерукі;

Юрлівы шчупак на нерасце
Гайдае хвастом берагі,
І сакавік намерыўся
Выводзіць у поле плугі;

І чуе зямля цяжарная
З усіх вясновых дарог:
У небе высокім — жаўранак,
А над жаўранкам — толькі Бог.

## НІБЫТА Ў КОСМАСЕ ХУТАР...

Акенцам свеціць камп'ютар:
Нібыта ў космасе хутар, —
Лячу на яго здалёк —
Наіўны начны матылёк...
Пакутна ў нябёсах блукаю,
Нябесныя словы шукаю.
Не знаю — каму і навошта? —
Маўчыць касмічная пошта,
І пісьмы ад зор не прыходзяць:
Ці адрас мой не знаходзяць,
Ці ўжо не цікавяцца мною
З маёй планідай зямною?..

Скажы мне, хаўруснік астральны,
Ты й праўда каўчэг ратавальны
У патопе інфармацыйным
Ці проста тэхнічны цынік
І сэрца ў цябе не заные:
А дзе ж мае словы зямныя —
Ці я іх згубіў ці забыўся,
Што гэтак за неба ўхапіўся?..

Ну што ж, даражэнькі камп'ютар,
Хоць ты ў скараходы абуты,
І ўмiг сусвет аблятаеш,
І ў вечнасці межаў не маеш, —
А як жа, а як жа з адказам?
Яго не пачуў я ні разу...

Скажу табе, мудры камп'ютар:
Пытанне — не мёд, а пакута.
Яго і табе задаю...

Шануючы мудрасць тваю,
Хачу і сваёй не пазбыцца, —
Дык буду маліцца зямліцы.
За кожную краску, травінку,
За каласок, за пярынку,
Буду аберуч трымацца, —
Буду зямлёй ратавацца:
Тут думы мае і словы...
І ты не нахмурвай бровы,
Не «вісні» з праграмай вучонаю, —
Я так, я прывык «па-чорнаму»:
Спачатку душой вымяраць,
А потым — табе давяраць...

## СЯБРЫНА

Мы жылі, як жыць належыць —
І гавелі, і пілі,
І на скрут юнацкіх сцежак
Неабачліва ішлі.

Але знalі аксіёму,
Што ад прадзедаў-дзядоў:
Не ўчыняць бяды нікому,
Злых, няправедных судоў.

Мы інтрыг не гарадзілі —
Не было ў душы прычын.
Як любіць — каго? — Радзіму.
А кахаць — каго? — Жанчын.
Аднаго сабе жадаю:
Рваць улады ланцугі,
І каб бросняю з гадамі
Не пакрыліся мазгі.

Жыць па правілах — ды ў бунце!..
А калі жыццё міне —
Не саромцеся: турбуйце!
Вам каго гукнуць? Мяне?

Калі ласка! Я паклічу —
Сам сябе, — не падвяду!
І адтуль — ахоўным знічам —
Цераз сто магіл — прыйду.

Бо сябрына — як рабрына:
З ёй, як з Еваю Адам,
Я ў адзінстве, — і абрынуць
Дружбу злоснікам не дам.

**УСЁ ЯНО...**

Маснічка ад калыскі да парога,
Сцяжынка, што за веснічкі ўцякае,
Каб перакінуцца ў далёкую дарогу,
Крынічка, што ў аздобе асаковай
Рачулцы напярэймы выцякае,
І аблачынка, што грамы шукае,
І такавішчаў бой цецеруковы,
Дзе сцелюць пер'ем шлях да перамогі,
І баравік у сховах верасовых,
І плач зязюлі, што пра дом забылася,
І рэха, што ў лясах блукаць стамілася, —
Усё яно —
Як свет,
Адно:

Гукае, гукае дзяцінства,
Вяртае, вяртае дзяцінства...
Іду ўсё жыццё туды, —
Ды ў іншым кірунку сляды...

* * *

А мова — як луг квяцісты,
Дзе не хадзіла каса,
А словы — у звоні расістай,
І ў кожным свая краса.
І ў кожным свае тычынкі,
І песцікі, і нектар —
Салодкі, а то і з гарчынкай, —
На сто ладункаў завар!

Каб кожнай пчале — па кілішку,
Па кубку — усім чмялям,
Кузуркам-ласушкам пакрышку...
Не бойцеся — хопіць і нам!..

На сто адценняў — пялёсткі,
Каб міма ніхто не прайшоў,
Каб гэты дарунак боскі
Куточак у песні знайшоў.

* * *

Зусім жа не райскі сад,
А гэткая квецень бушуе,
Што яблычны зорапад
Галінкаю кожнай вяшчуе.

Шторання пчалінай сям'ёй
Абвейваюцца пялёсткі,
Ляцяць над вясновай зямлёй
Мядзвяныя адгалоскі.

Як райскіх надзей ускалых —
Сцвярджае кожнае дрэва

Сябе ў нашчадках прамых
Таго — спакушальніка Евы…

* * *

Не вяршыня нябёсы прашыла
Над бяскрыласцю гор сваіх, —
Гэта горы ўзносяць вяршыню,
Каб яна велічала іх.

* * *

Забарона — прыкольная,
Як палёт, як душа,
Бо калі ўсё дазволена —
Што тады парушаць?!.

**ДУМАЮ АБ ПАДАБЕНСТВЕ...**

Стадыён тысячавокі,
І адна на ўсіх людзей
Зрэнка — мяч надзьмутабокі —
Да варот пагляд вядзе.

Пас налева, пас направа,
Пас наперад, пас назад, —
Стадыён не мае права
Галавой круціць не ў лад.
Во як гол — тады ўжо ўгору
Вочы ўсе і рукі ўсе:
Стадыён ляціць і горад
За сабой уверх нясе!..

**КАБ ТАК БЫЛО...**

Каб так было: ні ворага, ні сябра.
Каб ты са светам быў, як сам з сабой:
Свет — у табе, а ты — у ім.
 І зябнуць
Каб зерню дум не даў перад сяўбой.

Каб вокам злым усходы не адолеў,
Каб не таптала рунь твая нага,
Каб за дабро плаціў дабром і долі
Ў зламысніка свайго не вымагаў...

Ды не было й няма дарогі роўнай
У чалавека на святой зямлі.
І не дае патолі дух бунтоўны,
І ўсё дарогі ў бездараж звялі...

О, калі б так, як думаў ты, як мог...

Але: і бог — не ты, і ты — не бог...

**ЦІ НЕ ЧАС?..**

Паглядзіш, як нахабна лезуць
Мільярдэры на п’едэстал,
Дык міжволі і зробіш выснову:
Ці не час заспяваць нанова
Палымяную «Марсельезу»
І ствараць «Інтэрнацыянал»?..

**ШТО Б І ЯК?..**

Хто ты, сейбіт Вялікай Сяўбы?
Цемра з цемры. Загадка скразная.
А мяне ж магло і не быць.
Не было б — і аб тым бы ці знаў я?

Ні мяне, ні зямлі, ні травы —
І аб тым шкадаваць ці варта?
І якія ў мяне правы
Казыраць не існуючай картай?
Не існуючы — хто я? І хто б
Той сакрэт рассакрэціў, —
От бы знаць! — як мяне не было б,
Што было б, як жылі б вы на свеце?..

**ЯГАВІСТКІ**

Каб ратаваць мяне
Ад бязбожжа імглістага,
У кватэры маёй званок зазвінеў,
А на парозе паўсталі дзве ягавісткі.

Дзве юныя, прасвятыя,
З Бібліяй нападоймы ў руках.
І падумалася: «А ці гэта не тыя,
Якіх шукаў, але не спаткаў?..»

Я пра *тое*…— а яны мне пра Біблію,
І нешта хочуць пра Ягову мне
патлумачыць.
— Ды я сам, — кажу, — распытваў
Пісанне паглыблена,
І не раз, —
Ды адказ
Не знайшоў, як сустрэцца з парой
юначай…

А тут во якраз! —
І вы на парозе!..

Заўсміхаліся ветла дзяўчаткі
(О наіўнасць святая!..):
— А вы яшчэ пачытайце… —
бываюць выпадкі!..
Вось праз тыдзень ці два завітаем —
І сустрэнемся ў Бозе…

Пайшлі… А я ўсё чытаю…
Дні лічу — і чакаю…

Не чутно ягавістак…
Ці забыліся пра дамову,
Ці па адрасе новым
Да самотнага атэіста
Іх кудысьці паслаў Ягова?..

* * *

Дзе ў акіяне свету гэты востраў? —
Дзе чуюць песню ў салаўіным горле,
Шчаслівыя, мае браты і сёстры,
Што ў свет не нарадзіўшыся, памёрлі...

Дзе быў мой цень ці плоць мая блукала,
Пакуль я на зямлі не ўзнік з нябыту,
Дзе ты мяне, адзіная, чакала,
Каб збыцца і згарэць метэарытам…

**ДЗВЕ ВЯСНЫ НА НЯМІЗЕ**

***Памяці Генадзя Бураўкіна***

«Няміга, 21»…
Вясновы адрас юнацтва…
Зямныя шляхі адхадзіў —
Прыйшоў развітацца…

Паведаць штосьці сябрам —
А дом даўно зруйнаваны…
Няміга… Насупраць храм
З труною, вянкамі ўбранай…

Няўжо гэта ты, Генадзь,
Такі паважны, спакойны, —
Няўжо нам не заспяваць
І чарку не ўзняць ніколі?

Як тое было, дзе вадзіў
Ты рэй інтэрнацкі вясновы:
«Няміга, 21» —
І майская просінь слова.

Няміга… Зноўку вясна,
І майская квецень бушуе.
А ты ўжо ў нябесных снах
І толькі малітву чуеш…

«Няміга, 21», —
Шапчу я ў тон адпявання:
Паўстань з руінаў — прыйдзі
З сябрам на развітанне.

«Няміга, 21» —
На першым паверсе крама,
Другі, інтэрнацкі, глядзіць
На сціплыя прыступкі храма…

Цяпер па прыступках тых
Выносіцца дамавіна, —
Апошні Нямігі ўздых
У імя Айца і Сына…

Закончаны шлях крыжавы
Дарогай нябеснаю весняй, —

Вясна застаецца жывым:
Вясна яго вечнай песні.

## ТРАЕЦКІЯ ДЗЯДЫ

Траецкія дзяды. Вячэрні збор.
Далёкія і блізкія патомкі,
Прыходзьце ўсе да нас. Да першых зор.
Да нашай Лысагорскай валатоўкі.

У нас тут квецень самая якраз —
Траецкая, — і кожная травінка
Набрацца сонца горнецца ў запас —
Патроіць тройчы на зіму жывінку.

Прызн*а*емся: «Не свойскі далягляд, —
Не заблукаліся б…» — была перасцярога.
Ды гэта для жывых тут сцежак шмат,
А як для душ — праменькая дарога.

Нас двое, вас нялічаныя цьмы, —
Прыходзьце, цемру скінуўшы густую.
Збірайцеся, усіх сустрэнем мы
І сціплаю вячэрай пачастуем.

І пагамонім на душэўны лад…
І, пэўна, што не выкліча нязгоду:
Да нас вам не вярнуцца ўжо назад,
А нам — да вас збірацца назаўсёды.

Мы скажам пра зямны нялёгкі час,
А вы нам раскажыце па-сакрэце,
Як недзе нараджаюцца без нас
І новыя сузор'і, і сусветы…

## ВЯСНУ НЕ ПРЫДУМАЕШ…

Вясну не прыдумаеш у інтэрнэце, —
Каб раптам зямля апранулася ў квецень.
Вясну не прызначыш і не замовіш,
Вясну, як птушку ў сіло, не зловіш.
Яна прыходзіць толькі сама.
І праходзіць… Іншых няма.





# ТРЫ ВЕСТКІ З МАЛАДОСЦІ

*«Маладосць» мае даўнюю, зайздросную для іншых выданняў гісторыю. Гартаючы падшыўку канца 1960-х гадоў, падумала: які гэта быў залаты час — і для часопіса, і для ўсёй нашай літаратуры. Менавіта тады ў яе імкліва і ўпэўнена ўлівалася новае творчае пакаленне — філалагічнае, якое сёння справядліва лічыцца ўнікальнай, фенаменальнай з'явай слоўнага мастацтва: што ні прозвішча — то самабытны, прамяністы талент; што ні імя — то своеасаблівы літаратурны брэнд...*

*А ў 1960-я гады сённяшнія прызнаныя майстры і ўсім вядомыя пісьменнікі былі зусім маладымі (якраз для «Маладосці») аўтарамі і толькі пачыналі сваё ўзыходжанне. Як яно адбывалася? Чым жылі тагачасныя «маладосцеўцы»? Што іх цікавіла? Запытаць пра гэта надарылася магчымаць у прадстаўніка той яркай плеяды — Васіля Зуёнка, жыццё якога самым непасрэдным чынам звязана з часопісам.*

*Вашай увазе — тры весткі з маладосці любімага пісьменніка, тры весткі з «біяграфіі» часопіса...*

**— Васіль Васільевіч, што для вас значыла на доўгім творчым шляху праца ў рэдакцыі часопіса «Маладосць»? І, наогул, якія думкі ў вас узнікаюць пры слове «маладосць», з чым яно асацыюецца?**

— І сёння з тым жа трапяткім пачуццём кожны раз прапаную свае вершаваныя радкі часопісу «Маладосць». Як тады, калі з блаславення загадчыка аддзела паэзіі Міколы Аўрамчыка і галоўнага рэдактара Пімена Панчанкі (знакамітае Аўрамчыкава «Я-та “за”, але што Пімен скажа?..») з'явілася мая першая паэтычная публікацыя. І даволі вялікая, як для пачатку, — ажно трынаццаць вершаў, — лічба, заўважу, наогул для мяне спрыяльная.

І сёння тыя дні, калі пашчасціла ўжо непасрэдна працаваць у штаце рэдакцыі, згадваюцца з асаблівай цеплынёй. А як жа! Маладосць ёсць Маладосць. І ва ўласным жыцці, і ў жыцці часопіса з гэтым вечна юным найменнем.

Для мяне «Маладосць» — гэта дзесяць год штодзённай, будзённай, працы. Спачатку — намеснікам галоўнага рэдактара, потым (пасля часопіса «Бярозка») — амаль столькі ж — галоўным рэдактарам… Прыкінуўшы: не такі ўжо і малы кавалак майго зямнога часу… З дня ў дзень: прачынацца з «Маладосцю» і засынаць з яе заўтрашнімі клопатамі…

Ад коскі ці працяжніка ў рукапісе — да «свежанькага», з нічым непараўнаным водарам друкарскай фарбы, нумарам… І гэта ўжо свята! Свята між клопатных і неадступных рэдакцыйных будняў…

Адсвяткавалі? Палюбаваліся? Парадаваліся ці чымсьці засмуціліся?.. — і зноў — да «косак і працяжнікаў» — на новы круг…

Шчаслівая прафесія ў журналіста! Тое нават і «прафесіяй» назваць няёмка. Гэта прызванне. Гэта боскі дар. Нябесны…

Гэта вельмі здорава, калі на працу ідзеш, як на свята. А ў маіх стасунках з «Маладосцю» якраз так і было. «Маладосць» валодала нейкім загадкавым магнетызмам. Хаця і загадкі, пэўна, той не было: у тым увесь і сакрэт, што часопіс быў эпіцэнтрам маладога творчага жыцця.

Зразумела ж, атмасферу гэту стваралі і стараліся падтрымліваць супрацоўнікі рэдакцыі — людзі таленавітыя і кожны па-свойму цікавы, непаўторны, апантаны агульнай справай. У розны час — гэта Алесь

## Шчаслівая прафесія ў журналіста! Тое нават і «прафесіяй» назваць няёмка. Гэта прызванне. Гэта боскі дар. Нябесны...

Асіпенка, Вера Палтаран, Уладзімір Юрэвіч, нязменны рулявы на «паэтычным мосціку» Мікола Аўрамчык, Міхась Стральцоў, Янка Сіпакоў, Уладзімір Дамашэвіч, Сцяпан Кухараў і яго спадручны па аддзеле публіцыстыкі Уладзіслаў Нядзведскі (ён з хітраватай усмешкай апрацоўку аўтарскіх допісаў з глыбінкі іменаваў — «разьба па дрэве»), мастацкі рэдактар Янка Раманоўскі, Генрых Далідовіч, Леанід Дайнека, майстар фотарэпартажу Валянцін Ждановіч…

Гэта з кім давялося мне асабіста выводзіць у людзі — нумар за нумарам — часопіс «Маладосць».

Гэта «штатнікі». А тыя — галоўная рАць — аўтары: празаікі, паэты, публіцысты!.. Называць імёны? Ды гэта ж значыць стаць перад фактам: даць панараму ўсяго літаратурнага жыцця, найперш, маладой змены. І ўсе таленавітыя, і ўсе просяць слова. Сустракай, «Маладосць», і вітай, «Маладосць»!..

**— Сустрэчы з якімі аўтарамі, творамі найбольш запомніліся з рэдакцыйных дзён часопіса?**

— З асаблівай радасцю вітаўся кожны прыход у рэдакцыю Уладзіміра Караткевіча. Гэта было дзейства. З ім прыходзіла ўсё: гісторыя, сучаснасць, фантазія, задумы, ідэі, героі, навіны… У Караткевіча было вострае адчуванне, якія паўстаюць патрэбы жыцця, грукаюць у дзверы літаратуры; якія выспяваюць перад ёй запыты, куды на сёння варта (і неабходна) скіраваць творчы пошук.

На той час творчыя намаганні Уладзіміра Караткевіча апантаныя былі ідэяй распрацоўкі дэтэктыўна-прыгодніцкага жанру. «Трэба заваёўваць маладога чытача, — заклапочана паўтараў Караткевіч, — ісці насустрач яго чытацкім запытанням». І эксперыментальнай пляцоўкай для рэалізацыі гэтых задум стаў часопіс «Маладосць». Першай такой ластаўкай была аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». Заяўка больш чым паспяховая, — натхняльная! За ёю з'явіўся «Чорны замак Альшанскі», да публікацыі якога прычыніўся ўжо і мой рэдакцыйны клопат.

Працавалася з Уладзімірам Караткевічам лёгка, нязмушана і… — няпроста. Веды ў яго былі фенаменальныя. Ён заўсёды быў, як гаворыцца, «у матэрыяле», — як рыба ў вадзе. За кожнай дэталлю ці гістарычным штрышком стаялі горы назапашанага досведу, — такая непрыступная абарона. І паспрабуй яму запярэчыць ці ўсумніцца ў чым-небудзь. Ён тут жа ўсхопіцца: «А хочаш, я скажу табе зараз, які быў дзень: скаромны чацвер ці посная пятніца, ці што іншае? — 20 верасня (умоўна кажучы) адна тысяча пяцьсот… пэўнага года, калі мой герой N. частаваўся ў гасцях у пана NN…» — і з, як здавалася, неабдымнай кішэні Караткевіча выходзіў на свет падобнай жа неабдымнасці і заслужанасці, пульхны, з неаднагадовай біяграфіяй, нататнік, а з яго нетраў — «вечны каляндарык» з пераможнай рэмаркай Уладзіміра Сямёнавіча: «От, пабач!..»

У энцыклапедычнай падрыхтаванасці пісьменніка да здзяйснення творчай задумы, пэўна, найлепшага ўзору, чым аповесць «Чазенія», і шукаць не трэба. І, дарэчы, то быў яшчэ адзін крок пісьменніка-першапраходца насустрач юнаму чытачу: рамантычная ўзнёсласць і глыбіня пазнавальная гарманічна зліліся тут у цудоўны, захапляльны мастацкі аповед.

Аповесць з'явілася вынікам «творчай камандзіроўкі», так гэта называлася, траіх — Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна і Генадзя Кляўко на Далёкі Усход. Той самай камандзіроўкі, дзе Рыгор Барадулін пабачыў, што «далёкаўсходнія нявесты» «глядзяць зялёнымі вачыма, як незанятыя таксі»…

Уладзімір Караткевіч прывёз для часопіса «Маладосць» (як ён адчуваў «літаратурны голад», рэдакцыйную патрэбу ў гэтым жанры!) «Чазенію».

Непаўторнае падарожжа ў свет прыроды (заабатаніка, палеабатаніка, энтамалогія, іхтыялогія, арніталогія…); мастацкае і мастакоўскае (!) бачанне і хараство; выяўленчая раскоша ў слове — і радасць пазнання, адкрыцця. Між іншым, з трапяткой кампазіцыйнай інтрыгай: а што ж

яно, урэшце, такое — Чазенія? Такая таемная «вытрымка» і для героя, і для чытача. Аж пакуль на самым піку ўзлёту пачуццяў дзвюх душ з драматычным прадчуваннем развязкі, адкрываецца:

«Даўно хацеў спытаць, што гэта за вярба на каменнях? Унь, стройная, бы эўкаліпт…

— Чазенія, — сказала яна. — Адно з улюбёных маіх дрэў. Яна — рэлікт: дайшла з даледніковага перыяду.

У яе словах гучала нешта такое, што прымусіла яго да асаблівай увагі.

— Чаму — "адно з улюбёных"?

— Таму што гэтае дрэва цяжка жыве. І мала жыве»…

Шануючы свой «класічны статус» у літаратуры, Уладзімір Караткевіч ніколі не цураўся «чарнавой» журналісцкай практыкі — заўсёды з задавальненнем адгукаўся на просьбу-замову рэдакцыі, вызначанай пэўнымі падзеямі ці датамі. Тут ужо неяк сам сабою стварыўся выдатны творчы дуэт: публіцыст Уладзімір Караткевіч і фотамайстар Валянцін Ждановіч. Іншы раз да іх далучаўся мастак Пятро Драчоў, які, дарэчы, выдатна аформіў «Чорны замак Альшанскі»…

І заданні гэтыя Уладзімір Караткевіч заўсёды выконваў аператыўна, як таго патрабаваў рэдакцыйны графік, з усёй адказнасцю журналіста-прафесіянала. Але і тут, пры ўсёй аб'ектыўнай сур'ёзнасці, ён нязменнна заставаўся рамантыкам-лірыкам. У сваіх эсэ, нарысах Караткевіч быў не проста староннім назіральнікам і аўтарам-фіксатарам, а неяк адразу самым непасрэдным чынам асабіста ўключаўся ў «дзейства», рабіўся актыўным удзельнікам сітуацыі, лірычным голасам твора. І таму сказанае ім заўсёды жыва і горача адстойваў ва ўсіх дэталях і штрышках. Нялёгка, але ўсё ж іншы раз даводзілася пераконваць Уладзіміра Сямёнавіча на пэўныя ўступкі. Так было ўсяго з адным словам з яго эсэ «Сцюдзёная вясна, або 1000 год і 7 дзён», прысвечанага тысячагоддзю Турава. Караткевіч апынуўся тут, як кажуць, у сваёй стыхіі: шматвекавая гісторыя. Але на фоне гэтай велічы шмат што выглядала не «на ўзроўні» ў дні сённяшнім. Ды яшчэ і вясна выпала такая — сцюдзёная. Што і засведчыў Уладзімір Караткевіч сцілом летапісца. На гэтым настроі і пабачыў ён клумбу, «якая ўдае магілу з лічбаю 1000»… Што ж, так пабачылася… Калі б не адно «але»: клумбу гэтую зрабілі дзеткі-школьнікі на сваім школьным двары. І як жа яны прачытаюць пра гэтую «магілу»? Ці неападзе на іх сэрцы горыч і смутак? Так жа стараліся… Не іх жа віна, што вясна сцюдзёная…

«Ды якая ж тут магіла? І, пэўна ж, не пра смерць дзеткі думалі, а пра тысячу год, пра вечнасць»…

Вось гэтым довадам і была закранута самая датклівая струна: слова «вечнасць», — яно для Караткевіча было сакральна-святым. Яшчэ «разгарачаны», але ўжо не «непахісны», ён паабяцаў: «Добра, падумаю…»

А назаўтра адчыніліся дзверы і з парога Уладзімір Сямёнавіч з усмешкай аб'явіў: «Усё! Як гара з плячэй! Ці камень з той неіснуючай магілы…»

Часцей за ўсё нейкія «спрэчныя» часопісна-рэдакцыйныя праўкі аўтары пакідаюць «на пасля», каб узнавіць усё «сваё» ў наступных (кніжных) выданнях… Караткевіч гэтага не зрабіў. Значыць, штосьці кранула, — засталося: «…клумба, якая ўдае лічбу 1000»…

Вось так… Адзін творца, адзін прыклад яго стасункаў з рэдакцыяй і рэдакцыі з ім… Пэўна, будзе дастакова, каб уявіць такую творчую з'яву, як рэдакцыйнае жыццё…

**— У 1960—1970-я ў «Маладосці» друкавалася цэлая кагорта найвыдатнейшых паэтаў: Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін… Васіль Васільевіч, ці настойвалі вы калі-небудзь на прынцыповых зменах аўтарскага тэксту? Хто рэдагаваў вашы ўласныя падборкі вершаў? Што б вы пажадалі маладым?**

«А хочаш, я скажу табе зараз, які быў дзень: скаромны чацвер ці посная пятніца, ці што іншае? — 20 верасня (умоўна кажучы) адна тысяча пяцьсот… пэўнага года, калі мой герой N. частаваўся ў гасцях у пана NN…»

## Шануючы свой «класічны статус» у літаратуры, Уладзімір Караткевіч ніколі не цураўся «чарнавой» журналісцкай практыкі — заўсёды з задавальненнем адгукаўся на просьбу-замову рэдакцыі, вызначанай пэўнымі падзеямі ці датамі

— «Рэдагаванне паэзіі»… Пытанне не з шараговых. Пытанне прынцыповае. Гэтыя два словы — «рэдагаванне» і «паэзія» — у хаўрусе, як мне ўяўляецца, ніколі і нічога добрага, станоўчага, не абяцалі ні рэдактару, ні паэту. Першаму — у яго памылцы, што паэтычны твор паддаецца такому «кіраўнічаму ўздзеянню». Другому — у прымусовым парадку рэзаць «па жывому», на што сапраўдны творца душэўна не здольны. Паэзія — і гэта не патрабуе асаблівых доказаў — далёка не загадзя «размеркаваны» набор (ці падбор) слоў і радкоў, «у рыфму» ці без яе. Паэтычны твор — з'ява разавая, невыпадкова ж сказана: «Вершы не пішуцца — здараюцца»… Паэзія не падлеглая «вымярэнню». Яна, як гэта ні дзіўна можа прагучаць, вышэй і глыбей сказанага словам. У ёй, калі яна сапраўдная паэзія, ёсць душа. А як і хто душу «адрэдагуе»? Забіць можна. Знявечыць (пры вольнай ці нявольнай згодзе аўтара), — што таксама не лепш... Але гэта ўжо акт анты-творчы. Што народзіцца з яго? Пэўна ж, не тое, што дыктавалася (нашэптвалася) пачуццём паэту ў дзіўны, непрадказальны (бывае, і падсвядома-невытлумачальны) момант творчасці, — ён непаўторны. Нельга вярнуцца ў той душэўны стан, той настрой, што аднойчы ўспыхнуў, — раз і назаўжды… З паэзіяй «разбірацца» можна толькі такім спосабам: ёсць яна альбо яе няма. Ці, бывае, яна падмяняецца абманлівай «мімікрыяй», — у розных праявах: ад дэманстратыўнай «прастакаватасці» — з «аздобай» «вулічнага» лексікону да такой жа — дэманстратыўнай — «ускладнёнасці», дзе і сам аўтар іншы раз клёку не дапытаецца… І няхай сказанае тут успрымаецца не як марнае «тэарэтызаванне», а як практычны голас чытача, спажыўца сённяшняй вершаванай прадукцыі — і на старонках друку, і асабліва ў нетрах інтэрнэту…

З сапраўдным паэтычным творам так: ні дабавіць, ні ўбавіць, — ні тапаром, ні скальпелем, ні лазерным прамянём…

На гэты конт («паляпшэння», «рэдагавання») нямала ёсць «адпрэчных», сустрэчных, выказванняў, асноўны сэнс якіх заключаецца ў простых словах: «Знаеш, як лепш? То бяры сціло — і твары, сам за сябе і сам для сябе»…

А пэўна, найбольш вычарпальна патлумачыў сітуацыю «рэдактар — паэт» Аляксандр Твардоўскі:

Сказать то слово никому другому  
Я никогда бы ни за что не мог  
Передоверить. Даже Льву Толстому —  
Нельзя. Не скажет — пусть себе он бог,  
А я лишь смертный. За своё в ответе,  
Я об одном при жизни хлопочу:  
О том, что знаю лучше всех на свете,  
Сказать хочу. И так, как я хочу.

Прыкладна гэта засвойваў і я сваім уласным сціплым досведам. Таго ж імкнуся прытрымлівацца і ў стаўленні да паэтычнай творчасці іншых…

І прытрымліваюся, перакананы: самы лепшы рэдактар — гэта ты сам для сябе. Горш, калі ён іншы раз ператвараецца ў добраахвотнага цэнзара…

Што ж датычна «пажаданняў маладым», то ўсё сказанае вышэй якраз і скіроўвалася да гэтай мэты (і асабліва штрышкі з творчага вопыту Уладзіміра Караткевіча!).

Наколькі мне згадваецца, паэтычная атмасфера ў часопісе «Маладосць» была заўсёды спрыяльная для маладой, няўрымслівай творчасці. З адной умовай: таленавітай.

І таму няцяжка ўявіць, што і сёння вяртаешся ў той, «маладосцеўскі» час з пачуццём светлым. Ну, а як для мяне, дык і яшчэ з пазнакаю шчымлівага смутку таго дня, калі давялося пакідаць дружны калектыў «Маладосці» і прыладжвацца да новай «службы»…

Дужа не хацелася развітвацца з «Маладосцю»!..



***Гутарыла Наталля ЗАЯЦ***

Маргарыта ПЯТУХОВА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў ІНТЭРПРЭТАЦЫІ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

## *На матэрыяле рамана Язэпа Драздовіча «Гарадольская пушча»*



*Маргарыта Пятухова — аспірантка Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. З 2014 года працуе малодшым навуковым супрацоўнікам у аддзеле тэорыі і гісторыі літаратуры Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. Даследуе літаратурную спадчыну Язэпа Драздовіча і Яна Булгака, аўтар шэрага навуковых артыкулаў.*

Актуалізацыя гістарычнай памяці з'ўлялася адной з асноўных задач, што ставілі перад сабой дзеячы Беларускага нацыянальнага адраджэння першай паловы XX стагоддзя. У папулярызацыі гістарычнай тэматыкі адраджэнцам бачыўся спосаб фарміравання нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, а таксама эфектыўны сродак выхавання пачуцця патрыятызму. Вялікую ролю ў распрацоўцы канцэпцыі гісторыі Беларусі адыграла «Наша ніва»: старонкі выдання сталі своеадметнай пляцоўкай для вяртання гістарычнай памяці. 1 студзеня 1910 года ў газеце пачалі друкаваць «Кароткую гісторыю Беларусі» В. Ластоўскага, які выклаў уласнанацыянальную гісторыю Беларусі. Разуменне вопыту, пакінутага мінулым, Ластоўскі лічыў абавязковай умовай для развіцця нацыі: «Гісторыя — гэта фундамэнт, на каторым будуецца жыцьцё народу. І нам, каб адбудаваць сваё жыцьцё, трэба пачаць з фундамэнту, каб будынак быў моцны. А фундамэнт у нас важны, гісторыя наша багата: "жатва многа, а дѣлатель мало", як кажэ святое пісаньне. Поле пустое, бо сыны бацькоўшчыны нашай к чужым у найміты пайшлі, чужыя гумны і засекі багацяць» [9, с. 5]. У невялікай па памерах працы В. Ластоўскі не толькі абагульніў вядомыя факты, але і прапанаваў новы погляд на іх, вылучыў шэраг гістарычных асоб, якія ў далейшым сталі для нацыі сімваламі мужнасці, святасці і мудрасці (Усяслаў Полацкі, Ефрасіння Полацкая, Вітаўт). Усведамленне неабходнасці асэнсавання гістарычнага шляху Беларусі стала паклiканнем часу, на якое адгукнуліся многія дзеячы Беларускага нацыянальнага адраджэння і якое выявілася ў росце цікавасці да старасвеччыны, археалогіі, этнаграфіі і фальклору.

Язэп Драздовіч, які таксама браў актыўны ўдзел у грамадска-культурным жыцці Беларусі, падтрымліваў цесную сувязь з «Нашай нівай» (у першую чаргу як мастак-афарміцель), прымаўся за рэалізацыю новых праектаў (збор матэрыялаў для Беларускага музея ў Вільні, складанне дыялектных слоўнікаў Дзісеншчыны і Піншчыны), не мог абмінуць увагай тэму слаўнага мінулага, што атрымала ў ягонай творчасці рэалізацыю як у візуальнай, так і вербальнай формах.



*У бажніцы Дайж-бога.*



*Усяслаў Чарадзей, князь полацкі (1920).*



*Святар-мудрэц «Галубіную кнігу» чытае.*

Згодна з меркаваннямі даследчыкаў, Язэп Драздовіч з'яўляецца адным з пачынальнікаў гісторыка-славянскай тэмы ў беларускім выяўленчым мастацтве [7, с. 99]. Гэты факт не выклікае здзіўлення, бо для мастака ці пісьменніка гісторыя — гэта не толькі спосаб выказаць свае погляды, рэалізаваць асветніцкія задачы, але і невычарпальная крыніца найцікавейшых сюжэтаў, велічных вобразаў, непрыдуманых трагедый і сапраўдных подзвігаў, вартых услаўлення і выяўлення. Амаль усе 1920-я праходзяць для Драздовіча «пад знакам гістарычнага рамантызму» [15, с. 6], што з'яўляўся непасрэдным працягам нашаніўскай традыцыі.

Захапіўшыся падзеямі і героямі мінулага, Драздовіч стварыў шэраг жывапісных палотнаў і графічных карцін, сярод якіх «Рагвалод — дзед князёў Полацкіх», «Усяслаў Чарадзей, князь Полацкі», «Раман Расціслававіч — князь Смаленскі» і іншыя творы, прысвечаныя знакамітым гістарычным асобам. У гэты ж час Драздовіч выпрацоўвае свой адметны мастакоўскі почырк — паяднанне сімваліка-алегарычанага паказу рэчаіснасці з канкрэтыкай, спалучэнне арыентальных матываў з уласнабеларускімі народнымі традыцыямі. За алегорыямі ў Язэпа Драздовіча прачытваюцца канкрэтныя гістарычныя падзеі. Вось як расшыфроўваў майстар прафесару Б. Эпімах-Шыпілу значэнне вобразаў, выяўленых ва ўласных творах: скала са святлом — «гэта, значыць, што ўсё старое будзець змыта, зпалошчыцца, толькі вера, рэлігія вытрымаець аралі і пазастаніцца»; лавіна — «крыга паўторнай рэвалюцыі, якая будзець гразіць сцёрці ўсё, што на ейным шляху»; пачвара, што плавае ў моры — «Японія гразіць і гразіць будзець у будучыні» [8, с. 131]. Нават у невялікіх малюнках з дапамогай сімвалаў мастак адлюстроўвае важныя сацыяльна-палітычныя праблемы: у графічнай віньетцы да нотаў нацыянальнага гімна праз адчыненую браму, праз разарваныя краты да светлай будучыні, да ззяючага храма-горада (сімвал новай Беларусі) ідзе натоўп людзей; жанчына, якую душыць пачвара ў канфедэратцы (эскіз фрэскі для Засвірскага кляштара), — зняволеная Беларусь (зрэшты, Драздовіч выяўляе зло ў вобразах пачвар-цмокаў). Паказальна, што вобразы разарваных кратаў і ззяючага храма (новай Беларусі) — даволі частыя ў спадчыне Я. Драздовіча, што сведчыць пра іх знакавасць: малюнак для друку (1910), «Алегорыя. (Прывід)» (1925), «Пагоня Ярылы» (1927), «У няволі» (1927), «Прарок» (1931). На жаль, захаваліся не ўсе сімваліка-алегарычныя творы Драздовіча — лёс твораў, перададзеных на захаванне прафесару Б. Эпімах-Шыпілу, невядомы.

Гістарычная тэматыка цікавіла майстра не толькі ў сімвалічным аспекце, аднак і ў даволі канкрэтным археалагічна-этнаграфічным плане. У пачатку 1920-х, пад-

час кароткага мінскага перыяду жыцця, калі яму давялося наведаць адукацыйныя курсы, Язэп Драздовіч стварыў графічную серыю малюнкаў, у якой рэканструяваў выгляд старажытнай беларускай архітэктуры (малюнкі «Гарадзец», «Сігнальная вежа «Веджа», «Хаты-буданы» і іншыя творы). Менавіта гэтыя графічныя малюнкі выклікаюць найбольшую цікавасць у гісторыкаў. Майстру належаць шматлікія серыі малюнкаў з выявамі архітэктуры, культавых збудаванняў і руін важных для беларусаў помнікаў-сімвалаў Радзімы: «Мірскі замак», «Наваградак», «Гальшаны», «Крэва» і іншыя. У графічных творах майстар таксама спалучае рэалістычнасць малюнка з пэўнай містычнасцю. Так, у выяве руін Крэўскага замка даследчыкі бачаць абрысы таямнічых сфінксаў, што, быццам асірыйскія вартаўнікі, «сцерагуць тайны гісторыі Беларусі. Іх профілі звернуты ў светлае неба і ўспрымаюцца як станоўчы знак веры ў будучыню Радзімы» [6, с. 23]. Багаты вопыт, атрыманы падчас працы над графічнай рэканструкцыяй старажытнай архітэктуры, Драздовіч выкарыстоўваў у літаратуры, уключаючы ў свае вербальныя творы дакладныя апісанні збудаванняў (экфрасісы). Прынцып спалучэння сімволіка-алегарычнага з канкрэтным прасочваецца і ў літаратурнай творчасці Язэпа Драздовіча.

Арганічным працягам распрацоўкі гістарычнай тэмы, прадстаўленай Драздовічам у візуальнай форме, стала яго вербальная інтэрпрэтацыя гісторыі Беларусі. Менавіта ў слове Драздовіч планаваў стварыць «шырокае гістарычнае палатно» [11, с. 450]. У 1921—1922 гадах ён працаваў над гістарычна-бытавым раманам «Гарадольская пушча», які так і не быў дапісаны. Частка рукапісаў твора знаходзіцца ў Архіве рэдкіх выданняў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх, частка — у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі імя Я. Коласа. Даступны матэрыял быў прааналізаваны даследчыкамі творчасці майстра А. Лісам і Ю. Малашам, якія не толькі далі крытычную ацэнку твору, але і ў сваіх працах прывялі ўрыўкі з «Гарадольскай пушчы» (даследчыкі цытавалі пераважна «літоўскія» рукапісы).

Дзеянне «Гарадольскай пушчы» адбываецца ў двух часавых планах: падчас Першай



*Без седака.*



*Пагоня Ярылы (1927).*

сусветнай вайны і ў часы княжання Вітаўта і Ягайлы. Працаўнікі ваеннага шпіталя — доктар Анімовіч, «вечнавясёлы вусач» санітар Радзька, аптэкар Парфумовіч, фельчар Гультаевіч, што па волі лёсу размяшчаюць свой шпіталь недалёка ад старажытнай валатоўкі, становяцца сведкамі загадкавага абраду, які праводзіць вясковы кніжнік Ягамосць Лявон: «Навокал таго зялёнага кургану (каторым мы ўжо раней былі зацікаўлены) звенавым сузвеннем, пакленчыўшы на каленях, усе як адзін апранутыя ў снежна-белыя вопраткі, босыя і без шапак, сівагаловыя нейкія дзяды. Яны стаялі так супакойна, што як быццам былі не жывыя гэтага свету людзі, а выхадцы з векавечнай вечнасці або разьбярскія творы з белага мармуру. З грудзей іхных стройным ціхім харавым тактам вырываліся з невыяўнымі падгукамі слоў жалобныя гукі модлаў і расплываліся навокал, як быццам нейкае далёка-далёкае баравое гугнавае рэха»[1] [3]. Таямнічую атмасферу відовішча, надаючы яму звышнатуральны характар, падкрэсліваюць выказванні санітара Радзькі, які на свае вочы бачыў, як «зямля застагнала», «пачалі падымацца магільныя пліты», з-пад пліт падняліся, а потым «павыходзілі белыя дзяды-чараўнікі на чале з высокім дзедам» [3]. У рэальнасці ж містыка знайшла даволі рацыянальнае тлумачэнне: Радзька — жартаваў, а магічнае дзеянне ўяўляла сабой не што іншае, як святкаванне Радаўніцы.

Спрабуючы высветліць, у гонар каго спраўляўся ўрачысты памінальны абрад, героі рамана распытваюць Ягамосця Лявона. Вясковы кніжнік сваім аповедам пераносіць працаўнікоў шпіталя на шмат стагоддзяў назад, у незалежную Гарадольскую пушчу, і знаёміць з лёсам князёўны Рутыльды-Русіславы, жыхарамі пушчы і іх прыгодамі, што распачынаюцца з задання прывезці ў пушчу граматы, якія б пацвердзілі «баярскае» паходжанне гарадольцаў.

Розныя часавыя вымярэнні звязваюцца ў рамане Драздовіча з пэўным колам праблем. XX стагоддзе (рэалістычны план) засяроджваецца на праблеме неабходнасці вяртання гістарычнай памяці (захапленне герояў археалогіяй — гэта не звычайная цікаўнасць, не проста даніна модзе, а сапраўдны пошук каранёў), праблеме вайны і міру. Героі Драздовіча задаюцца пытаннямі сутнасці вайны: «Не мы, не мы, — сухапіўся Радзька, — не мы, а тыя, што ў акопах сядзяць, за што яны ваююць?» «Хм… За што? За славу ўлады сваіх правадыроў, імёны каторых будуць упісаны жаўнерскаю кроўю на плітах гісторыі, — адказаў яму Ягамосць Лявон» [3]. Пацыфістычныя пагляды герояў маюць пад сабой аўтабіяграфічны грунт — Язэп Драздовіч прымаў удзел у Першай сусветнай вайне, працаваў у ваенным шпіталі, а таму не мог падтрымліваць працэсы мілітарызацыі.

Эпоха Сярэднявечча (легендарна-казачны план) звязана не толькі з канкрэтнай праблемай незалежнасці краю, праблемай свайго і чужога («Сцеражы Божа ў нас завядуцца заграніцкія парадкі» [ЦНБ, адз.зах 19]); праблемай улады ў шырокім сэнсе (дзе мяжа ўплыву адной асобы на іншую?); праблемай сацыяльнай няроўнасці, але і з анталагічнай праблемай незалежнасці кожнай асобы.

Разам з тым рэалістычны і казачна-легендарны планы процістаўляюцца — сучаснікі павінны кіравацца маральнымі імператывамі продкаў. Жыццёвы кодэкс гарадольцаў трапна сфармуляваў Ягамосць Лявон: «У тыя часы людзі людзей за людзей мелі, адзін аднаго шанавалі, адзін аднаго ў крыўду не папускалі, бо кругавую самі ад сябе зашчыту мелі; разумнейшы дурнейшага розуму вучыў, а дужэйшы слабейшага ад крыўд і нягоды бараніў, а праз гэта ўсе вольнымі былі… Зусім жыццё было другое: адзін аднаго не дурнілі, не галганілі, не паніжалі, і ад вялікай раскошы насоў сваіх не задзіралі. (…) Чужую волю гвалтаваць і з чужой працы за дарма жывіцца-карыстаць — за вялікі грэх сабе лічылі» [3]. Акрамя таго, пушчавікі высока цанілі і шанавалі адвагу і мужнасць, свабоду і чалавечую годнасць (героі рамана, Грыгор і Васілёк, патрапіўшы ў княжацкія палаты, не толькі не баяцца, але і звяртаюцца да прыдворных як роўных ім па статусе,

[1] Цытаты з рукапісных матэрыялаў Язэпа Драздовіча прыводзяцца ў адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі сучаснай беларускай мовы з захаваннем лексічных асаблівасцей аўтара — М. П.

абражаюцца і выказваюць абурэнне, калі «сталічныя» жыхары называюць іх «ваўкалакамі»). «Дзікары»-пушчавікі кіруюцца не традыцыяй і цырымоніямі і патрабаваннямі прыдворнага этыкету, а шчырымі пачуццямі: так, у знак удзячнасці за вызваленне ад жалезных кайданоў Васілёк цалуе князёўну Рутыльду, што, безумоўна, было парушэннем правіл.

Язэп Драздовіч планаваў напісаць «аповесць-легенду», у якой фальклорны пачатак спалучаўся б з гістарычнай дакладнасцю, аднак, як зазначае А. Ліс, майстру не хапіла адпаведных глыбокіх ведаў. «Здарылася тое, у чым мастак спачатку не мог прызнацца нават сам сабе: аднаго жывога ўяўлення, якім ён бязмерна валодаў, было замала, каб падняць вялікі гістарычны пласт», — піша даследчык [11, с. 451]. Сапраўды, варта пагадзіцца з меркаваннем А. Ліса, што Язэп Драздовіч прадставіў хутчэй легенду, чым гістарычны раман: гістарычны кантэкст у «Гарадольскай пушчы» і гістарычныя асобы выступаюць толькі фонам для расповеду аб жыцці насельнікаў пушчы.

Фальклорны пачатак у рамане Драздовіча мацнейшы — у творы сустракаюцца сюжэтныя схемы, вобразы і матывы, традыцыйныя для фальклорных жанраў: падарожжа героя ў іншы горад ці краіну з пэўнай мэтай і прыгоды, што сустракаюцца на іх шляху (Грыгор і Васілёк едуць у стольнае места па граматы); вобраз сіраты; выкраданне (і варыянт — уцёкі) князёўны (Рутыльда, не вытрымаўшы жыцця пры каралеўскім двары, выраша збегчы ў пушчу разам з Васільком); проціпастаўленне справядлівы // несправядлівы ўладар (Вітаўт, патрыёт сваёй зямлі, і Ягайла, што «каралём сябе называе, а каралі заўсёды паноўскага духу, і хоць у іншага з іх галава мохам набіта, а моцна любяць бачыць перад сабой людскую пакору і нізкае кланенне» [3]); нараджэнне незвычайнага дзіцяці (нараджэнне Давыда Скамароха, асілка, якога знайшлі арабы). Сюжэтная лінія з Давыдам Скамарохам не была падрабязна выпісана Драздовічам у рамане, але майстар планаваў развіць гісторыю асілка ў аднайменнай паэме «Давыд Скамарох», да якой захаваліся толькі напрацоўкі (эскізы), урыўкі, па якіх, аднак, можа меркаваць пра міфалагічна-казачную аснову твора:



*Віньетка да нот беларускага нацыянальнага гімна.*

Дзе ні глянь — ўсё лясы ды лясы…
Дзе ні глянь — ўсё бары ды бары, верасы…
Колькі дзіўнай, но дзікай красы…
Стыне бор, стынуць хвоі, шумяць,
Быццам нейкае сіняе мора.
Хвалі ветру нясуцца па ім…
Залацістыя стройныя хвоі —
Над каўрамі імшастых нізін…
Шэлест лісту пужлівых асін…
Гоман бору тут, шум баравы…
Уцячы ад людзей, уцячы!
Уцячы хоць на час ад людзей!
Валатоўкі спрадвечных магіл…
Быў калісь на гары чалавой
Пабудованы хорам-святыня
У чэсць славянскіх багоў на ўзгор'і.
А пры хораме тым на гары,
у дуброве свяшчэнных дубоў,
жыў тут старац-мудрэц адзінока.
Світагорам яго называлі,
Ведаў мыслі людзей чарадзей.
Ведаў зоркі, якія на небе [1].

Сувязь рамана Язэпа Драздовіча з вуснапаэтычнай творчасцю ілюструе адзін са шляхоў станаўлення беларускай гістарычнай прозы ў цэлым: «фальклорны матэрыял нясе асноўную ідэйна-тэматычную нагрузку, выражаючы праз адметныя і традыцыйныя вобразы і матывы народную гістарычную свядомасць у дакладных сувязях з рэчаіснасцю ці яе пераўтварэннях» [16, с. 17].

Такім чынам, вызначэнне «Гарадольскай пушчы» як гістарычнага твора — даволі ўмоўнае, аўтарскае, а вось характарыстыка «бытавы» цалкам адпавядае рэчаіснасці: побыт пушчавікоў прыцягвае вялікую ўвагу



*Геройства Доні Зашчаслаўны на вежы Празора.*

Драздовіча — майстар апісвае адзенне («у кунічых ды бабровых шапках хадзілі, у мядзведжыя ды лісіччыя бармы адзяваліся, лычаныя ж лапці толькі на ловы ды на брод па балотах ужывалі [5]») і жытло гарадольцаў. Праз матэрыяльны складнік Драздовіч спрабуе паказаць духоўную культуру гарадольцаў, выявіць светапогляд герояў (нягледзячы на тое, што пушчавікі жылі ў цёмных курных хатах, душою яны імкнуліся да святла). «Даўнейшыя людзі да красы-харaства шмат чулейшымі былі, свае сумныя песні любілі, а побач з красой дабрату людзей шанавалі», — зазначае Я. Драздовіч [5].

Адным з яскравых вобразаў у рамане з'яўляецца вобраз князёўны Рутыльды-Русіславы. Высакародная, прыгожая, адукаваная, а галоўнае — таленавітая: «Найбольшай жа пакрасаю князёўны Рутыльды была яе прыроджаная здольнасць да маляўніцкага мастацтва, якім і слыла на ўсё стольнае места як самая найдаравіцейшая паміж тагачасных іканапісцаў» [5]. Зварот Драздовіча да вобраза іканапісца — паказальны: у вобразе Рутыльды сыходзяцца погляды мастака і пісьменніка, вербальнае і візуальнае. Абразы князёўны ўвасабляюць драздовічаўскае разуменне сутнасці працы творцы, яго індывідуальнасці: ствараючы іконы, Рутыльда кіравалася ўласнымі эстэтычнымі поглядамі, а не строгімі канонамі і стылямі, хоць і была знаёма з іх прынцыпамі. Князёўна заўсёды імкнулася надаць лікам святых натуральнасці, мяккасці і лагоднасці, дзякуючы чаму яны выглядалі як жывыя людзі з эмоцыямі і перажываннямі.

Вобраз Рутыльды-Русіславы адсылае да мясцовых легенд і падання (лёс князёўны суадносіцца з гісторыяй пра Долю, ад імя якой утварылася назва пушчы — гара Долі), аднак, не падаецца схематычным — Драздовіч звяртае ўвагу на даволі далікатны псіхалагічны момант: прыгажуня-князёўна мае вялікія, грубыя далоні. І, як сапраўдная жанчына, моцна перажывае з-за гэтага, хаваючы свае рукі ад цікаўных поглядаў (гэты момант Драздовіч зафіксаваў і ў візуальнай форме, стварыўшы адпаведны малюнак-ілюстрацыю да рамана).

Спроба пранікнуць ва ўнутраны свет гераіні — не першая ў творчасці Язэпа Драздовіча. Адным з першых пісьменніцкіх вопытаў майстра стала апавяданне пра няшчаснае кахан-

не «Нявольніца кволага сэрца», галоўнай гераіняй якога з'яўлецца дзяўчына Гэлька. У архівах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі захаваліся чарнавікі з накідамі (у вызначэнні Драздовіча — эскізамі) да твора, на старонках якіх выяўлены душэўныя пакуты дзяўчыны. Не вытрымаўшы невядомасці і расстання з каханым Адолькам, дзяўчына здзяйсняе спробу самагубства, кінуўшыся ў мора: «Я не жыву, а тлею, дажываю. Жыву мінуўшчынай ды снамі. Таго, каго я так горача-шчыра люблю і любіла, мне не спаткаць ніколі. Ён для мяне памёр, як паміраюць у жыцці пражытыя дні і леты, мне не вярнуць яго, як не вярнуць той вясны… Бывай, жыццё! Бывай, радня, што не зразумела душы маёй пакутнай! Бывай і ты, вясна любві маёй…» [2].

Мастак выступае сапраўдным псіхолагам: эмацыянальны стан гераіні, яе узрушанасць і адчай удала падкрэсліваюцца апісаннямі бегу адзінокага халоднага трамвая, колы якога выстукваюць рэфрэн-праклён: «Ахвярай ты ляжаш праз кволае сэрца». Напружанасць сітуацыі ўзмацняецца зменай малюнкаў за акном, а таксама раўнадушшам да просьбаў Гэлькі велічнага мора: «Бедная Гэлька, няшчасная Гэлька, ты здурнела: твае клікі і енкі ніхто не пачуе…» [2]. Язэп Драздовіч, звярнуўшыся да даволі трывіяльнага сюжэта, здолеў выявіць шырокі дыяпазон пачуццяў гераіні: адчай («Бывай, жыццё!»), каханне («для мяне ты даражэй за ўсё на свеце»), самаахвярнасць («І зраблю цябе вольным, а жыццё тваё прыгожым, шчаслівым, багатым»), расчараванне і злосць («А цяпер? Цяпер ты для мяне памёр, загінуў, цябе няма…»). На жаль, па невялікіх эскізах Драздовіча складана рэканструяваць тэкст апавядання. Аднак, і гэтыя ацалелыя фрагменты сведчаць пра пісьменніцкі патэнцыял майстра, што, пры спрыяльных умовах, мог атрымаць належнае развіццё.

Даследчык Ю. Малаш называе раман «Гарадольская пушча» самым удалым з мастацкага пункту гледжання літаратурным творам Язэпа Драздовіча, у якім «унікальны фальклорны, гістарычны матэрыял прадстаўлены на рукапісных старонках не толькі са скрупулёзнай падрабязнасцю даследчыка, але цікава і жыва апрацаваны ў мастацкую форму беларускага слова» [13]. Сапраўды, раман Драздовіча — цікавы і ўнікальны твор, у якім ён спалучае гераічнае з гумарыстычным (пушчавікі Грыгор і Васілёк увесь час трапляюць у недарэчныя сітуацыі, што ўпісваюцца ў распаўсюджаную схему «селянін у горадзе», з якіх, варта адзначыць, героі выходзяць з гонарам), высокі стыль аповеду, набліжаны да сказавай формы, з прастамоўем, рэальнае з містычным (Ю. Малаш характарызуе раман як прыгодніцкі і часам містычны [12]).

Цікавасць да містычнасці і прыгодніцкі элемент збліжаюць твор Я. Драздовіча з аповесцю ягонага земляка, В. Ластоўскага, «Лабірынты» (1923). Супадзенні назіраюцца ў арганізацыі хранатопу, якому ўласцівы часава-прасторавыя зрухі, а таксама ў вобразнай сістэме, асаблівай увазе да абрадавага цыкла смерць-адраджэнне. І ў аповесці Ластоўскага, і ў творы Драздовіча прысутнічае вобраз праваднікa: Іван Іванавіч з «Лабірынтаў», аматар-археолаг, вакол якога групуюцца зацікаўленыя старасвеччынай, носьбіт грунтоўных ведаў, праводзіць героя твора не проста па збудаваных пад Полацкам лабірынтах, а па лабірынтах сусветнай гісторыі і культуры, у якія арганічна ўпісваецца беларускі элемент; герой Язэпа Драздовіча, Ягамосць Лявон, вясковы самавук-энцыклапедыст, выступае ў тэксце «Гарадольскай пушчы» захавальнікам старажытных ведаў і спрадвечнай маралі. Менавіта Ягамосць Лявон распавядае пра «пушчаўскія часы», даючы слухачам магчымасць адкрыць і ажывіць для сябе вобраз незалежнай, самабытнай Беларусі.

Адметную мастацкую з'яву складаюць ілюстрацыі да рамана «Гарадольская пушча», што высока ацэньваюць спецыялісты-мастацтвазнаўцы: «Князёўна Рутыльда» (Русіслава)», «Святар-мудрэц "Галубіную кнігу" чытае», «Геройства Доні Зашчаслаўны на вежы Празора», «У бажніцы Дайж-бога», «Без седака», «Уцёкі» і іншыя выявы, якія ў сучасных варунках могуць разглядацца і як самастойныя творы, і як «падказкі» для ўзнаўлення сюжэта «Гарадольскай пушчы». Аднак менавіта ў сінтэзе слова і выявы магла выявіцца галоўная адметнасць рамана, калі б Драздовіч рэалізаваў сваю задуму.

Даследчыкі (А. Ліс, Ю. Малаш) задаюцца пытаннем, чаму Я. Драздовіч не скончыў раман, які, відавочна, пісаў з вялікім энтузіяз-

мам. Адной з галоўных прычын называецца недахоп гістарычных ведаў і адпаведнай падрыхтоўкі, што ў пэўнай ступені падаецца нам справядлівым, аднак існуе і дастаткова «асабістая» прычына. У лісце да Віленскага выдавецкага таварыства ад 4 студзеня 1922 года Язэп Драздовіч піша: «Дзве буйных белетрыстычных маіх працы як повесць з інтэлігенцкага жыцця “Вар’ят без вар’яцтва” і гістарычна-бытавы раман “Гарадольская пушча” ляжаць незакончанымі, бо заканчваць іх ахвота пагасла… Нашто? На загінанне? Каб пасля майго лунання? нехта з цёмных-несвядомых рукапісы на папіросках скурыў?» [4].

«У беларускім мастацтве Язэп Драздовіч вядомы як адзін з пачынальнікаў гісторыка-славянскай тэмы: майстру належыць шэраг шырокавядомых жывапісна-графічных твораў на дадзеную тэму. Меншай папулярнасцю карыстаюцца літаратурныя творы Драздовіча, прысвечаныя гістарычным падзеям. Раман Язэпа Драздовіча “Гарадольская пушча” працягвае рамантычную лінію ў інтэрпрэтацыі гісторыі, што заключаецца ў паказе “натуральнага чалавека”, вобразаў і малюнкаў жыцця прастадушнага і мудрага ў сваёй наіўнасці люду на ўлонні некранутай цывілізацыяй прыроды» [14, с. 32].

У сваім творы Язэп Драздовіч сумяшчае і адначасова проціпастаўляе два часава-прасторавыя планы (перыяд Першай сусветнай вайны і «залатыя часы» Вітаўта), звязаныя з адпаведным комплексам праблем; спрабуе паяднаць гістарычную дакладнасць з фальклорным пачаткам, што з’яўляецца ў творы дамінуючым. Гістарычны кантэкст і адпаведныя персаналіі выступаюць фонам для разгортвання сюжэта аб побыце гарадольцаў. Такім чынам, гісторыя ў рамане Я. Драздовіча «Гарадольская пушча» носіць рамантызаваны, напаўлегендарны характар.

**ЛІТАРАТУРА:**


1. Архіў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі (ААРКР ЦНБ НАНБ). — Ф. 2. Воп. 1. Адз. зах. 16. Вершы.
2. Архіў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі (ААРКР ЦНБ НАНБ). — Ф. 2. Воп. 1. Адз. зах. 18. Нявольніца кволага сэрца.
3. Архіў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі (ААРКР ЦНБ НАНБ). — Ф. 2. Воп. 1. Адз. зах. 19. Гарадольская пушча.
4. Архіў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі (ААРКР ЦНБ НАНБ). — Ф. 2. Воп. 1. Адз. зах. 38. Лісты.
5. Архіў рэдкіх выданняў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх (АРВ БАНЛ). — Ф. 21. Адз. зах. 98. Гарадольская пушча.
6. Вакар, Л. Арыенталізм у творчасці Я. Драздовіча / Л. Вакар // Язэп Драздовіч. «Прыйдзе час». — Смаленск: Зубр, 2008. — С. 22—27.
7. Габрусь, Т. Зорны шлях вечнага вандроўніка / Т. Габрусь // Роднае слова. — 2008. — № 10. — С. 98—101.
8. Драздовіч, Я. На пазахатнім свеце / Я. Драздовіч // Полымя. — 2014. — № 8. — С. 127—154.
9. Ластоўскі, В. Ю. Кароткая гісторыя Беларусі / В. Ю. Ластоўскі. — Мн.: Універсітэцкае, 1993. — 126 с.
10. Ластоўскі, В. Ю. Выбраныя творы / В. Ю. Ластоўскі. — Мн.: Міжнар. фонд «Бел. кнігазбор», 1997. — 510 с.
11. Ліс, А. Вечны вандроўнік / А. Ліс // Gloriavictis: Збор твораў. — Мінск: І. П. Логвінаў. — С. 427—528.
12. Малаш, Ю. «Нашы прадзеды жылі словамі…» Літаратурная і даследчыцкая дзейнасць Язэпа Драздовіча / Ю. Малаш // Роднае слова. — № 2. — 1998. — С. 173—182.
13. Малаш, Ю. «На пакрасу жыцця…» Слова пра беларускага «небазнаўца» Язэпа Драздовіча / Ю. Малаш // Дзеяслоў. — 2009. — № 39. — С. 283—290.
14. Тычына, М. А. Карані і крона: Фальклор і літаратура / М. А. Тычына. — 2-е выд. — Мн.: Бел. навука, 2002. — 197 с.
15. Усава, Н. Язэп Драздовіч / Н. Усава // Язэп Драздовіч — Язеп Дроздович — Yazep Drozdovich. Славутыя мастакі з Беларусі. — Мінск: Беларусь. — С. 3—14.
16. Шынкарэнка, В. К. Нястомных пошукаў дарога: Прабл. сучас. бел. гіст. прозы / В. К. Шынкарэнка. — Мн.: Бел. навука, 2002. — 208 с.

*Язэп ДРАЗДОВІЧ*

# РАЗГАНЯЮЧЫ КЛОПАТ-ТУГУ І ДАСАДУ

* * *

Ты верыш у нішто,
А я — ў Закон законаў
Сусветнага жыцця.

* * *

Люблю красу,
люблю прастор,
свабоду,
бо я — мастак
працоўнага народу.

**УРЫВАК З ДРАМЫ — «ПАРТРЭТ БЕЗ РАМЫ».**

На сцэне Галя і Язэп.

Галя <да Язэпа>:
— Я й раней табе казала,
Каб ты водачкі не піў
Ды штаны сабе купіў,
Каб меў выгляд — словам «ах!»
Каб не быў як манах,
бо ўся сіла… у штанах.

* * *

Я па свеце хаджу
І людзей нахаджу,
Не сціснлюць мяне
Засцянковыя хаты і вёскі.
А паноў і двары
Я кругом абхаджу,
Бо двары — гэта
Гнёзды прыгону і розгі.

* * *

Я — художнік-мастак бедакоў,
Я — працоўнага люду мастак.
Я не знаю паноў, ні панкоў,
Па прыродзе сваёй я прастак.
Ад працоўнага люду свой хлеб зарабляю,
Люд працоўны мне працу дае.
Ад паноў жа я працы не маю:
Непатрэбны ім працы мае.

* * *

Кій мой, верны друг,
Кій, прыяцель мой,
Нам не трэба слуг —
Я ды ты са мной.

Дзе работа ёсць,
Там прытон[1] знайдзём,
А дзе нет яе,
Там далей пайдзём.

Людзі едуць нас,
Абмінаючы,
А мы, друг, з табой —
Кавіняючы[2].

Неабміненых
Часам косімся.
«Падвязіце нас…» —
Не папросімся.

Нам нестрашан свет,
Даль-далёкая,
Абы сыт жывот —
Хада лёгкая.

[1] Прытулак.

[2] Кавіняць (*дыял.*) — кульгаць.

* * *

Я з вечна вандроўных,
Бяздомных людзей,
Што ўласнага кута не маюць,
Што не маюць сям'і,
Ні жон, ні дзяцей,
Сіратліва сябе адчуваюць.

Адчуваюць сябе сіратой
Ні каня, ні машыны не знаюць.
Па дарогах брыдуць пехатой,
З хатулём[1] на плячах кавіняюць.

* * *

Я па свеце хаджу
Ды чужыя куты украшаю.
Я і свой бы куток разукрасіў,
Ды, на жаль, свайго кута не маю.

## «З ЖЫЦЦЯ НА МЕСЯЦЫ»

Там сівыя, як сталь, небеса,
Там грымот і дажджоў не бывае.
Замест дажджу там іней-раса
Па начах усё пакрывае.

## «ЭХ, ТЫ РУСЬ»

Эх, ты Русь, ты Русь,
Племя брацкае,
Багатырскае
Ты й жабрацкае,

Ты й зялёная,
Ты і спелая,
Ты й адважная,
Ты й нясмелая,

Дзе геройская,
Сілай дружная,
А дзе россыпам —
Саматужная,
Ты й зялёная,
Ты і красная,
Ты й шчаслівая,
Ты й няшчасная.

Ты звергла з сябе
Іга царскае,
Як звергла калісь
І татарскае,

А ці чуеш Ты
Сябе вольнаю,
І шчасліваю,
І давольнаю?

* * *

Для нас нізы —
Цэнтр прыцягу зямнога,
А для Зямлі ніз —
Сонца залатое.
Для Месяца ж ніз —
Нашая Зямля.

## «ДЫК ТРУБІ Ж, ПАСТУШОК»

Хто з малку чуваўшы
Зязюльчыну песню «Ку-ку!»
Або шчэбет і свіст у гаі
Салаўя ці шпака свістуна-перапева,
Той, напэўна, адчуе са скукі
І пастушскія трубныя гукі,
Што здалёку нясуцца, плывуць
Дзесь з-за лесу з пастушскай трубы,
Ды так міла прыемна лагодзячы слых,
На душу навяваючы дух супакою,
Разганяючы клопат-тугу і дасаду,
Пабуджаючы рой успамінаў
Пра шчаслівыя леты дзіцячых гадоў,
Калі жыць пачынаў…
Дзесь ля пушчы…
Дык трубі ж, пастушок, на трубе,
Рассылай у прастор твае трубныя гукі!
Хай плывуць, хай лятуць
У далёкую даль,

[1] Хатуль (*разм.*) — вялікі клунак рэчаў, звязаных у хустку, посцілку, які звычайна носяць за плячамі.

Хай далёка-далёка нясуцца!
Мо іх дзе дзесь нехта пачуе
І на струджаным клопатам сэрцы адчуе,
Як лагоныя лекі душы.
Ад забітасці горам, тугі,
Хоць на час хай забудзецца гора другі.

**«ВЕТАШОК»**

Узноў па поўням мне свеціць
Скрозь шыбы ясны веташок.
На цёмным небе след свой меціць,
Як пазалочаны ражок.
Скажы мне, ветах-веташок,
Куды імкнешся ты, дружок?..
Мо як і я імкнешся ты
Што й сам не ведаеш куды?..
Ты будзіш думак маіх рой:
Сягодня ты ў маім акне,
А заўтра гэткаю парой
Мо й не засвеціш ужо мне?..
О, мы з табой па поўнаце жыцця,
Здаецца, быццам харашэем:
Іграем роль здавольнага гасця —
Штодзень, аднак жа, «веташэем».

**«У ГАРАДАХ ТВАІХ»**
***(з эскізаў да паэмы «Трызна мінуўшчыны»)***

У гарадах Тваіх вежы ўзносяцца,
Там гудзяць званы, гук разносіцца.
Камяны дымяць фабрык новыя,
Там гудзяць гудкі машыновыя.
Там шыпяць катлы паравозныя,
Стукат, шум машын — гукі розныя.
Па начах святло, як ад Месяца,
Дзе ні глянь — агні ясна свецяцца.
Дзе ні глянь — муры мнагастольныя.
Там — шчаслівыя і бяздольныя.
Там па вуліцах аўты носяцца,
Пешаходныя на іх косяцца.

Аўты носяцца, аўты поўзаюць,
Кіны свецяцца, людзі сноўдаюць,
Мігцяць вывескі, бубніць радыё,
Веіць пудрамі, як ад кадзіва.
Звініць музыка кабарэтная,
Кругом публіка — больш брунетная.
Больш брунетная, таргавітая,
На гольд-золата прагавітая.

*Падрыхтоўка да друку*
*Маргарыты ПЯТУХОВАЙ*



Ірына САМАТОЙ

# ЖЫЦЦЁ ПРАДОЎЖЫЦЦА Ў ПЕСНІ

## *Творчы партрэт Анатоля Канапелькі*



*Анатоль Канапелька.*

Сярод творчых індывідуальнасцей пасляваеннага, так званага філалагічнага пакалення, якое прыйшло ў літаратуру ў 60-х гадах мінулага стагоддзя, непаўторнасцю вылучаецца постаць віцебскага паэта, перакладчыка, літаратуразнаўцы, лаўрэата абласной літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча, педагога, які, на жаль, рана і нечакана пайшоў з жыцця, Анатоля Канапелькі. Паэзія Канапелькі — лірычная споведзь чалавека, які па-філасофску імкнецца асэнсаваць гістарычныя падзеі і з'явы з пазіцыі сучаснасці, праз гранічнае эмацыянальнае напружанне выявіць і сумясціць грамадзянскае і асабістае, высокае і будзённае.

Характар творчасці пісьменніка, як вядома, абумоўліваецца яго біяграфіяй. Анатоль Канапелька нарадзіўся 16 лістапада 1939 года ў мястэчку Расоны Віцебскай вобласці ў сям'і служачага. Належыць да пакалення тых, чыё дзяцінства было ваенным.

Нам
не забыць
ваенныя гады,
цяжар нечалавечы на плячах,
як чорным крумкачом кружыўся чорны дым
і сонца чорнае канала у вачах [1, с. ].

Менавіта такі лёс напаткаў Канапельку. Ён нарадзіўся ўжо дарослым. Такой незвычайнай сталасці паспрыяла вайна. Вось радкі з аўтабіяграфіі паэта з архіва ВДУ: «Я, Конопелько Анатолий Николаевич, родился 16 ноября 1939 года в м. Россоны, Россонского района, Витебской области в семье служащего. Отец, Конопелько Николай Климентьевич, работал следователем, мать, Конопелько Галина Семёновна, — воспитательницей детского сада. С первых дней Великой Отечественной войны отец и мать находились в партизанском отряде "Родина" бригады "Разгром", который действовал на территории Минской области». Маленькі Толік таксама дапамагаў партызанам, сам таго не ведаючы. Маці, Галіна Сямёнаўна, калі ішла на заданне даведацца пра апошнія падзеі ў горадзе, брала з сабой трохгадовага сына; мазала яго зялёнкай, перад нямецкім пастом пляскала па мяккім месцы — і Толік пачынаў плакаць. У немцаў не было сумнення, што ён хворы на воспу. Маці з сынам без перашкод траплялі ў горад. Рэальна перажытае і адпакутаванае пазначана дыханнем трагізму:

Мы нарадзіліся такія,
такімі будзем да канца:
нястомныя і трапяткія,
з нязломнай воляю байца.

Не глухлі мы у громе бою —
бацькам нялёгкі выпаў лёс.
Мы нарадзіліся з табою
сярод параненых бяроз.

Глядзі і помні, мой равеснік,
бярозы йшчэ былі ў бінтах,

а мы пад чыстым небам веснім
барозен шэрых чулі пах.

Нам любы даль цяжкіх вандровак,
зялёных лісцяў аганькі,
ў пакутах знойдзенае слова
і поціск шчырае рукі [1, с.13].

Ваенная тэматыка асэнсоўваецца ў вершах, «Памяць», «Мы нарадзіліся такімі», «Франтавыя дарогі», «Колькі блізкіх і родных імён», «У Брэсцкай крэпасці», дзе сказанае пра сябе стала прыналежным да пакалення дзяцей вайны, як іх асабістае і запаветнае.

Пасля вайны вучыўся ў СШ № 7 Полацка, а ў 1956 годзе стаў студэнтам філалагічнага факультэта Полацкага педагагічнага інстытута, пазней факультэт перавялі ў Магілёўскі педагагічны інстытут. Успаміны кандыдата філалагічных навук, аднакурсніка Анатоля Емяльянава:

— Памяць вядзе ў 1957 год, калі ўпершыню сустрэўся ў студэнцкай аўдыторыі Полацкага педагагічнага інстытута з Анатолем Канапелькам. Перада мной стаяў пасапраўднаму светлы чалавек з незвычайна цёплымі вачыма, акуратны, падцягнуты. Усе пяць год вучобы ў інстытуце ён быў выдатнікам. Прыгадваюцца літаратурныя вечарыны, на якіх пачынаючы паэт напеўна, як Рыгор Барадулін, чытаў свае вершы. Мне пашчасціла жыць з Толем у адным пакоі ў студэнцкім інтэрнаце. На вачах развіваўся яго талент. Вялікі ўплыў на яго аказала чароўная аднакурсніца Святлана, якая стала Музай усёй яго паэзіі... Як не хапае нам незабыўнага Анатоля Мікалаевіча!

Пасля заканчэння вучобы ў 1961 годзе працаваў дырэктарам Бароўскай вячэрняй школы Магілёўскага раёна, з 1968 года выкладаў гісторыю беларускай літаратуры ў ВДУ імя П. М. Машэрава. Памёр 18 снежня 2002 года.

Вершы пачаў пісаць яшчэ школьнікам. У друку яны ўпершыню з’явіліся ў 1955 годзе ў полацкай газеце «Сцяг камунізму». Аўтар зборнікаў вершаў «Зямная сімфонія» (1966), «Сустрэчы» (1979), «Музыка лістапада» (1999), «Жыццё прадоўжыцца ў песні» (2010). Друкаваўся ў калектыўных зборніках «Дзвіна» (1958), «Калінові мост» (1969), «Беларускі каляндар» (1970), «Матчына слова» (1991), «Анталогія беларускай паэзіі. Т. 3» (1993). Вядомы як літаратуразнаўца, аўтар навукова-публіцыстычных артыкулаў, прысвечаных беларускім пісьменнікам. Перакладаў на беларускую мову вершы рускіх, польскіх, чэшскіх, венгерскіх, цыганскіх паэтаў.

У сваёй творчасці Анатоль Канапелька захоўваў і працягваў класічныя традыцыі нашай нацыянальнай паэзіі, свядома арыентуючыся на лепшыя ўзоры паэзіі Я. Купалы, П. Панчанкі, У. Караткевіча, пераклікаючыся з паэтамі-равеснікамі Р. Барадуліным, Г. Бураўкіным, М. Стральцовым, Д. Сімановічам. Ранняя паэзія Канапелькі ў асноўным мажорная: адчуваецца бадзёрасць, захапленне навакольным светам, радасцю жыцця, усведамленнем сваёй значнасці:

Мой свет адкрыты шчасцю
І дабрыні людской.
Нялёгка песню скласці
І стаць самім сабой [1, с.45].



*З бацькамі.*



*З жонкай Святланай Іванаўнай.*

У літаратурным наробку паэта пачэснае месца займае грамадзянская лірыка і вершаваная публіцыстыка, прадыктаваная логікай светаадчування лірычнага героя. Бязмежная любоў да Бацькаўшчыны, нацыянальнай спадчыны, паважлівыя адносіны да роднай мовы і культуры, бескампрамісныя адносіны да бездухоўнага і нізкага вызначылі творча-грамадзянскую пазіцыю Канапелькі. Аўтар выказвае сваё разуменне падзей і з'яў, ацэньвае іх з пазіцыі паэта-патрыёта:

Я веру ў тое, што люблю,
Я веру ў тое, што кахаю,
У сваю пакутную зямлю,
З якой усе мы ўзрастаем.
Яна не здрадзіць, не прадасць,
Плыве ў сусвеце сціплай знічкай,
Калі патрэбна — сілы дасць,
А трэба — да сябе пакліча [1, с.6].

Гістарызм мыслення, асэнсаванне нацыянальных вытокаў характэрны для лепшых вершаў А. Канапелькі («Беларусі», «Я параўнаю з дзівасілам», «Васілю Быкаву», «Загляне сонца і ў наша ваконца», «На Івана Купалу», «Зямная сімфонія»). Вяртанне да роднага слова, самаадданае служэнне беларускай мове, мацерыку духоўнай культуры, стала адной з важнейшых складаючых канцэпцыі паэзіі А. Канапелькі. Урачыста-песенная інтанацыя, узрушанасць і прачуласць яднаюць верш «Роднае слова» віцебскага паэта з вершам «Родная мова» Пімена Панчанкі:

Адкрываю, як свет, нанова
беларускае роднае слова,
пералівістае — як каменьчык,
вясёлкавае — як ручэй,
цёплае — як агеньчык
добрых тваіх вачэй,
светлае — як маланка,
гнеўнае — як пярун,
ціхае — як калыханка,
вечнае — як Беларусь! [1, с.9]

Усё жыццё побач з Анатолем Мікалаевічам былі шчырыя, таленавітыя людзі — яго сябры, падтрымка не толькі ў асабістым жыцці, але і ў творчай дзейнасці. Вершы паэта мелі канкрэтных адрасатаў, многія з іх прысвечаны землякам-літаратарам П. Броўку, У. Караткевічу, В. Быкаву, Е. Лось, Р. Барадуліну, сябрам, калегам З. Канапельцы, Д. Сімановічу, М. Цішачкіну, У. Папковічу. Літаратуразнаўца Вольга Русілка, характарызуючы паэзію Анатоля Канапелькі, адзначыла: «Невыпадкова ў гэтым светлым і лёгкім, як узмах крыла, імені — Анатоль Канапелька — прыцішана гучыць мелодыя мудрага і спакойнага анапеста, самага "інтэлігентнага" з вершаваных памераў, найбольш прыдатнага для філасофскай элегіі ці малітвы» [2, с. 4]. Прыроджаная інтэлігентнасць творцы праяўляецца ў цікавасці да жыцця, высакароднасці пачуццяў, добразычлівасці да людзей:

Не кідайце
На Чалавека
        цень,
            не кідайце!
Кожную раніцу,
Кожны дзень
Чалавека вітайце!
Чалавеку заўсёды
Верце
Адкрыта і чэсна!..
А прамень жыцця абарвецца —
Жыццё
    прадоўжыцца ў песні!.. [1, с. 40]

У лірыцы позняга часу, прасякнутай магістральнымі радкамі «Я кожны дзень сябе знаходжу…» шмат філасофскіх рэфлексій, медытатыўнай танальнасці. Элегічныя вершы-роздумы («Яшчэ адна восень паляцела ў вырай», «Не трэба чалавеку адзіноты», «Не хавайце сваіх усмешак», «Лістапад», «Адыходзяць сябры, адыходзяць») звернуты да вечных ісцін і каштоўнасцей, вялікай стваральнай сілы прыгажосці і дабра.

Несумненна, значныя набыткі паэта і ў асэнсаванні тэмы кахання. Інтымная лірыка Анатоля Канапелькі акрэслівае характэрную асаблівасць яго героя — вернасць пачуццю, павагу да жанчыны. Унікальная з’ява ў беларускай паэзіі: любоўныя вершы прысвечаны адзінаму каханню — жонцы Святлане. Вобразы прыроды гарманічна спалучаюцца з пачуццямі закаханых у вершах «Зорка Святлана», «Завея круціць, як прадонны вір», «Любімая, не трэба сумаваць». Вобраз вечна летняга эдэмскага саду ў вершы «Маёй любові снежны зарапад» персаніфікуецца ў вобраз беларускага зімовага саду, над якім «…любові ціхі зарапад // плыве ў прасторы харацтва зямнога» [1, с.57]. Праз усю творчасць Анатоля Канапелькі праходзіць тэма вернасці рамантычным ідэалам гуманізму і прыгажосці:

Аснежаны, шчаслівы, вельмі рад:
Нас не кранула горычы трывога.
Маёй любові ціхі зарапад
Плыве ў прасторы харацтва зямнога [1, С.57].

Адметнасцю семантыка-эстэтычнага поля паэзіі Анатоля Канапелькі з’яўляецца выверанае, устойлівае захаванне і працяг класічных традыцый беларускай нацыянальнай паэзіі. Паэт таленавіта, па-мастацку аб’яднаў у сваёй лірыцы грамадзянска-публіцыстычныя і філасофска-медытатыўныя матывы, прадэманстраваў высокае майстэрства стварэння паэтычнага вобраза, сімвала, мастацкай дэталі, разнастайных прыёмаў і сродкаў. Звыклая прастата традыцыйных памераў яго лірыкі хавае ў сабе глыбокі духоўны сэнс і сапраўдную эстэтычную культуру, выяўляе дакладную кардыяграму жыцця паэта, здольнага на глыбокае самавыяўленне.

Высокай ацэнкі заслугоўвае перакладчыцкая дзейнасць Анатоля Канапелькі. Ён добра ведаў сусветную літаратуру, цікавіўся культурай народаў. З польскай мовы пераклаў балады і вершы свайго земляка Яна Баршчэўскага. Самай значнай працай стаў пераклад цыкла вершаў «Лісты да Юліі» — гімн сапраўднаму каханню і тым узнёслым, а часам і трагічным перажываннім, што яму спадарожнічаюць. Кніга выйшла ў 2003 годзе ўжо пасля смерці Анатоля Канапелькі.

Перакладчык, паважліва адносячыся да аўтара, стаў праніклівым чытачом-суразмоўнікам, дасягнуў сэнсава-мастацкай адпаведнасці перакладу і арыгінала, данёс да




*Са студэнтамі-філолагамі ВДУ імя П. М. Машэрава.*

